

## «А хто мой бліжні?»

*(Лк 10, 29)*

*Пыл узнімаецца хваляй чырвонага золата*
*і залатою смугою вісіць над дарогаю,*
*пыл мае смак палыну, смак сухога і згорклага.*
*Ты гэта ведаў, мой вораг, ты сам слабнуў з голаду.*

*Быццам нішто абміналі, змушаючы выцерпець,*
*моўчкі ішлі на той бок, не крануўшы пабітага,*
*грэблівым позіркам, як бізуном, мяне выцялі.*
*Ты гэта ведаў, мой вораг, ты сам быў пакінуты.*

*Раны зусім зажылі, толькі ў сэрцы усё яшчэ*
*Свет не загойваецца, што абрынуў, зламаў ўва мне*
*сын пагарджанай Самарыі, сын міласэрнасці.*
*Ты гэта ведаў, мой вораг, ці ж ты яшчэ вораг мне?*

Юлія Шэдзько




У нумары 3/2016

НАША ВЕРА

## Айцец Адам Шустак OP



# ПАЙСЦІ НА БОЛЬШАЕ

*У Каталіцкім Касцёле працягваецца Год Міласэрнасці — час, які мы можам скарыстаць для паглыблення сваіх роздумаў пра любоў да бліжняга. Увазе чытачоў мы прапануем разважанне айца Адама Шустака OP над прыпавесцю пра добрага самараніна.*

Разважаючы пра самараніна з прыпавесці Пана Езуса, хацелася б, каб мы больш уважліва зірнулі ў твар міласэрнасці, які адкрываецца нам у гэтым урыўку Евангелля паводле св. Лукі. Твар міласэрнасці, увасоблены ў вобразе самараніна, мае дзве цікавыя рысы, якія я запрашаю вас разгледзець разам са мною.

У прыпавесці каля ляжачага, напалову мёртвага чалавека апісаныя тры асобы: святар, левіт і самаранін. І тут павінна паўстаць важнае пытанне: чаму двое першых, святар і левіт, абмінулі чалавека, якому патрабавалася дапамога? Вядома, мы можам проста сказаць, што гэта былі нелюдзі, бо яны паступілі дрэнна. Такі адказ занадта катэгарычны, бо ў гэтай сітуацыі важна разумець, чаму так адбылося. Пераказваючы прыпавесць, евангеліст піша, што ляжачы пры дарозе чалавек быў ледзьве жывы — менавіта такія словы Хрыста. А значыць, магчыма, людзям здавалася, што там ляжыць хтосьці памерлы, труп. У кантэксце габрэйскага мыслення тут схаваны важны

**Айцец Адам Шустак OP** нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мышкове ў Польшчы. У ордэн дамініканаў уступіў у 1999 г. Доўгі час быў душпастырам студэнтаў у Кракаве. Цяпер з'яўляецца вандроўным прапаведнікам. Аўтар шматлікіх кніг, аўдыё- і відэалекцый, кампакт-дыскаў з рэкалекцыямі. Вядзе актыўную *on-line*-дзейнасць на інтэрнэт-сайце *LangustaNaPalmie.pl*.

Франчэско Бассано.
Добры самаранін (фрагмент).



нюанс: левіт і святар дасканала ведалі габрэйскае права, якое забараняе дакранацца да трупа. Падобна да таго, што яны абмінулі ледзьве жывога чалавека, каб не мець ніякага кантакту з ім, і такім чынам не парушыць закон. Бо калі аказалася б, што чалавек мёртвы, то, дакрануўшыся да трупа (а магчыма, яны ішлі менавіта да святыні), яны ўжо не маглі б ні скласці ахвяры ў святыні, ні памаліцца ажно да вечара гэтага дня. Такім чынам, паслухмяныя закону, яны абмінаюць ляжачага чалавека, каб не парушыць традыцыю. Дык што ж з гэтага вынікае? Міласэрнасць — гэта тое, што не руйнуе закону, але і тое, што часам ставіць гэты закон на другі план. У Касцёле мы часта бачым тэндэнцыю абсалютна ўсё трактаваць правам: гэтак можна, а гэтак не. Сапраўды, закон вельмі патрэбны, але міласэрнасць — гэта тая рэчаіснасць у сэрцы чалавека і ў сэрцы Пана Бога, якая пераступае закон.

Пан Езус расказвае менавіта пра добрага самараніна, пра чалавека, які не ведае закону, — ён нават і не падумаў, што нельга дакранацца да хворага. Унутры самараніна адбыўся вялікі сардэчны зрух, калі ён убачыў чалавека ў патрэбе і проста дапамог яму. Самаранін не засяроджваўся на тым, ці будзе гэта адпавядаць закону, ці не. Для хрысціянаў вельмі важным з'яўляецца менавіта такі твар міласэрнасці, бо ён натхняе адсунуць усялякія пастановы і прадпісанні для таго, каб праявіць міласэрнасць.

І — другое. Мяркую, што гэта для ўсіх відавочна, але гэтая дэталь прымушае мяне разважаць над ёю. Калі самаранін пачаў клапаціцца пра хворага, прывёз яго ў заезд, то адначасова паабяцаў, што верне гаспадару заезда ўсе грошы, якія той патраціць на дагляд хворага. Самаранін бярэ на сябе адказнасць пры неабходнасці зрабіць штосьці большае, чым разавую дапамогу. Вось яна, другая рыса твару міласэрнасці самараніна. Бо міласэрны павінен быць гатовым увайсці ў працяглыя адносіны з тым, каму ён дапамагае. Вельмі часта людзі пытаюцца, напрыклад, ці павінны яны дапамагаць камусьці, хто на вуліцы просіць грошай. Я заўсёды адказваю так: не, не давай нічога, толькі сядзь каля гэтага чалавека і найперш паразмаўляй з ім паўгадзіны, а потым паспрабуй узяць у яго якія-небудзь звесткі для сувязі і сустрэнься з ім праз тыдзень, а потым праз два і праз тры, праз чатыры тыдні. Можаш не даваць яму ніякіх грошай, але пачні з ім быць, увайдзі з ім у пэўныя стасункі, каб твая міласэрнасць стала адказнасцю прабываць з тым, каму ты дапамагаеш. Згадзіцеся, гэта неверагоднае праяўленне міласэрнасці! Зразумела, што найчасцей наша міласэрнасць — гэта аднаразовы чын, але ўсё ж міласэрнасць мае такое аблічча, якое кажа: «Я гатовы на большае, я гатовы падтрымаць цябе, гатовы несці адказнасць, гатовы несці страты». Для такой гатоўнасці, відавочна, трэба быць падрыхтаваным, трэба глыбока і мудра ўсё абдумаць. Усё ж варта гэта зрабіць, бо ёсць простая, больш лёгкая тэндэнцыя: даць штосьці — і больш не бачыць гэтага чалавека.

Вобраз добрага самараніна з прыпавесці запэўнівае, што ён не баіцца пераступіць праз закон для праяўлення міласэрнасці, для яго закон не з'яўляецца найвышэйшай інстанцыяй — найвышэйшым становіцца яго сэрца, якое хоча любіць; другая важная рыса самараніна — гатоўнасць на большае. Менавіта такім якасцям мы павінны вучыцца ў добрага самараніна.

*Падрыхтавала*
*Вольга Качалка.*
*Паводле відэалекцыі*
*а. Адама Шустака OP*
*на* youtube.com «8Twarzy[#2] Samarytanin.

# Вобраз добрага самараніна ў мастацкім асэнсаванні

Адной з найстарэйшых вядомых выяваў сюжэта Хрыстовай прыпавесці пра добрага самараніна з'яўляецца мініяцюра Расанскага кодэксу (*Codex Rossanensis*, названы паводле горада Расана ў паўднёвай Італіі, дзе ён быў знойдзены ў XIX ст. і захоўваецца ў Арцыбіскупскім музеі). Кодэкс быў створаны ў VI ст. — гэта шэдэўр ранневізантыйскага мастацтва. Ілюмінаваны манускрыпт належыць да групы «пурпурных кодэксаў», выкананых на пергаменце, афарбаваным *пурпурам*, з тэкстамі, напісанымі срэбранымі і залатымі літарамі. Выява сюжэта прыпавесці пра самараніна знаходзіцца ў верхняй частцы аркуша. Гэты помнік цікавы тым, што ў ім адлюстраваны сапраўды пераломны перыяд у заходнім хрысціянскім мастацтве. У адной кампазіцыі мастак-ілюмінатар разгортвае ўсю дзею ад пачатку да канца, не баючыся існавання адной і той жа фігуры ў разначасавых эпізодах сюжэта. Гэта ўжо ёсць выразнаю прыкметаю сярэднявечнага мастацтва, законы і прынцыпы якога толькі пачыналі фармуляваць візантыйскія ізографы. Фігура добрага самараніна паказана двойчы: ён нахіляецца над пацярпелым, а потым мы зноў бачым яго ў скампанаваных у адзін кампазіцыйны вузел працягу і канцоўцы сюжэта. Самаранін вядзе асла, на якім сядзіць паранены чалавек, і аддае дынарыі гаспадару гасцініцы. Але паглядзіце — мастак увасобіў у вобразе самараніна самога Хрыста! Пра гэта сведчыць залаты німб і сінь з золатам Ягонага адзення. Хрысту дапамагае анёл, які падносіць Яму чашу. Сюжэт разгортваецца ў левай частцы кампазіцыі выяваю горада, з якога пачаў сваё падарожжа самаранін. Тут ужо пануе ўмоўная формула іканапісу: горад паказаны ў выглядзе вежы з брамаю, у вузкай прасторы сціснуты дахі і купалы дамоў, храмаў і палацаў — нібыта крылы, узнімаюцца над імі вострыя вяршаліны дрэваў. У трактоўцы фігураў мастак таксама падпарадкоўваецца эстэтычнаму ідэалу іканапісу, што, аднак, не азначае застылага схематызму, але мы адчуваем, што антычнасць для ізографа і ягоных сучаснікаў — гэта «ўчарашні дзень». Найбольш выразна антычныя рэмінісцэнцыі праявіліся ў выявах фігураў анёла і пацярпелага чалавека. Мастак з лёгкасцю вымалёўвае белыя з блакітнымі ценямі шаты анёла і асабліва тканіну, на якой анёл падносіць Хрысту чашу. Агаленае, змучанае цела пакутніка намалявана тонкімі пластычнымі мазкамі, надзвычай рэалістычна. Трактоўка складак шатаў і карнацыі — гэта вынік засвоеных мастаком урокаў антычнасці.

Эпоха вялікіх сабораў готыкі спарадзіла творы, у якіх сінтэз мастацтваў дасягнуў нябачанага дагэтуль багацця формаў, гармоніі і цэльнасці. Сабор у французскім Шартры — надзвычайны прыклад росквіту гатычнага мастацтва, у ім захавалася цэлая «энцыклапедыя» вітражоў XII-XIII стст. Прыпавесці пра



Прыпавесць пра добрага самараніна.
Мініяцюра з Расанскага кодэксу.



Добры самаранін.
Вітраж. Сабор у Шартры, Францыя.

добрага самараніна ў ансамблі вітражоў сабора прысвечана цэлае пано з некалькіх частак, у якіх адлюстраваны розныя эпізоды сюжэта. У заключнай сцэне пано паказаны інтэр'ер гасцініцы, дзе самаранін увіхаецца каля ложка з параненым. Але ў трактоўцы вітражыста банальны заезд ператвараецца ў храм казачнай прыгажосці: з калонамі, аркадамі і свяцільнікам, што вісіць пасярод самай кампазіцыйна выразнай аркі — гарачая чырвань фарбаў вызначае яе праём. Напэўна, мастак не проста шукаў колеравы кантраст, а звярнуўся да сімволікі колераў. Арка — гэта ўваход у прастору, дзе пануе гуманны клопат чалавека пра чалавека, спакойная гармонія блакіту нагадвае пра нябеснае, пра Боскае святло. Грэшны зямны свет жарсцяў і зла застаецца за парогам. Выява ўключана ў дэкаратыўную форму картуша, але гатычны мастак з уласцівым сярэднявечным рысавальшчыкам майстэрствам нязмушана разгортвае дзею ў гэтых умоўных рамках. Самаранін схіляецца над ложкам, у ягоным твары, пазначаным смелымі рухамі пэндзля, адлюстроўваюцца клопат і трывога. На твары параненага адбіваюцца боль і разгубленасць. Духоўная глыбіня спалучаецца ў гэтым вітражы з бліскучым мастацкім выкананнем, у якім заключана ўся спірытуальная моц готыкі — апагею хрысціянскага мастацтва.

Вялікі нідэрландзец Рэмбрандт (1606–1669) некалькі разоў звяртаўся да гэтага сюжэта ў жывапісе і гравюры. Невялічкая карціна «Добры самаранін» (1632–1633 гг., алей на драўлянай дошцы, 27,5 x 21 см; Лондан, Калекцыя Уоласа) намалявана зусім маладым мастаком, але ў ёй ужо напоўніцу квітнее ягоны талент, вызначаецца характар ягонага жывапісу і майстэрства апавядальніка-філосафа. Цяжка нават вызначыць, хто з'яўляецца галоўным персанажам карціны. Мы хутчэй здагадваемся, што дабрадзей з прыпавесці — гэта цёмная фігура, якая амаль злілася з глыбокім ценем аркі гасцініцы, а галава старога гаспадара прытулку, наадварот, вылеплена яркім залацістым промнем у праёме аркі. З гаспадаром дабрадзей дамаўляецца аб дапамозе пацярпеламу. Цікава пададзена цэнтральная кампазіцыйная сцэна. Успышка рэмбрандтаўскага святла б'е ў фігуру няшчаснага, паказанага са спіны, — ужо потым бачыш галаву ў профіль і скрываўленую павязку на ёй. Яго абдымае і дапамагае злезці з каня слуга з грубым сялянскім тварам, але ў ягоных моцных руках адчуваецца далікатнасць і жаданне аблегчыць пакуты чалавека. Хлопчык упэўнена трымае каня за лейцы, каб жывёліна не скранулася з месца і не прычыніла болю параненаму. На фоне карціны працягваецца штодзённае жыццё галандскай вёскі (мастак пераносіць дзею на сваю радзіму): жанчына дастае ваду з калодзежа, жураў якога выразна акрэслены на фоне пахмурнага галандскага неба. Многія даследчыкі гавораць пра «імкненне мастака да жанравай апавядальнасці»: нібыта Рэмбрандт тут шматслоўны і яшчэ не праявіў глыбокую філасафічнасць пазнейшых сваіх твораў. А на наш погляд, мастакоўскае рашэнне папулярнага сюжэта надзвычай наватарскае — яно адкрывае ягоную багатую душу хрысціяніна. Галоўнымі героямі карціны мастак зрабіў простых людзей, якія прыйшлі на дапамогу незнаёмаму чалавеку без загадаў свайго гаспадара і аплаты за свае паслугі. Спагадлівы сялянскі люд — вось аб'ект усхвалення чалавечай дабрыні.

Рускі мастак Васіль Сурыкаў (1848–1916) звярнуўся да евангельскай тэмы падчас навучання ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. І хаця ягоная карціна «Міласэрны самаранін» (палатно, алей, 1874 г.; Краснаярскі мастацкі музей імя В.І. Сурыкава) з'яўляецца вучэбнай работай (як сказалі б цяпер, перадыпломнай), у ёй раскрываецца магутны талент самабытнага мастака. У адрозненне ад шэрагу сваіх сучаснікаў, Сурыкаў ніколі не быў у Палестыне, але ён смела пераносіў дзею карціны



В. Сурыкаў. Міласэрны самаранін.

на Святую Зямлю, з паслядоўнасцю рэаліста імкнучыся да праўдзівай трактоўкі сюжэта. І яму гэта ўдалося. Малады мастак упэўнена вырываецца з палону традыцыйнага акадэмізму, пазбягае сусальнай ідэалізаванасці, якая панавала ў творах папярэдніх пакаленняў майстроў Акадэміі, калі яны звярталіся да міфалагічнай і рэлігійнай тэматыкі. У гэтым сціплым палатне гучыць ужо голас эпохі новага часу. Працуючы над карцінай, Васіль Сурыкаў прытрымліваецца дыдактычных правілаў акадэмізму. Дзея паказана строга франтальна, на першым плане. Студэнт «пераддыпломнік» уважліва працуе над фігураю кожнага натуршчыка і звязвае іх у цэльную кампазіцыю. Але гэтая пастановачнасць неістотная, бо пачуццёвы лад твора настолькі шчыры, што глядач разам з мастаком глыбока перажывае евангельскую драму. Васіль Сурыкаў дэманструе не толькі майстэрства кампазітара — майстра кампазіцыі (яго так і называлі калегі-студэнты: «наш кампазітар»). Абіраючы вельмі абмежаваную колеравую гаму, ён працуе ў асноўным у танальных гармоніях, дасягаючы выдатнай пластыкі формаў, будуючы першы план на напружаных кантрастах цяжкіх ценяў і яркага, асляпляльнага святла. Змучаная пакутамі плоць падарожніка намалявана з імкненнем перадаць драму жыццёва і пераканаўча, усхваляваць гледача. Самаранін дбайна прыпадымае пацярпелага, слуга-маўр налівае яму ў руку алей. Ва ўсіх жэстах герояў палатна ёсць прыцягальная адкрытасць перажыванняў. Выява асла на другім плане ўраўнаважвае фігурную кампазіцыю, а на дальнім плане, за гарачымі пяскамі пустыні, дыхаюць дзікаю спёкаю цьмяны далягляд і распаленае неба. Васіль Сурыкаў мог бы стаць вялікім хрысціянскім мастаком, але ён пайшоў іншым шляхам — прысвяціў сябе ўсхваленню ўсяго імперскага, шматфігурным кампазіцыям пра разбойнікаў і военачальнікаў: Ермака, Разіна, Суворава. Але, як толькі ён вярнуўся да рэлігійнай тэматыкі, паўставаў бясспрэчны шэдэўр. На жаль, у гэтым выбары быў таксама знак Новага часу.

Завяршае наш агляд карціна вялікага мастака XIX ст. Вінсэнта Ван Гога (1853–1890) «Добры самаранін» (палатно, алей, 1890 г., Музей Крэлер-Мюлер, Атэрло). Усё ў гэтым палатне дыхае новым еўрапейскім мастацтвам. Фігурная выява падпарадкавана той жа дынаміцы, экспрэсіі, якая ахоплівае пейзажны фон і надае яму трывожнасць прыроднага катаклізму. Дысторцыі ў трактоўцы фігур, разбурэнне класічнай перспектывы — гэтыя рысы мастацкай трактоўкі нясуць у сабе глыбокую і яркую эмацыйнасць перажывання. Колькі ахвярнага намагання ў фігуры самараніна і колькі болю ў постаці падарожніка! Хвалістыя, густыя плыні формы ў фігурах людзей напоўнены адкрытымі і гучнымі колерамі. Горы, што ўзнімаюцца, як халоднае полымя, дарога і рака ў цясніне намаляваныя ўжо ў іншай манеры. Мазкі распадаюцца на валокны, часцінкі. Кантрасты цёплага і халоднага дасягаюць найвышэйшай ступені. Шкада, што Ван Гог не здолеў рэалізаваць (як гэта здолеў пазней, напрыклад, Анры Маціс) цэльны комплекс размалёўкі касцёла. Гэта была б сапраўды Сікстынская капліца перыяду постімпрэсіянізму.

Ван Гог натхніўся кампазіцыяй на хрысціянскую тэму свайго куміра Эжэна Дэлакруа, а той наследаваў шэдэўры майстроў Рэнесанса, якія разумелі сваю творчасць як рэлігійнае служэнне. Нягледзячы на змены светапоглядаў і мастацкіх стыляў, творцы будуць працягваць гэтае служэнне.

*Валеры Буйвал*

---

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, — ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ПЕРШАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ПАЧУЦЦЯЎ

**У якой гаворыцца, што такое «*Цёмная ноч*» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць злучэння з Богам. У прыватнасці, гаворка будзе ісці пра «*цёмную ноч пачуццяў*» і жаданняў, пра шкоду, якую яны могуць нанесці душы.**

### РАЗДЗЕЛ 5

**У якім працягваецца папярэдняе разважанне з выкарыстаннем прыкладаў і вобразаў са Святога Пісання, неабходных для душы, якая рушыць да Бога праз цёмную ноч умярцвення пажадлівасці рэчаў.**

1. З усяго таго, што было сказана, можна пэўным чынам зразумець, што існуе адлегласць паміж тым, чым рэчы створаныя з'яўляюцца самі па сабе, і тым, чым ёсць Бог у сабе. Душы, якія прывязваюцца да зямных рэчаў, знаходзяцца вельмі далёка ад Бога. Бо, як ужо было сказана, любоў прыраўноўвае нас да рэчаў, якія мы любім. Святы Аўгустын, вельмі добра разумеючы, што існуе гэтая адлегласць, гаворыць у сваіх «*Soliloquios*»: «*Няшчасны я! Калі мая нікчэмнасць і мая недасканаласць змогуць адпавядаць тваёй справядлівасці? Ты сапраўды ёсць добрым, а я – благім, ты – пабожны, а я – бязбожны, ты – святы, а я – нікчэмны, ты – справядлівы, а я – несправядлівы, ты – святло, а я – сляпы, ты – жыццё, а я – смерць, ты – лек, а я – хворы, ты – найвышэйшая праўда, а я – суцэльная марнасць*». Усё гэта гаворыць святы[1].

2. Вось чаму душа праяўляе вялікае невуцтва, калі думае, што яна можа дасягнуць стану злучэння з Богам, не пазбавіўшыся жадання ўсіх рэчаў, прыродных і звышпрыродных, якія могуць перашкодзіць ёй у гэтым, як мы далей растлумачым падрабязней. Сапраўды — бязмежная адлегласць існуе паміж гэтымі рэчамі і ўсім тым, што дадзена душы ў стане чыстага перамянення ў Богу. І дзеля гэтага Пан, навучаючы нас гэтаму шляху, казаў праз святога Луку: «*Qui non renuntiat omnibus quae possidet, non potest meus esse discipulus*», што значае: «*Так кожны з вас, хто не адцураецца ўсяго, што мае, не можа быць Маім вучнем*» (пар. Лк 14, 33)*, і гэта зразумела, таму што Сын Божы вучыць нас пагарджаць усімі рэчамі, каб атрымаць Дух Божы. Бо пакуль душа не вызваліцца ад усіх рэчаў, яна будзе няздольнаю атрымаць Дух Божы ў чыстым перамяненні.

3. Пра гэта нам гаворыць і вобраз з Кнігі Зыходу (16), дзе мы чытаем, што Бог не даў сынам Ізраэля нябеснага хлеба — манны, пакуль не скончыліся іх запасы мукі, якую яны ўзялі з сабою з Егіпта. Пан хоча, каб мы зразумелі, што спачатку неабходна, каб мы выракліся ўсіх рэчаў, таму што анёльскі хлеб не адпавядае нёбу таго, хто хоча смакаваць хлеб зямны. Душы, якія марудзяць і смакуюць чужынскія прысмакі, не толькі няздольныя смакаваць Божы дух, але і выклікаюць гнеў Божай Вялікасці, патрабуючы ад Яго духоўнага пасілку. Яны не задавальняюцца толькі адзіным Богам, але хочуць змяшаць Яго з жаданнямі і пажадлівасцю да рэчаў. Пра гэта таксама гаворыцца ў той самай кнізе Святога Пісання, дзе апавядаецца, як габрэі, не задаволеныя такім простым пасілкам як манна, пажадалі яшчэ і мяса (Зых 16, 8–13). Пан наш вельмі разгневаўся, таму што яны хацелі адначасова смакаваць ежу нізкую і грубую з прысмакам

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

узнёслым і простым, які ў сваёй простасці меў у сабе смак і навар любой ежы. Таму, калі яны яшчэ не праглынулі і першы кавалак мяса, — як кажа Давід, — *Ira Dei descendit super eos* — «Гнеў Божы зыйшоў на іх» (пар. Пс 77, 31). І агонь з неба ўпаў на іх і спаліў іх многія тысячы. Бог палічыў нягодным іх жаданне іншай ежы замест пасілку нябеснага.

4. Калі б ведалі людзі, якія жывуць духоўным жыццём, колькі духоўнага багацця і якую шчодрасць яны губляюць, калі не хочуць вызваліць свае жаданні ад рэчаў, што не маюць ніякай каштоўнасці. Калі б яны адмовіліся ад іх, дык у гэтым простым духоўным пасілку яны засмакавалі б усе рэчы. Бо прычына таго, што яны, падобна габрэям, не адчуваюць смаку манны — найсмачнейшага з усіх прысмакаў, не ў тым, што яны не засяроджваюць на ёй усё сваё жаданне. Як і габрэі, якія не адчулі ў манне найвялікшага смаку не таму, што яна яго не мела, а таму, што яны прагнулі іншых рэчаў. Вось чаму, калі нехта разам з любоўю да Бога любіць і іншыя рэчы, гэта значыць, што для яго Бог — не важны, бо для яго рэчы і Бог азначаюць адно і тое ж, і ён прыраўновае да Бога рэчы, бязмежна далёкія ад Яго.

5. Вядома, што калі пэўная воля прывязваецца да якой-небудзь рэчы, гэта апошняя пачынае значыць для яе больш за ўсе астатнія, няхай сабе і лепшыя за яе, але на якія яна ўжо не звяртае ўвагі. І калі ёй падабаюцца абедзве рэчы, дык яны прыраўноўваюцца, і тым самым прыніжаецца рэч найдасканалейшая. І паколькі няма ніякай рэчы, якую можна прыраўняць да Бога, душа, якая разам з Богам любіць і якое-небудзь стварэнне, гэтым самым прыніжае Бога. А што б сталася, калі б душа палюбіла б якуюсь рэч больш за Бога?

6. Менавіта гэта Бог меў на ўвазе, калі загадваў Майсею ўзысці на гару для размовы з Ім. Пан загадаў яму не толькі ўзысці аднаму, пакінуўшы ў даліне дзяцей Ізраэлевых, але нават забараніў яму, каб жывёлы пасвіліся каля гары («*Nullus ascendat tecum, nec videatur quispiam per totum montem: boves quoque et oves non pascantur e contra*» (пар. Зых 34, 3). Гэта значыць: «*Але ніхто не павінен падымацца з табою, і ніхто не павінен паказвацца на ўсёй гары; нават быдла, дробнае і буйное, не павінна пасвіцца паблізу гары гэтай*». Гэтым самым Бог хацеў, каб душа зразумела, што калі яна хоча ўзысці на гару дасканаласці, каб размаўляць з Богам, яна не толькі павінна выракчыся і пакінуць унізе ўсе рэчы, але таксама пакінуць і ўсе жаданні іх, гэта значыць «жывёлінаў», якім не дазваляецца нават знаходзіцца побач з гарою. Усё гэта азначае, што нельга цешыцца ніякімі іншымі рэчамі, апроч Бога. Кожнае жаданне павінна змоўкнуць, калі душа знаходзіцца ў стане дасканаласці. І таму неабходна, каб шлях ці ўзыход да Бога быў сталым намаганнем спынення дзейнасці жаданняў і іх умярцвення. Душа настолькі хутчэй дасягне мэты, наколькі хутка яна адолее гэты цяжар. Пакуль не спыняцца ўсе жаданні душы, яна не зможа дасягнуць вяршыні, нават калі будзе практыкаваць мноства іншых цнотаў, якія ў сваю чаргу ніколі не будуць бездакорнымі, бо дасканаласць дасягаецца толькі тады, калі душа спустошаная, аголеная і ачышчаная ад усіх сваіх жаданняў. У Кнізе Быцця даецца вельмі жывы вобраз гэтага. Мы чытаем, што патрыярх Якуб перад тым як узысці на гару Бэтэль для пабудовы алтара дзеля ахвяравання Богу, загадаў свайму народу зрабіць тры рэчы: па-першае, каб яны пазбавіліся ўсіх ідалаў, па-другое, каб яны ачысціліся, і па-трэцяе, каб яны пераапрануліся: «*Jacob vero convocata omni domo sua, ait: Abjicite deos alienos qui in medio vestri sunt, et mundamini, ac mutate vestimenta vestra*» (Быц 35, 2).

7. Праз гэтыя тры рэчы кожная душа павінна зразумець, што калі яна хоча ўзысці на гэтую гару, яна павінна зрабіць з самой сябе алтар, на якім Богу прыносіцца ахвяра чыстай любові, хвалы і чыстага пакланення, і што перад тым як узысці на вяршыню гэтай гары, неабходна дасканала здзейсніць тры рэчы: па-першае, трэба пазбавіцца ўсіх чужых бажкоў, гэта значыць пазбавіцца ад усіх прывязанасцяў і пажадлівасцяў чужынскіх у адносінах да Бога. Па-другое, праз *цёмную ноч пачуццяў* душа павінна ачысціцца ад усяго бруду, які застаўся ў душы ад названых жаданняў праз поўнае адрачэнне і праз пастаяннае пакаянне. Па-трэцяе, каб дасягнуць вяршыні гэтай высокай гары, трэба мець новую вопратку, якую Бог, выкарыстоўваючы вынік першых двух дзеянняў, пераменіць са старой у новую. Бог дасць душы новае разуменне Бога ў Богу, пакіне ўбаку старое разуменне чалавека і дасць новую любоў Бога ў Богу, пазбаўляючы волю ад усіх яе старых чалавечых пажаданняў і ўпадабанняў. Бог дасць душы новыя веды і новую велізарнаю асалоду, бо душа ўжо пазбавілася ўсіх старых ведаў і старых вобразаў. Бог зробіць так, каб знікла ўсё старое ў чалавеку: усе яго натуральныя здольнасці Ён пераапране ў новыя звышнатуральныя. І такім чынам чалавечая дзейнасць перайначыцца ў дзейнасць Божую, вынікам якой будзе асягненне стану злучэння, у якім служэннем душы будзе не што іншае, як быць алтаром Бога, які жыве ў ёй і якому яна пакланяецца ў чыстай любові і ў чыстай хвале.

З гэтай прычыны Пан загадаў, каб алтар, на якім павінен быў размясціцца Каўчэг Запавету, быў унутры пустым (Зых 27, 8). Бог прагне, каб душа зразумела, што, каб стацца алтаром, годным прысутнасці Ягонай Боскай Вялікасці, яна павінна

быць пустою, пазбаўленаю ўсіх рэчаў. Ён ніколі не дазваляў, каб на гэтым алтары замест святога агню запальваўся паганскі агонь. Калі Надаб і Абіўд, сыны першасвятара Аарона, ахвяравалі паганскі агонь, Пан у гневе спаслаў на іх смерць перад гэтым алтаром (Лев 10, 1). З гэтага трэба зразумець, што душа, каб стацца годным алтаром, павінна быць напоўненаю Божаю любоўю, не змешанаю з любоўю да ўсяго, што не належыць да Бога.

8. Бог не можа пагадзіцца, каб іншая рэч знаходзілася побач з Ім у тым самым месцы. І таму ў 1-й Кнізе Самуэля апавядаецца, што, калі Філістэі прынеслі Каўчэг Запавету ў святыню, дзе знаходзіўся таксама іх ідал, кожнага ранку яны знаходзілі ягоную статую, разбітую ўшчэнт на падлозе (1 Сам 5, 2–4). Пан дазваляе і хоча, каб там, дзе Ён знаходзіцца, засталося толькі тое жаданне, якое прагне захоўваць дасканалы Божы Закон і ўзяць на сябе крыж Хрыста. У Пісанні Божым гаворыцца, як Адвечны пажадаў, каб у Каўчэгу Запавету, дзе захоўвалася манна, не было б нічога іншага, апроч кнігі Запавету і Майсеевага посаха (Дрг 31, 26), які з'яўляецца сімвалам крыжа Хрыста. Бо душа, якая ні на што іншае не прэтэндуе, як толькі захоўваць Закон Божы і несці крыж Хрыста, і з'яўляецца сапраўдным каўчэгам, бо нясе ў сабе сапраўдную манну, якой ёсць Бог, паколькі дасканала змяшчае ў сабе Закон і посах, і нічога, апроч іх.

## РАЗДЗЕЛ 6
### У якім апавядаецца пра дзве найвялікшыя шкоды, што могуць учыніць душы жаданні: першая пазбаўляе душу Божага Духа, а другая заўсёды шкодзіць самой душы.

1. Для таго, каб глыбей зразумець усё тое, што было сказана дагэтуль, будзе добра растлумачыць, якім чынам жаданні шкодзяць душы ў двух галоўных аспектах: па-першае, яны пазбаўляюць яе Божага Духа, а па-другое, жаданні стамляюць душу, зацямняюць яе, брудзяць яе, паслабляюць яе і раняць яе, пра што гаворыць прарок Ерамія: «*Duo enim mala fecit populus meus: me derelinquerunt fontem aquae vivae, et foderunt sibi cisternas, cisternas dissipatas, quia continere non valent aquas*», што значыць: «*Бо два ліха ўчыніў народ Мой: Мяне, крыніцу вады жывой, пакінулі і высеклі сабе вадаёмы разбітыя, якія не могуць трымаць вады*» (пар. Ер 2,13). Пра гэтыя два ліха неабходна ведаць, што адно «пазбаўляе», а другое «шкодзіць заўсёды». Усялякі бязладны чын жадання з'яўляецца іх прычынаю.

Спачатку пагаворым пра тое, што пазбаўляе душу Духа Божага. Зразумела, што калі душа прывязваецца да нейкай створанай рэчы, дык гэтая рэч займае столькі месца ў душы, што яна ўжо няздольная ўмясціць у сабе Бога, бо не могуць дзве супярэчлівыя рэчы (як зазначаюць філосафы) знаходзіцца ў адным суб'екце. (Пра гэта мы таксама ўжо гаварылі ў 4-м раздзеле.) Прывязанасць да Бога і прывязанасць да стварэння супярэчаць адна адной і таму не могуць знаходзіцца адначасова ў волі. Бо што агульнага паміж стварэннем і Створцам, паміж пачуццёвым і духоўным, паміж бачным і нябачным, паміж часовым і вечным, паміж нябесным пасілкам, чыста духоўным, і пасілкам пачуццяў, чыста пачуццёвым, паміж аголенасцю Хрыста і прывязанасцю да нейкай рэчы?

2. Гэтаксама, як пры натуральным нараджэнні немагчыма, каб новая форма не выштурхнула былую ўжо існуючую, бо наяўнасць яе перашкаджала б новай з прычыны супрацьпастаўлення, якое існуе паміж імі, гэтаксама і душа, пакуль яна падпарадкоўваецца пачуццям, не можа атрымаць Божы Дух. Таму наш Пан гаворыць у Евангеллі ад Мацвея: «*Non est bonum sumere panem filiorum, et mittere canibus*», што значыць: «*Нядобра ўзяць хлеб у дзяцей і кінуць шчанятам*» (пар. Мц 5, 26), і таксама ў другім месцы евангеліст гаворыць: «*Nolite dare sanctum canibus*», што азначае: «*Не давайце святога сабакам*» (пар. Мц 7, 6). Гэтымі словамі наш Пан прыраўновае да сыноў Божых тых, хто выракся жаданняў стварэнняў і рыхтуецца да атрымання чыста Божага Духа, а тых, хто прагне задаволіць свае жаданні стварэннямі, Пан прыраўноўвае да сабакаў. І першым дадзена сілкавацца са стала і нават з Ягонай талеркі, гэта значыць ім дадзена пасвіцца Ягоным Духам. Другім жа дадзена толькі збіраць крошкі, што ўпалі з ягонага стала.

3. У сувязі з гэтым неабходна ведаць, што стварэнні — гэта крошкі, якія ўпалі са стала Пана. І значыць справядліва, што тых, хто харчуецца стварэннямі, называюць сабакамі, і таму ў іх забіраюць хлеб, прызначаны для дзяцей. Адбываецца гэта таму, што яны не хочуць узняцца над крошкамі стварэнняў пры стале Духа Нястворанага іх Айца.Таму яны ўвесь час галодныя, як сабакі, таму што крошкі са стала толькі распальваюць апетыт, а не спатольваюць голад. Пра такіх людзей гаворыць Давід: «*Convertentur ad vesperam, et famem patientur ut canes; et circuibunt civitatem. Ipsi dispergentur ad manducandum; si vero non fuerint saturati, et murmurabunt*». — «*Хай вяртаюцца ўвечары, як сабакі скуголяць, і вакол горада ходзяць; хай бадзяюцца, ежу шукаюць і ў нянасыці ночы праводзяць*» (пар. Пс 58, 15–16). Бо менавіта да іх падобныя тыя, хто мае жаданні, яны заўсёды незадаволеныя, неспакойныя, як быццам увесь

час галодныя. Але ці можна прыраўняць голад, выкліканы стварэннямі, да неспатольнасці, да якой спрычыняецца Божы Дух? Нельга ўвайсці ў нястварованую неспатоленасць, калі перад гэтым не пазбавіцца голаду, выкліканага пажаданнямі душы, бо, як было ўжо сказана, дзе існуюць рэчы супярэчлівыя, у нашым выпадку — неспатоленасць і голад, яны не могуць суіснаваць разам у тым самым суб'екце.

4. З таго, што было ўжо сказана, зразумела, што для Бога цяжэй вызваліць і ачысціць душу ад гэтых супярэчнасцяў, чым стварыць яе з *нічога*. Бо супярэчлівыя прывязанасці і жаданні пярэчаць і супрацiўляюцца Богу, а *нішто* ніколі гэтага не робіць.

На гэтым мы спынім нашае разважанне над першаю шкодаю, бо было сказана дастаткова пра жаданні, якія шкодзяць душы, супраціўляючыся Богу.

5. Цяпер пагаворым пра другі вынік, які з'яўляецца ў душы, калі жаданні стамляюць, катуюць, азмрочваюць, забруджваюць і паслабляюць яе. Пра кожны з гэтых пяці момантаў пагаворым паасобку.

6. У дачыненні да першага, зразумела, як жаданні стамляюць і знясільваюць душу, бо яны, нібы неспакойныя і непаслухмяныя дзеці, якія ўвесь час патрабуюць ад сваёй маці то адно, то другое, і ніколі нічым не задаволяцца. Гэтаксама, як сквапны да скарбу, шукаючы яго, стамляецца і цяжка працуе, капаючы зямлю, гэтаксама і душа стамляецца і знясільваецца, каб задаволіць патрабаванні сваіх жаданняў. І нават калі яна ўрэшце здабудзе тое, чаго жадала, яна ўсё роўна адчувае сябе стомленай і ніколі не адчувае задавальнення, таму што ў рэшце рэшт яна раскопвае толькі разбітыя вадаёмы, якія не могуць утрымаць вады і не могуць спатоліць смагі (пар. Ер 2, 13). І гэта ж гаворыць прарок Ісая: «*lassus adhuc sitit, et anima ejus vacua est*», што значыць: «*І вось ён прагны, і душа ў яго пустая*» (пар. Іс 29, 8), бо ягоныя пажаданні — пустка. Калі жаданні перамагаюць, душа стамляецца і знясільваецца, нібы хворы на ліхаманку, які не ачуняе, пакуль ліхаманка яго не адпусціць, і ён увесь час адчувае смагу, таму што, як напісана ў кнізе Ёва: «*Cum satiatus fuerit, arctabitur: aestuabit, et omnis dolor irruet super eum*», што значыць: «*У поўніцы багацця будзе цесна яму; рука кожнага пакрыўджанага падымецца на яго*» (пар. Ёв 20, 22). Душа цяжка працуе і стамляецца ад сваіх жаданняў, якія непакояць яе і не дазваляюць адпачыць у якім-небудзь месцы ці на якой-небудзь рэчы, таму яна, нібы рана, якую ўвесь час растраўляюць і парушаюць, нібы вецер ваду. Пра такую душу гаворыць прарок Ісая: «*Impii autem quasi mare fervens*». — «*А бязбожныя — як мора ўсхваляванае*» (пар. Іс 57, 20). Бязбожны — гэта той, хто не можа перамагчы свае жаданні. Душа, якая хоча іх задаволіць, стамляецца і знясільваецца, нібы галодны, які ротам ловіць вецер, каб спатоліцца, але замест гэтага яшчэ больш сушыць рот, таму што вецер — не ежа. У сувязі з гэтым Ерамія казаў: «*In desiderio animae suae attraxit ventum amoris sui*». — «*У жаданні душы сваёй глытае паветра*» (пар. Ер 2, 24), нібыта хоча сказаць: жаданні волі прываблiваюць вецер сваёй бяды. І трохі далей дадае, каб было зразумела, чым ёсць пустка і суша, якая застаецца ў душы: «*Prohibe pedem tuum a nuditate, et guttur tuum a siti*», што значыць: «*Не давай нагам тваім стоптваць абутак і гартані тваёй — нудзіцца ад смагі*» (пар. Ер 2, 25). Іншымі словамі: адарві сваю волю ад задавальнення жаданняў, адзіным вынікам якога ёсць сухмень. І як стамляецца і знясільваецца закаханы ў дзень надзеі, калі ўсё, чаго ён жадаў, скончылася нічым, гэтаксама і душа стамляецца і знясільваецца ўсімі сваімі жаданнямі і іх задавальненнем, бо яны спараджаюць у ёй яшчэ большую пустэчу і голад, таму што, як гаворыцца, жаданне, нібы агонь — чым больш дроваў, тым большы агонь, але, калі ўсё паліва згарае, знікае і агонь.

7. Рэчаіснасць жадання горшая за агонь, таму што агонь затухае паволі, па меры спажывання паліва, але жаданне ж, наадварот, не змяншаецца, нават калі знікае прадмет яго прагнення. Жаданне замест таго каб затухнуць, як агонь, калі заканчваецца паліва, знясільвае, бо голад павялічваецца, а пасілак змяншаецца. Пра гэта гаворыць Ісая: «*Et declinabit ad dexteram, et esuriet; et comedet ad sinistram, et non saturabitur*», што значыць: «*І будуць рэзаць з правага боку, і застануцца галодныя; і будуць есці з левага, і не будуць сытыя*» (пар. Іс 9, 20). Таму што тыя, хто не здольны ўмярцвіць сваіх жаданняў, павернуцца праваруч і ўбачаць насычаных салодкім духам, што знаходзяцца праваруч Бога, духам, які ім не дадзены. І тады яны бягуць леваруч і задавальняюць свае жаданні рэчамі створанымі, але таксама не насычаюцца, бо яны пакінулі тое, што сапраўды можа спатоліць, і жывяцца тым, што выклікае яшчэ большы голад. Зразумела цяпер, чаму жаданні стамляюць і знясільваюць душу.

**РАЗДЗЕЛ 7**
**У якім апавядаецца, як жаданні катуюць душу. І гэта даказваецца праз параўнанні і прыклады, узятыя са Святога Пісання.**

1. Другі спосаб, якім жаданні заўсёды шкодзяць душы, — гэта

калі яны яе катуюць і засмучаюць. Прыкладам можа быць прысуд да катавання вяроўкай, калі чалавека прывязваюць да якой-небудзь апоры і ён не можа адпачыць, пакуль яго не адвяжуць. Пра гэта гаворыць Давід: «*Funes peccatorum circumplexi sunt me*». — «*Вяроўкі маіх грахоў аплялі мяне*» (пар. Пс 118, 61). Гэта значыць, што мае жаданні аблыталі мяне. Як пакутуе той, хто голым кладзецца ў ложак, поўны калючак і джалаў, гэтаксама душа пакутуе і засмучаецца, калі паддаецца сваім жаданням, бо яны, як шыпы, яе колюць, раняць, драпаюць і прычыняюць боль. І Давід працягвае: «*Circumdederunt me sicut apes, et exarserunt sicut ignis in spinis*», што значыць: «*Абселі мяне, як пчолы, джалілі мяне сваімі джаламі і палілі мяне, як калючкі ў агні*» (пар. Пс 117, 12). Бо ў жаданнях, як у калючках, нарастае полымя душэўнага болю і пакутаў. І як селянін у надзеі на добры ўраджай напружвае і мучыць вала ў плузе, гэтаксама і пажадлівасць напружвае душу жаданнем атрымаць тое, чаго яна хоча. Гэта будзе больш зразумела, калі ўзгадаем пра жаданне Далілы, якая хацела даведацца, у чым сіла Самсона. Паводле таго, што нам распавядае Святое Пісанне, яе настолькі катавала і мучыла жаданне, што яна смяротна аслабла: «*defecit anima ejus, et ad mortem usque lassata est*» — «*аслабла душа яе, аж да смерці*».

2. Чым больш моцнае жаданне, тым большае катаванне душы, бо адно залежыць ад другога: чым значнейшае жаданне, тым мацнейшае мучэнне; і чым больш жаданняў, тым больш мучэнняў. Бо ў такой душы здзяйсняецца яшчэ пры жыцці тое, што напісана ў Адкрыцці, дзе Бабілон апісваецца такімі словамі: «*Quantum glorificavit se, et in deliciis fuit, tantum date illi tormentum et luctum*». — «*Наколькі яна хацела сябе ўзняць і задаволіць свае жаданні, настолькі дайце ёй пакутаў і гора*» (пар. Ап 18, 7). Як пакутуе і мучыцца той, хто трапляе ў рукі ворагаў, гэтаксама і душа пакутуе і мучыцца, калі здаецца на волю сваім жаданням. Вобраз гэтага мы знаходзім у Кнізе Суддзяў, дзе апавядаецца пра тое, як магутны Самсон, ад пачатку моцны і вольны суддзя Ізраэля, трапіўшы ў палон да сваіх ворагаў, быў аслеплены, пазбаўлены моцы і прывязаны да жорнаў, каб круціць іх. І гэты прысуд быў страшэнна пакутлівым для яго, і засмучаў яго. Тое самае здараецца з душой, у якой, нібы ворагі, жывуць і пануюць жаданні, якія спачатку паслабляюць душу і асляпляюць, а потым, аб чым буду гаварыць далей, засмучаюць яе і катуюць, бо прывязваюць яе да жорнаў пажадлівасці. А кайданы, якімі яна прывязаная да іх, і ёсць тыя самыя жаданні.

3. З гэтай прычыны Бог, які спачувае тым, хто так знясільваецца па ўласнай віне, каб задаволіць створанымі рэчамі голад і смагу жаданняў, кажа словамі прарока Ісаі: «*Omnes sitientes, venite ad aquas; et qui non habetis argentum, properate, emite, et comedite: venite, emite absque argento et absque ulla commutatione vinum et lac. Quare appenditis argentum non in panibus, et laborem vestrum non in saturitate? Audite, audientes me; et comedite bonum, et delectabitur in crassitudine anima vestra*», нібыта кажучы: «*Спрагненыя* (сваімі жаданнямі!) *ідзіце ўсе да водаў; нават і вы, у каго няма срэбра* (уласнай волі і жаданняў), *ідзіце, купляйце і піце; ідзіце, без срэбра і без платы* (уласнай волі і без усялякага абмену на цяжкую працу, якой з'яўляецца задавальненне ўласных жаданняў), *купляйце віно і малако* (гэта значыць спакой і духоўную рахманасць). *Навошта вам наважваць срэбра* (уласную волю) *за тое, што не хлеб* (тое, што не адпавядае Божаму духу), *і заробак свой* (уласныя жаданні) *за тое, што не насычае? Прыйдзіце і слухайце, і будзеце есці дабро, якога прагнеце, і душа вашая хай раскашуецца шчодрасцю*» (пар. Іс 55, 1–2).

4. Дасягнуць гэтай шчодрасці азначае вызваліцца ад усялякага смакавання створаных рэчаў, бо стварэнне мучыць, а дух Божы аднаўляе. І таму Ён кліча нас словамі, пераказанымі святым Мацвеем: «*Venite ad me omnes qui laboratis, et onerati estis, et ego reficiam vos. Tollite jugum meum super vos, et discite a me, quia mitis sum, et humilis corde: et invenietis requiem animabus vestris*», кажучы: усе вы крочыце, засмучаныя і знясіленыя пад цяжарам вашых турботаў і вашых жаданняў; вызваліцеся ад іх і прыйдзіце да Мяне, і Я аднаўлю вас, вы знойдзеце для душаў вашых адпачынак, якога пазбаўляюць вас вашыя жаданні. Яны становяцца для вас цяжкім ярмом, бо, як казаў Давід: «*et sicut onus grave gravatae sunt super me*» — «*як вялікі цяжар, знясілілі мяне*» (пар. Пс 38, 5).

---

* У творы святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

[1] Сучасная крытыка прыпісвае гэты твор невядомаму аўтару — сучасніку святога Аўгустына.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел IV
## Сяброўства

Відавочна, што пэўная адасобленасць, абыякавасць і глухата да голасу іншых людзей (прынамсі ў некаторых пытаннях) уласцівая любому сяброўству — і добраму, і дрэннаму, і проста бясшкоднаму. Нават калі сяброўства ўзнікае на такой малазначнай глебе як збіранне паштовых марак, філатэлісты цалкам слушна і непазбежна павінны ігнараваць меркаванне тых мільёнаў людзей, якія лічаць гэты занятак глупствам, і тых тысяч, якія сутыкаюцца з філатэліяй толькі зрэдку. Заснавальнікі метэаралогіі слушна вымушаны былі не слухаць мноства тых, хто працягваў лічыць навальніцы вядзьмарствам. У гэтым няма злачынства. Я ведаю, што буду чужым сярод гальфістаў, матэматыкаў і аўтамабілістаў, і думаю, што маю поўнае права таксама лічыць іх чужымі. Людзі, якія не выносяць адзін аднаго, павінны бачыцца як мага радзей, тыя ж, хто цікавыя адзін аднаму, — часцей.

Небяспека заключаецца ў тым, што частковая абыякавасць або глухата да чужога меркавання, у нечым апраўданая і неабходная, можа прывесці да поўнай абыякавасці і глухаты. Але найярчэйшыя прыклады гэтаму можна знайсці не ў сяброўскіх колах, а ў асяродку рэлігійных уладаў і арыстакратыі. Усім нам вядома, што думалі першасвятары пра просты люд у часы Хрыста. У хроніках Фруасара[31] рыцары не мелі ні кроплі спачування і літасці да чужынцаў: вясковых жыхароў. Але гэтая сумная абыякавасць цесна перапляталася з высокамаральнымі якасцямі. У сваім асяродку рыцары жылі паводле строгага кодэксу, які патрабаваў ад іх смеласці, высакароднасці, куртуазнасці і шанавання гонару. Для прадбачлівых своекарыслівых сялянаў усё гэта проста глупства. Рыцары, жывучы паводле свайго кодэксу паводзінаў, вымушаны былі цалкам ігнараваць меркаванне іншых. Ім было напляваць. І калі б не так, у нас саміх сёння было б нашмат менш гонару і пачцівасці. Але звычка не звяртаць увагі на іншых прыжылася і расцвіла ў асяродку арыстакратыі. Калі не лічыцца з голасам селяніна ў тым, што яго сапраўды не датычыць, лёгка будзе не пачуць гэты голас і тады, калі ён моліць аб справядлівасці і літасці. Частковая глухата, якая выкліканая неабходнасцю і сведчыць аб высакароднасці, спрыяе поўнай глухаце — высакамернай і бесчалавечнай.

Зразумела, што кола сяброў не можа так прыгнятаць іншых людзей, як уплывовы сацыяльны клас. Але такая самая небяспека пагражае і сяброўству ва ўласцівай яму меры. Сябры могуць у агульным і зняважлівым сэнсе палічыць чужынцамі тых, каго спачатку цалкам справядліва лічылі чужымі толькі ў пэўнай сферы. Тады, як і адбылося ў арыстакратычных колах, сябры ствараюць вакол сябе пустку, і ніякі голас звонку іх не дасягае. Кола літаратараў або мастакоў, спачатку перастаўшы лічыцца, магчыма, і слушна, з поглядамі простых людзей на літаратуру і мастацтва, пасля такім жа чынам можа адкінуць іх погляды на тое, што трэба аплачваць рахункі, стрыгчы пазногці і паводзіць сябе прыстойна. Такім чынам, кожная загана сяброўскага кола (ніхто з нас не дасканалы) можа стаць невылечнаю. Але гэта яшчэ не ўсё. Частковая абарончая глухата, пра якую мы кажам, заснаваная на нейкай рэальнай перавазе над іншымі, нават калі гэта ўсяго толькі перавага ў ведах аб філатэліі. І гэтае пачуццё перавагі будзе спадарожнічаць поўнай глухаце. Сябры будуць не проста ігнараваць чужынцаў, яны стануць імі пагарджаць. Сяброўскае кола ператворыцца ў нешта вельмі падобнае да сацыяльнага класу — элітарны клуб выбраных, самазваную арыстакратыю.

Я ўжо адзначыў, што ў добрым сяброўстве кожны сябар часта адчувае сваю мізэрнасць у параўнанні з іншымі. Ён лічыць сяброў непараўнальнымі асобамі і шчаслівы, што можа знаходзіцца сярод іх. Аднак, на жаль, у гэтым сэнсе «*яны*» з іншай кропкі гледжання — гэта таксама і «мы». Вельмі лёгка перайсці ад асабістай пакоры да супольнай пыхі.

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

Я не маю на ўвазе пыху, уласцівую пэўным грамадскім колам, або снабізм: задавальненне ад таго, што ты знаёмы (і ўсе пра гэта ведаюць) з выбітнымі людзьмі. Гэта зусім іншае. Сноб прагне ўвайсці ў кола, якое ўжо лічаць элітаю, сябры знаходзяцца ў небяспецы лічыць сябе элітаю з той прычыны, што яны ўжо знайшлі адзін аднаго. Мы шукаем людзей сабе па сэрцы адпаведна з іх уласнымі якасцямі, а пасля з трывожным або радасным здзіўленнем адчуваем, што ўвайшлі ў выбранае кола. Самі мы гэтак не скажам. Кожны чытач, які мае сяброў, напэўна, захоча голасна запярэчыць мне, што ў коле яго сяброў ніхто ніколі не быў вінаваты ў падобным абсурдзе. Я адчуваю тое самае. Але ў такіх справах лепей не пачынаць з уласнага досведу. Як бы там ні было, я ўпэўнены, што ўсе мы заўважалі падобную тэндэнцыю ў іншых колах, куды самі не ўваходзім.

Аднойчы я ўдзельнічаў у канферэнцыі, і там два святары, відавочна блізкія сябры, пачалі размаўляць пра «нястворания энергіі», якія не паходзяць ад Бога. Я спытаўся, як можа існаваць нешта нястворанае, апроч самога Бога, калі Вызнанне веры называе Яго «Стварыцелем усяго бачнага і нябачнага». У адказ яны пераглянуліся і засмяяліся. Я не меў нічога супраць смеху, але хацеў пачуць і больш зразумелы адказ. Яны не кпілі з мяне, не насміхаліся. Сэнс іх смеху перадаецца фразай, якую часта можна пачуць ад амерыканца: «А ён цяміць, не?». Так смяюцца дарослыя, калі іх развесяліць гарэзлівае дзіця, пры ўсіх задаўшы пытанне, якое задаваць не прынята. Яны смяяліся, ні ў якім разе не жадаючы нікога пакрыўдзіць, але адначасова стваралі яснае ўражанне людзей, цалкам упэўненых у тым, што яны існуюць на вышэйшым узроўні развіцця, чым астатнія, і ходзяць між нас, як рыцары паміж халопаў, як дарослыя паміж дзяцей. Магчыма, яны мелі што адказаць на маё пытанне і бачылі, што я занадта мала ведаю, каб зразумець іх адказ. Калі б яны знайшлі ў сабе дастаткова ветлівасці, каб сказаць: «Баімся, што гэта занадта доўга будзе тлумачыць», я не абвінавачваў бы іх у сяброўскай пыхлівасці. Менавіта ў гэтым пераглядзанні і смеху была сапраўдная прычына — гэта ўвасобіла ў сабе ўсю ўпэўненасць тых людзей у неаспрэчнай і відавочнай перавазе іх кола над іншымі. Яны паводзілі сябе, як жыхары Алімпа: без аніякага жадання пакрыўдзіць, без аніякага бачнага імкнення параніць або пакпіць; гэта сапраўды былі вельмі мілыя людзі, што толькі падкрэслівала іх алімпійскі статус. Упэўненасць у перавазе была ў іх настолькі моцнаю, што яны маглі дазволіць сабе талерантнасць, падкрэсленую ветлівасць і рахманасць.

Падобнае пачуццё перавагі кола не заўжды ўзносіць на Алімп, то бок — чыніць спакойным і талерантным. Яно можа прыпадобніць чалавека і да тытанаў, зрабіць свавольным, ваяўнічым і злаславым. Аднойчы я чытаў лекцыю ў студэнцкім клубе, і пасля майго дакладу, як звычайна бывае, пачалася агульная дыскусія. Адзін маладзён з зацятым, як у грызуна, тварам так накідваўся на мяне, што я вымушаны быў сказаць: «Паслухайце, шаноўны, у апошнія пяць хвілін Вы двойчы назвалі мяне ілгуном. Калі Вы не здольны выказваць сваю крытыку інакш, я адсюль пайду». Я чакаў, што ён або раз'юшыцца канчаткова і стане яшчэ больш сыпаць абразамі, або засаромеецца і выбачыцца. Незвычайна тое, што ён зрабіў ні так, ні гэтак. Хваравіты выраз яго твару зусім ніяк не змяніўся. Ён больш не абвінавачваў мяне ў хлусні наўпрост, але працягваў паводзіць сябе як раней. Я апынуўся перад жалезнай заслонай. Ён быў загадзя ўзброены супраць рызыкі завязаць асабістыя кантакты любога роду: і сяброўскія, і варожыя, з такімі людзьмі, як я. Я амаль упэўнены, што за гэтым стаіць кола «тытанаў», самазваных рыцараў-тампліераў, заўжды закаваных у браню і гатовых абараняць свайго Бафамета[32]. Мы для іх можам быць толькі «яны» і як асобы наогул не існуем. Мы для такіх людзей — толькі прадстаўнікі розных узроставых групаў, тыпажоў, грамадскіх меркаванняў, зацікаўленасцяў, якіх трэба вынішчыць. Калі нейкая зброя выбіта ў іх з рук, яны спакойна бяруцца за іншую. У звычайным сэнсе слова яны наогул з намі не кантактуюць, а проста робяць сваю працу, «распыльваюць атруту» (я сам чуў, як адзін з той кампаніі ўжыў гэты выраз).

Тыя два мілыя маладыя святары і не вельмі мілы Грызун, пра якіх я казаў, належаць да людзей высокага разумовага ўзроўню. Іх можна параўнаць з вядомым элітарным колам інтэлектуалаў, што існавала ў часы караля Эдуарда, прадстаўнікі якога з бязглуздай пыхлівасцю называлі самі сябе «душамі». Але гэткае ж пачуццё перавагі выбранага кола можа закрануць і менш адукаваных сяброў, і тады яны выкажуць сваю пагарду да іншых яшчэ грубейшым чынам. Мы ўсе бачылі, як «мясцовыя» хлапчукі ў школе размаўляюць з «новенькім», як два прафесійныя вайскоўцы звяртаюцца да рэкрута, як гучна і вульгарна паводзяць сябе некаторыя групкі сяброў перад чужымі ім людзьмі ў карчме або ў вагоне цягніка. Яны закранаюць вельмі аса-

бістыя тэмы і размаўляюць пра загадкавыя рэчы, зразумелыя толькі ім, ды так, каб быць пачутымі, бо ўсім, хто не ўваходзіць у іх выбранае кола, трэба абавязкова гэта прадэманстраваць. Як ні дзіўна, сябраваць можна толькі «пра» гэты самы факт выбранасці, такіх сяброў можа больш нішто не аб'ядноўваць. Гутарачы з чужым, кожны член такой групоўкі з асалодаю называе іншых сваіх сяброў толькі па імёнах або мянушках, і менавіта з той прычыны (а не насуперак ёй), што чужынец не зразумее, пра каго ідзе гаворка. Адзін мой знаёмец дзейнічаў яшчэ больш спрытна: ён проста сыпаў імёнамі сваіх сяброў так, нібы мы ўсе абавязкова павінны былі ведаць, хто яны такія. Ён пачынаў так: «Як мне аднойчы сказаў Рычард Баттан...». У тыя часы мы ўсе былі вельмі маладыя і не асмельваліся прызнаць, што нічога не чулі пра Рычарда Баттана. Нам здавалася відавочным, што гэтае імя павінна быць на языку ва ўсіх, хто сам нешта з сябе ўяўляе, і не ведаць яго азначае, што і пра цябе ніхто не ведае. Толькі нашмат пазней мы зразумелі, што ніхто з нас пра яго ніколі не чуў. (Цяпер я нават падазраю, што некаторыя з гэтых Рычардаў Баттанаў, Эзэкіяў Кромвелаў і Элеанораў Фарсайт наогул не існавалі на свеце. Але цэлы год мы хадзілі прыстрашаныя і ледзь не абагаўлялі свайго знаёмца.)

Гэтая пыха сяброўства, не істотна, ці робіць яна сяброў жыхарамі Алімпа, тытанамі або проста вульгарнымі людзьмі, — вельмі частая з'ява. І неразважліва было б сцвярджаць, што нашае ўласнае сяброўскае кола не мае такой небяспекі. Зразумела, што паколькі гэта тычыцца нас саміх, мы апошнія яе заўважым. Небяспека сяброўскай пыхі амаль неаддзельная ад сяброўскай любові. Сяброўства па сваёй прыродзе азначае выбранніцтва. Але ад бязвіннага і неабходнага выбару сяброў адзін крок да духу эксклюзіўнага выбранніцтва і яшчэ адзін — да пагардлівай радасці быць такім выбраннікам. Прыняўшы такую паставу, мы будзем падаць усё хутчэй і ніжэй. Магчыма, да тытанаў або звычайных хамаў мы не апусцімся, але можам стаць «душамі», і гэта нават горш. Той супольны погляд на свет, які спачатку аб'яднаў нас, можа цалкам знікнуць, мы станем проста колам выбраных, якое існуе таму, што сабрала гэтых выбраных; будзем маленькай самазванай (і таму недарэчнай) арыстакратыяй, якая грэецца ў месяцовых промнях уласнага самалюбавання.

Здараецца, што пыхлівае сяброўскае кола пачынае забаўляцца практычнай дзейнасцю. Яно пашырае сябе ў разумных межах, набіраючы рэкрутаў. Іх зацікаўленасць у першапачатковай агульнай справе не мае значэння, але яны ў нейкім туманным сэнсе лічацца «правільнымі людзьмі». Тады гэтае кола набывае ўладу. Быць яго часткаю — азначае мець палітычную вагу, нават калі палітычная дзейнасць разварочваецца на ўзроўні палка, навучальнай установы або катэдральнага касцёла. У асноўным яго члены кіруюць дзейнасцю розных камітэтаў, выбіваюць пасады для «правільных людзей» і стаяць адзіным фронтам супраць чужынцаў, няздольных нічым быць ім карыснымі. Раней гэтыя людзі сустракаліся, каб пагаварыць пра Бога, паразважаць пра паэзію, цяпер жа яны абмяркоўваюць толькі ахвяраванні на правядзенне лекцый і сродкі на жыццё. Іх напаткаў справядлівы лёс. Бог сказаў Адаму: «Памятай, што ты прах і ў прах вернешся». Кола аднадумцаў, якое такім чынам ператвараецца ў хеўру праныраў, перастае быць сяброўствам і зводзіцца да простага практычнага кампаньёнства, з якога калісьці і ўзнікла. Сябры прыпадабняюцца да прымітыўнага зборышча першабытных паляўнічых. Менавіта паляўнічымі яны і ёсць, і не такімі паляўнічымі, якія вартыя пашаны.

Натоўп не мае абсалютнай рацыі, але і памыляецца не цалкам. Ён безнадзейна памыляецца ў тым, што любое кола сяброў узнікае дзеля самалюбавання і самаўзвышэння. Я веру, што натоўп памыляецца, лічачы, што любое сяброўства патурае пыхлівасці. Але здаецца, людзі маюць рацыю ў тым, што сяброўства схільнае менавіта да пыхі. Гэта самы духоўны від любові, і небяспека, якая яму пагражае, — таксама духоўнага кшталту. Сяброўства можна нават назваць анёльскай любоўю, калі жадаеце. Але чалавек мусіць быць абаронены трайною бранёю пакоры, каб есці анёльскі хлеб без небяспекі для сябе.

Магчыма, цяпер можна рызыкнуць і выказаць здагадку пра тое, чаму Святое Пісанне так рэдка параўноўвае Боскую любоў з сяброўствам. Фактычна атрымліваецца, што яно занадта духоўнае, каб быць добрым сімвалам для з'яваў духоўнага паходжання. Вышэйшае не бывае без ніжэйшага. Бог можа без асцярогаў называць сябе нашым Айцом і Жаніхом, бо толькі вар'ят палічыць, што Ён — наш фізічны айцец і ў прамым сэнсе слова ўзяў шлюб з Касцёлам. Калі ж для гэтага выкарыстоўваць вобраз сяброўства, лёгка пераблытаць сімвал з тым, што ён уласна сімвалізуе, і тады небяспека, заключаная ў ім, толькі ўзмоцніцца. Яна

можа падштурхнуць нас пераблытаць блізкасць паводле падабенства, якая лучыць сяброўства і нябеснае жыццё, з блізкасцю праз набліжэнне, і мы рызыкуем прыняць адно за другое.

Такім чынам, сяброўства, як і іншыя віды натуральнай любові, няздольнае само сябе выратаваць. Паколькі яно больш духоўнае, вораг яго больш падступны і дзейнічае больш незаўважна, сяброўства мусіць яшчэ больш шчыра прасіць нябеснага заступніцтва, калі не хоча сапсавацца. Глядзіце, які вузкі шлях сапраўднага сяброўства! Яно не павінна стаць «клубам самазахаплення», але не бывае сяброўства без таго, каб сябры не захапляліся адзін адным, без любові ацэнкі. Каб жыццё не стала для нас нішчымным і вартым жалю, трэба, каб сяброўства было такім, як у Хрысціяны і яе спадарожніцы ў «Шляху пілігрыма»[33]:

«Здавалася, яны страшыліся адна адной, бо кожная не бачыла ў сабе той славы, якую бачыла ў іншай. І таму яны пачалі шанаваць адна адну больш, чым сябе. “Ты прыгажэйшая за мяне,” — казала адна. “А ты прывабнейшая, чым я,” — адказвала другая».

У рэшце рэшт, ёсць толькі адзін спосаб бяспечна атрымаць падобны слаўны досвед, і далей Баньян раскрывае яго чытачу. Дзеянне адбываецца ў доме Тлумачальніка, дзе жанчыны абмыліся, апрануліся ў чыстае белае ўбранне, атрымалі пячатку і тады ўбачылі адна адну ў новым святле. Памятаючы пра чысціню, белае ўбранне і тое, якой пячаткай мы адзначаныя, мы застанемся ў бяспецы. І чым вышэйшая аснова нашага сяброўства, тым істотней пра ўсё гэта памятаць. У сяброўстве, пабудаваным на чыстай веры, як ні ў якім іншым, будзе катастрафічным забыцца пра гэта.

Таму што тады мы (нашае кола з чатырох-пяці чалавек) можам палічыць, што выбралі адзін аднаго, праніклі ў самую сутнасць і разгледзелі прыгажосць, уласцівую іншым, знайшлі падобных да сябе і свядома стварылі элітарнае кола, падняліся над рэштаю людзей дзякуючы сваім прыроджаным здольнасцям. Іншыя віды любові не вядуць да гэткай ілюзіі. У прыязнасці ад нашага выбару зусім не залежыць, да каго мы блізкія па крыві або прынамсі падобныя. У каханні палова любоўных песняў і вершаў гавораць пра тое, што каханы або каханая — твой лёс і наканаванасць, і пачуццё да іх нечаканае, як удар маланкі, і «не мы вырашаем, кахаць або ненавідзець»[34]. Страла Купідона, гены — што заўгодна вінаватае, толькі не мы. Але ў сяброўстве, вольным ад усяго гэтага, мы лічым, што самі выбіраем роўных сабе. Насамрэч жа, калі б розніца ва ўзросце была на некалькі гадоў большая, калі б мы жылі на некалькі кіламетраў далей адзін ад аднаго, калі б вучыліся ў іншым універсітэце, трапілі ў іншы полк, у першую сустрэчу загаварылі на іншую тэму, сяброўства магло і не завязацца. Але для хрысціяніна не бывае нічога выпадковага. Гэта праца ўкрытага Распарадчыка Імпрэзы. Хрыстус, які сказаў сваім вучням: «Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў» (Ян 15, 16), сапраўды можа сказаць усім сябрам-хрысціянам: «Не вы самі выбралі адзін аднаго, але Я выбраў вас адзін для аднаго». Сяброўства — не ўзнагарода за наш добры густ і здольнасць выбіраць людзей. Гэта прылада, з дапамогаю якой Бог паказвае нам прыгажосць іншага чалавека. Яна не большая, чым прыгажосць тысячы іншых людзей, але Бог раскрыў нам вочы на яе праз сяброўства. Як і кожная іншая, яна бярэ пачатак з Бога і пасля ў добрым сяброўстве павялічваецца пад уздзеяннем самога гэтага сяброўства, і атрымліваецца, што сяброўства — прылада Божая не толькі для адкрыцця прыгажосці, але і для яе стварэння. На гэтай святочнай гасціне менавіта Ён рыхтуе стол і запрашае гасцей. Маем надзею, што менавіта Ён час ад часу кіруе гэтай гасцінай, і так заўжды павінна быць. Не варта весці разлікаў без нашага Гаспадара.

Гэта не значыць, што трэба рабіць з сяброўства ўрачысты акт. Барані нас ад гэтага, Божа, Стварыцель добрага смеху! Адна з цяжкіх і прыемных тонкасцяў жыцця заключаецца ў тым, каб глыбока ўсведамляць сур’ёзнасць некаторых рэчаў, аднак не траціць здольнасці і жадання ставіцца да іх лёгка, як да гульні. Але ў нас будзе магчымасць прысвяціць гэтай тэме больш часу ў наступным раздзеле. Цяпер жа я працытую прыгожую і слушную параду Данбара[35]:

«*Заўжды вясёлы будзь і гэтак Пану дагаджай,*
*На свет жа гэты ты ніколі не зважай*».

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*

Паводле: «*The Four Loves*», *C. S. Lewis*, 1958.
*Працяг будзе.*

---

[31] Жан Фруасар (*Jean Froissart*; 1333?–1405?) — французскі пісьменнік, аўтар вядомых гістарычных хронік.

[32] Бафамет — дэман, у пакланенні якому абвінавацілі ордэн тампліераў, што стала падставаю для яго знішчэння.

[33] «Шлях пілігрыма» (*Pilgrim’s Progress*) — алегарычны раман Джона Баньяна (1628–1688), адзін з найбольш значных твораў англійскай рэлігійнай літаратуры.

[34] Цытата з верша Крыстафера Марлоў (*Christopher Marlowe*) — выбітнага паэта і драматурга XVI стагоддзя.

[35] Уільям Данбар (*William Dunbar*; 1460–1520) — найбольш вядомы шатландскі паэт XVI стагоддзя.



*__Ксёндз кардынал Зянон Грахалеўскі__ нарадзіўся 11 кастрычніка 1939 года ў Брудках Вялікапольскіх. Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Познані (1957—1963). Атрымаў святарскае пасвячэнне 26 траўня 1963 года ў Познані. Праз тры гады душпастырскай працы ў парафіі Хрыста Адкупіцеля ў Познані быў скіраваны на вучобу ў Папскі Грыгарыянскі ўніверсітэт у Рыме, каб вывучаць кананічнае права. І ліцэнцыяцкая (1968), і доктарская (1972) яго працы атрымалі залаты медаль Святога Айца. Таксама ён атрымаў залаты медаль адваката Рымскай роты.*

*Пасля навучання кс. Грахалеўскі распачаў працу ў Найвышэйшым трыбунале Апостальскай сігнатуры. У 1980 г. стаў яе канцлерам, у 1982 г. — сакратаром, атрымаўшы ў гэты ж час годнасць біскупа. У 1998 г. ён стаў прэфектам арганізацыі. У 1999 г. — прэфектам Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі, якая апякуецца каталіцкімі школамі. У 2001 г. стаў кардыналам.*

*З'яўляецца аўтарам многіх публікацый і ганаровым грамадзянінам некалькіх гарадоў. Атрымаў некалькі дзясяткаў званняў доктара honoris causa, шматлікія ўзнагароды, медалі, тытулы, ордэны, адзнакі.*

*З'яўляецца Вялікім канцлерам Папскага Грыгарыянскага ўніверсітэта, Вялікім канцлерам Папскага інстытута сакральнай музыкі, Вялікім канцлерам Папскага інстытута хрысціянскай археалогіі, Вялікім канцлерам Папскага інстытута вывучэння арабскай культуры і ісламістыкі, кіраўніком Папскага вышэйшага інстытута лацінскай мовы.*

*Гэтаю вясною кардынал Грахалеўскі наведаў Беларусь: як папскі легат ён удзельнічаў у Нацыянальным эўхарыстычным кангрэсе, які адбыўся ў Гродне 24—26 мая гэтага года.*

*Прапануем вашай увазе размову з кардыналам Зянонам Грахалеўскім, якую нам даслаў суразмоўца Яго Эмінэнцыі кс. Кшыштаф Срока.*

# Каталіцкая адукацыя ў рэлігійна неаднародных грамадствах

— *Чым займаецца Кангрэгацыя, якой Вы кіруеце?*

— Кангрэгацыя, якою я кірую, падобная да Міністэрства адукацыі. Каталіцкая адукацыя — гэта каталіцкія школы вышэйшай ступені (каля 230 тысяч), каталіцкія і касцёльныя ўніверсітэты (каля 1300), духоўныя семінарыі (каля 3700), установы каталіцкай фармацыі. Адрозненне ў тым, што мы сутыкаемся з усімі магчымымі грамадскімі, культурнымі, рэлігійнымі і палітычнымі сітуацыямі. Напрыклад, мы маем каталіцкія школы і вучэльні ў краінах, дзе католікаў вельмі мала, таму мы павінны сачыць за прававымі зменамі, вырашаць розныя праблемныя сітуацыі, размаўляць з урадамі гэтых краінаў.

Такім чынам, дзейнасць нашай Кангрэгацыі развіваецца ў трох кірунках. Першы — гэта ўніверсітэты і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Мы дзелім гэтыя ўстановы на два тыпы: касцёльныя і каталіцкія. Касцёльныя — гэта тыя навучальныя ўстановы, падмуркам якіх з'яўляецца Божае Аб'яўленне, якія цесна звязаныя з місіяй Касцёла, маюць факультэты тэалогіі, гісторыі Касцёла, філасофіі, кананічнага права, хрысціянскай педагогікі. Статус гэтых навучальных установаў рэгулюецца спецыяльным прававым дакументам: Апостальская канстытуцыя «*Sapientia Christiana*» («Хрысціянская мудрасць») 1979 года. Гэта быў адзін з першых дакументаў папы Яна Паўла II. Ён добра ведаў гэты дакумент, бо як біскуп Кракава працаваў у камісіі, якая яго рыхтавала. Гэтыя навучальныя ўстановы могуць быць заснаваныя толькі нашай Кангрэгацыяй. Калі нейкая ўстанова або факультэт тэалогіі не атрымаюць нашага ўхвалення, акадэмічныя званні, атрыманыя там, не будуць прызнаныя ў Касцёле. Мы зацвярджаем праграмы, статуты і нават пастаянных выкладчыкаў гэтых навучальных установаў. У свеце такіх навучальных установаў каля трохсот.

Другі тып — гэта каталіцкія ўніверсітэты. Там ёсць усе магчымыя факультэты, ад медыцынскіх да дыпламатычных. Гэтыя навучальныя ўстановы рэгулююцца іншым прававым дакументам: «*Ex corde Ecclesiae*» ад 1990 года. Назва дакумента вельмі красамоўная — «З сэрца

Касцёла»... З сэрца Касцёла нарадзіліся ўніверсітэты. Сапраўды, першыя ўніверсітэты ў Еўропе былі заснаваныя Касцёлам або пры супрацоўніцтве з Касцёлам. Каталіцкіх універсітэтаў у свеце вельмі шмат, каля 1,5 тысяч, і іх колькасць расце. Сітуацыя ў іх вельмі адрозніваецца.

Нядаўна я быў у бразільскім горадзе Гаяне. Ён быў заснаваны ў 1933 годзе, сёння там жыве каля 2 мільёнаў чалавек. Самай вялікай навучальнай установай з'яўляецца Каталіцкі ўніверсітэт, ён уключае 5 вялікіх кампусаў. Я асвячаў новы велічэзны ўніверсітэцкі касцёл. Ва ўніверсітэце ёсць нават свая тэлестудыя, трансляцыі перадач атрымліваюць каля 20-ці мільёнаў гледачоў! Тэлеканал лічыцца вельмі прэстыжным. Калі я прыехаў на адкрыццё новай тэлевізійнай станцыі, на ўрачыстасці прысутнічаў губернатар правінцыі Гаяс. Даведаўшыся, што я збіраюся ехаць на поўнач краіны, ён даў мне ў карыстанне свой прыватны самалёт. Мяне адвезлі на месца, а праз два дні прывезлі назад.

Я жыў у найлепшым гатэлі. Гаспадыня гатэля, даведаўшыся, што Каталіцкі ўніверсітэт прымае кардынала з Рыма, паведаміла, што забяспечыць бясплатнае пражыванне.

Адчуваецца, які прэстыж мае Каталіцкі ўніверсітэт. Было зробленае апытанне сярод жыхароў краіны на тэму: «З чым у вас асацыюецца ўніверсітэт?». 80% апытаных адказалі: «З Каталіцкім універсітэтам у правінцыі Гаяс». Зразумела, Бразілія — каталіцкая краіна, вышэйшых навучальных установаў тут шмат і некаторыя з іх вельмі прэстыжныя.

*— У якой сітуацыі знаходзяцца каталіцкія навучальныя ўстановы ў краінах, дзе няма каталіцкай традыцыі?*

— Універсітэты і каталіцкія навучальныя ўстановы існуюць у краінах, дзе католікаў вельмі мала. Пачынаючы працу ў Кангрэгацыі, я атрымаў запрашэнне ад урада Тайваня. У гэтым урадзе не было ніводнага католіка. Усяго католікаў у Тайландзе — каля 1,3 %. Мяне запрасілі, каб я ўбачыў школы і каталіцкія ўніверсітэты краіны. Нідзе мяне не прымалі на такім узроўні, як там. На невялікім Тайвані пражываюць 22 мільёны чалавек, гэта вельмі шмат, а католікаў з іх крыху больш за 1 %. У нас там 3 каталіцкія ўніверсітэты, у тым ліку вядомы ва ўсім свеце Фу Джэн у Тайпэі. Колькасць студэнтаў кожны год павялічваецца на тысячу чалавек. Студэнтаў католікаў сярод іх толькі каля 2%. На фасадзе будынка — вялікі надпіс «Каталіцкі ўніверсітэт» і вялікі крыж. Універсітэт лічыцца вельмі прэстыжным. Я ехаў на Тайвань па запрашэнні амбасадара краіны, не хрысціяніна. Ён сказаў, што, калі яго прызначылі амбасадарам Тайваня пры Апостальскай Сталіцы, ён нічога не ведаў пра Каталіцкі Касцёл. З часам ён стаў вялікім прыхільнікам Яна Паўла ІІ. Запрасіўшы мяне на вячэру, ён сказаў: «Калі я сустрэнуся з прэзідэнтам, то нагадаю яму, што ён абяцаў выдзеліць больш фінансавання для медыцынскага факультэта пры Каталіцкім універсітэце!». Не католік турбуецца пра Каталіцкі ўніверсітэт. Гэта сведчыць пра вялікі аўтарытэт гэтай установы.

Нядаўна я быў у Афрыцы, у Найробі, на юбілеі Каталіцкага ўніверсітэта. З нагоды гэтай падзеі некалькі чалавек атрымалі званне доктара *honoris causa*, сярод іх была адна жанчына-эканаміст, якая мае сусветную вядомасць. Яна супрацоўнічае з ААН, з'яўляецца вельмі актыўнай каталічкай. У яе пяцёра сваіх дзяцей і шосты ўсыноўлены. Урачыстасць адбывалася ў вялікім парку, каб усе ўдзельнікі маглі змясціцца.

Другой галіной дзейнасці нашай Кангрэгацыі з'яўляюцца каталіцкія школы. У свеце налічваецца каля 230 тысяч каталіцкіх школ, у якіх вучацца каля 45-ці мільёнаў чалавек.

Тут сітуацыі таксама бываюць розныя. Ёсць каталіцкія краіны і краіны, дзе католікаў мала. У Тайландзе з 60-ці мільёнаў чалавек католікамі з'яўляюцца каля 0,5% (каля 300 тысяч). А ў каталіцкіх школах — 465 тысяч вучняў! Я наведаў там дзве школы. Адна, якой апякуюцца законніцы, налічвае 2,5 тысячы вучняў. Яны пажадалі, каб я прыехаў у поўным кардынальскім строі, нягледзячы на тое, што было вельмі горача. Яны зрабілі спектакль, прысвечаны гісторыі каталіцкай школы ў Тайландзе, які доўжыўся больш за тры гадзіны. У школе ёсць зала на 1500 месцаў, сцэна на 400 чалавек. Зразумела, што большасць вучняў — будысты. На спектаклі яны спявалі па-лацінску, праслаўляючы ідэю і гісторыю каталіцкай школы.

Другая школа, якую я наведаў, была разлічаная на 6 тысяч вучняў і дзялілася на пачатковую школу і гімназію. У Апостальскай нунцыятуры ў Бангкоку я прагледзеў кнігу пра Тайланд, выдадзеную ўрадам краіны, шукаючы інфармацыю пра каталіцкія школы. Гэтай справе было прысвечана прыблізна паўстаронкі. Было напісана, што католікаў у краіне вельмі мала, каля 0,5% ад усяго насельніцтва, але католікі маюць найлепшыя школы і шпіталі. Гэта пішуць будысты! Каля нунцыятуры знаходзіцца вялікі каталіцкі шпіталь, якім апякуецца дыяцэзія.

Дачка караля вырашыла праходзіць лячэнне ў гэтым шпіталі, таму што ён лічыцца вельмі добрым. Нядаўна я прымаў амбасадара Інданезіі. Гэта найбольшая мусульманская краіна. Ёх хваліў каталіцкія школы і вучэльні, таму я падумаў, што ён — католік. Але ён сказаў, што з'яўляецца мусульманінам, але вучыўся ў каталіцкай школе, як і

яго бацькі, бо найлепшыя школы — каталіцкія!

*— А якая сітуацыя з тоеснасцю каталіцкіх школаў у Еўропе?*

— Напрыклад, у Бельгіі 60% вучняў ходзіць у каталіцкія школы. Вера павінна была б квітнець там, але справы ідуць зусім інакш. Гэта добрыя школы, але ў іх мала каталіцкага. І часта мы сутыкаемся з прэтэнзіямі бацькоў. Яны кажуць: «Мы пасылаем дзіця ў каталіцкую школу, таму маем права чакаць, што школа дасць яму салiднае хрысціянскае выхаванне, а гэтага ў школе вельмі мала». Мы падзяляем гэтую думку. У Еўропе сітуацыя дзіўная. Прыязджаюць мусульмане, ідуць у каталіцкія школы, бо яны добрыя. І ўзнікаюць такія думкі: паколькі ў нас вучацца не каталікі, у каталіцкай школе павінны гаварыць пра ўсе рэлігіі, а не толькі пра каталіцтва. Відавочна, што гэта вялікая памылка. Калі католік пасылае сваіх дзяцей у будысцкую, мусульманскую ці юдэйскую школу, ён не можа спадзявацца, што школа зменіць свой кірунак. У каталіцкіх школах мы прымаем усіх, нягледзячы на рэлігіі і веравызнанні, але пры гэтым мусім захоўваць сваю тоеснасць.

*— Гэта вельмі важнае пытанне — захаванне тоеснасці каталіцкай навучальнай установы ў асяродку іншай рэлігіі.*

— На Тайвані я павінен быў размаўляць з выкладчыкамі Каталіцкага ўніверсітэта на тэму яго тоеснасці. І быў вельмі заклапочаны, бо першы раз сутыкнуўся з сітуацыяй, што ў Каталіцкім універсітэце вучацца толькі 2% студэнтаў католікаў. Таму я папрасіў віцэ-міністра, які ўвесь час спадарожнічаў мне, каб я найперш мог наведаць які-небудзь не каталіцкі ўніверсітэт, напрыклад, будысцкі (у краіне 40% будыстаў). Мы паехалі ў такі ўніверсітэт. Рэктарам была жанчына, якая выкладала ў Германіі на працягу 8 гадоў. Мы прагледзелі ўвесь кампус. Мяне цікавіла адно: «Што вы робіце ва ўніверсітэце для будызму? Нас — 1%, вас — 40%. Тое, што вы робіце для будызму, мы можам рабіць для каталіцтва». І спадарыня рэктар адказала, што ў гэтым універсітэце ўсе студэнты, незалежна ад рэлігіі і веравызнання, незалежна ад кірунку навучання, абавязаныя па 2 гадзіны на тыдзень вывучаць будызм. Гэта вельмі шмат.

Я лічу, што гэта правільна: для іх будызм з’яўляецца каштоўнасцю. Яны жадаюць дзяліцца гэтай каштоўнасцю з іншымі і маюць на гэта права, шануючы рэлігійную і асабістую свабоду. Апроч таго, гэта справа выбару: выбіраючы менавіта гэтую навучальную ўстанову, вы мусіце шанаваць яе тоеснасць. Я лічу, што мы, католікі, таксама павінны змагацца за нашыя каштоўнасці і захаванне правілаў. Каталіцкая школа застаецца каталіцкаю: прымаючы ўсіх людзей, яна не можа змяняць тоеснасці каталіцкай школы, хто б ні прыходзіў туды вучыцца. Мы шануем іх рэлігію і веравызнанне, але хочам узбагачаць іх нашымі каштоўнасцямі.

*— Адукацыя звязаная з эканомікай. Ці ўсе могуць дазволіць сабе вучыцца ў каталіцкай школе?*

— Я асабіста ганаруся тым, што Каталіцкі Касцёл надае вялікую ўвагу адукацыі для бедных. У Індыі ёсць раён, дзе ўлады хочуць, каб мы будавалі школы ў вялікіх гарадах, але не жадаюць, каб мы стваралі школы для бедных у вёсках. Яны канфліктуюць з біскупамі, бо Касцёл не можа адмовіцца ад апекі над тымі людзьмі. Я нядаўна быў у Найробі. На фоне іншых афрыканскіх краінаў Кенія — добрае месца. Калі не выходзіць з цэнтра, здаецца, што ты знаходзішся ў амерыканскім горадзе.

Мы паехалі наведаць школу ў трушчобах. Тут усё было наадварот: буданы, хаткі, вадасцёк на вуліцы. Машынай да школы было не праехаць, мы прабіраліся пехатою па вадасцёках. Школаю апекаваліся браты з Кангрэгацыі маці Тэрэзы з Калькуты. Класы былі вельмі маленькія і поўныя дзяцей. Калі б браты не займаліся гэтым, ніводнае з тых дзяцей не магло б хадзіць у школу. Гэта вялікая справа для бедных. Пэўны адсотак з іх атрымае добрую адукацыю і перспектывы развіцця. Будзем спадзявацца, што яны пазней будуць працаваць дзеля дабра сваёй краіны. Хаця сітуацыя і тут бывае розная. Сёння мы шмат гаворым пра глабалізацыю, але гэта звязана таксама з вялікай несправядлівасцю. Мы абураныя, што часам багатыя краіны даюць стыпендыі бедным здольным афрыканцам, а яны пасля не вяртаюцца дамоў, на радзіму. І без таго багатая краіна і ўніверсітэт узбагачаюцца яшчэ больш, а бедная краіна бяднее, і ўсё гэта робіцца дзеля стыпендый. Такім чынам, падобная дапамога часам стварае праблемы.

*— Які стан каталіцкіх школаў у мусульманскіх краінах?*

— Мусульманскія краіны вельмі розныя. Ступень свабоды ў іх вельмі розная, як і магчымасці каталіцкай адукацыі. Напрыклад, Інданезія — найбольшая мусульманская краіна. Католікаў там усяго некалькі працэнтаў, але сістэма навучальных установаў вельмі развітая. Існуе больш за 40 навучальных установаў, якія лічацца вельмі добрымі і прэстыжнымі і даюць веды на высокім узроўні, а большасць студэнтаў там — мусульмане.

Іншая сітуацыя пануе ў Егіпце. Там ёсць каталіцкія школы. Ёсць таксама адна вучэльня, але большасць студэнтаў там — замежнікі. Урад задаволены існаваннем каталіцкіх школаў, але ў іх забаронена гаварыць пра Хрыста. Нельга нікога навяртаць, мусульмане не павінны змяняць

веравызнанне. Мы дыскутавалі з біскупамі аб тым, ці мае сэнс займацца каталіцкімі школамі, калі ў іх нельга гаварыць пра Хрыста, і прыйшлі да высновы, што сэнс ёсць. Па-першае, гэтыя вучні мелі і будуць мець усведамленне таго, што вучыліся ў католікаў. Гэта ўтворыць паміж намі пэўную сувязь, сімпатыю. Па-другое, хоць у школе і не гавораць пра Хрыста, там вучаць шанаваць іншых людзей, іншую рэлігію, шанаваць кожнага чалавека — а гэта навука Хрыста. Не ідзе рэлігійная вайна, ствараецца клімат дыялогу. Нягледзячы на ўсе перашкоды, гэта пэўная прэевангелізацыя ў тым рэгіёне.

Ёсць таксама арабскія краіны, дзе ў нас няма ніякай магчымасці ствараць каталіцкія навучальныя ўстановы. Там ёсць школы для дыпламатычнага корпусу, але нічога нельга стварыць для мясцовых жыхароў. Такім чынам, у краінах, дзе жывуць мусульмане, сітуацыя таксама адрозніваецца. Напрыклад, у Албаніі 70% жыхароў — мусульмане. У камуністычныя часы там ізноў былі ганенні на хрысціянства. Пасля ўпадку камунізму ўрад звярнуўся да Касцёла з просьбаю аб стварэнні Каталіцкага ўніверсітэта. Універсітэт быў створаны. Большасць студэнтаў у ім вызнаюць іслам. Урад ставіцца да ўніверсітэта прыхільна, там няма ніякіх праблемаў, наадварот — улады прапануюць стварыць другую каталіцкую вышэйшую навучальную ўстанову ў горадзе Шкодра.

*— Касцёл мае на Святой Зямлі — у Ізраілі, Палестынскай аўтаноміі, Іарданіі, Егіпце — шмат школаў, каледжаў, дзе перадусім вучацца мусульмане. Як Кангрэгацыя ацэньвае адукацыю і фармацыю там?*

— Мы ацэньваем гэта вельмі добра, мы перакананыя, што гэта праца, якая найперш скіраваная для дабра тых людзей, якія не маюць вялікіх магчымасцяў займацца навукаю і вучыцца. Гэта спрыяе таксама спакойнаму супольнаму жыццю на Святой Зямлі мусульманаў, юдэяў і хрысціянаў.

На Святой Зямлі ёсць яшчэ некалькі каталіцкіх вучэльняў. Апошняя ўзнікла ў 2001 годзе як факультэт біблійных навук і археалогіі Папскага Універсітэта *Antonianum* пры «*Studium Biblicum Franciscanum*» кустодыі Святой Зямлі, у Ерузалеме, дзе ідзе вывучэнне Бібліі і біблійнай археалогіі. Вывучэнне Бібліі на зямлі Бібліі — вельмі патрэбная праца. Студэнты з усяго свету жадаюць вучыцца на Святой Зямлі. У падобных вучэльнях узнікаюць таксама і спецыфічныя праблемы, напрыклад, з візамі для студэнтаў з некаторых краінаў.

*— Што можа абмяжоўваць каталіцкую тоеснасць у мусульманскім асяродку, калі гаварыць пра адукацыю?*

— Нельга адназначна ацаніць сітуацыю ў мусульманскіх краінах. З аднаго боку, мы станоўча здзіўленыя Албаніяй, якая вельмі прыхільна ставіцца да нас і дапамагае як можа. Урад даў зямлю для ўніверсітэта, няма праблемаў нават з тым, каб запрашаць выкладчыкаў з-за мяжы. І ёсць такія мусульманскія краіны, дзе ў нас практычна звязаныя рукі і мы нічога не можам рабіць. Каталіцкая школа па сваёй сутнасці ўключаная ў евангелізацыйныя правы. Часам гэта забаронена наўпрост, як у Егіпце, але там мы можам вучыць годнасці і пашане ў адносінах да іншага чалавека, іншых рэлігій, культураў, і гэта стварае клімат дыялогу і прэевангелізацыі.

*— Значыць, трэба працаваць па метадзе Шарля дэ Фуко: евангелізаваць хутчэй прысутнасцю, чым словам?*

— Так. Я лічу, што гэта вельмі важны і плённы метад.

*— Як з пункту гледжання Ватыкана Вы ацэньваеце абвінавачанні каталіцкіх школаў у неталерантнасці?*

— Падобныя абвінавачванні — поўны абсурд. Кожны мае права на захаванне сваёй тоеснасці. Можна і пра свецкія школы сказаць, што яны неталерантныя, бо ў пэўным сэнсе не існуе нейтральных школаў. Свецкая школа таксама можа займацца прапагандаю рэлятывісцкага стаўлення да праўды, маралі — і гэта таксама ў пэўным сэнсе ідэалогія. Каталіцкая школа па сваёй сутнасці прапагандуе павагу да чалавека. Я не лічу, што нейкая каталіцкая школа з’яўляецца неталерантнаю. Некалі ў нас была дыскусія на тэму антысемітызму. Я сказаў: «Пакажыце мне каталіцкую школу, якая пашырае антысемітызм. Такога няма!». Мы прапагандуем павагу да кожнага чалавека, гэта першасная справа. Часам нас спрабуюць абвінаваціць у неталерантнасці, антысемітызме і гэтак далей. Калі я за нешта крытыкую польскі ўрад, гэта не робіць мяне антыпалякам. Я ганаруся, што каталіцкія школы і вучэльні адкрытыя для ўсіх, імкнуцца ўзбагачаць усіх нашымі каштоўнасцямі, з павагаю звяртаюцца да кожнага чалавека, асабліва да бедных.

*— Дзякуй Вам вялікі за размову. Жадаю, каб Кангрэгацыя, якою Вы кіруеце, магла адкрываць і даваць апрабацыю новым вучэльням, універсітэтам і школам, якія стануць гонарам каталіцкай адукацыі ў свеце, дзе існуе так шмат адрозненняў у цывілізацыі, эканоміцы, культуры і рэлігіі.*

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*

Алена Вальчук

# Роля езуітаў іспанцаў у развіцці адукацыі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII стст.

У другой палове XVI ст. прадстаўнікі «Таварыства Езуса» былі запрошаны на вялікалітоўскія землі, дзе актыўна ўключыліся ў працэс фармавання адукацыйнай сістэмы і пашырэння ведаў. Адкрыццё езуіцкіх навучальных установаў выявіла неабходнасць у забеспячэнні іх высокаадукаванымі выкладчыкамі, якія накіроўваліся з іншых краінаў і мелі рознае паходжанне, у тым ліку і іспанскае.

Так, з 1567 г. у Віленскім езуіцкім калегіуме Святое Пісанне і маральную тэалогію выкладаў нараджэнец Бэхара Антоніа Арыяс. Дзякуючы выдатнай падрыхтоўцы (засвойваў філасофію ў Алькала дэ Энарэс, дзе ў 1566 г. уступіў у ордэн, затым працягнуў навучанне багаслоўю ў Арыямбры, Пласэнсіі (Іспанія) і Рыме), ён, пасля ператварэння калегіума ў акадэмію, узначаліў кафедру схаластычнай тэалогіі, а ў 1583 г. атрымаў ступень доктара ў гэтай галіне. Усведамляючы неабходнасць удасканалення сістэмы ордэнскага навучання на беларуска-літоўскіх землях, Арыяс у перыяд з кастрычніка па снежань 1587 г. уваходзіў у склад камісіі, якая працавала над праграмай езуіцкіх школаў. Акрамя таго, дзякуючы глыбокай абазнанасці ў тэалогіі, прафесар Віленскай акадэміі стаў давераным тэолагам біскупа Юрыя Радзівіла[1].

У 1578 г. у вучэльні быў адкрыты першы тэалагічны курс, што стала прычынай прыезду ў Вільню ў якасці выкладчыка іспанца Г. Алаб'яна. Нараджэнец Тарагоны, якая на той час належала да правінцыі Арагона, ён у 1567 г. уступіў у ордэн. Навучаючыся, Г. Алаб'яна засвойваў філасофію ў Сарагосе, а тэалогію ў Валенсіі і Барселоне, пасля чаго быў накіраваны ў Рым з мэтаю паглыблення ведаў у гэтай сферы і атрымання навыкаў, неабходных для педагагічнай дзейнасці. Пачынаючы працу ў акадэміі, ён бачыў яе вынікі не толькі ў стварэнні навуковай пляцоўкі, але і ў падрыхтоўцы тэолагаў высокага ўзроўню. Аднак па аб'ектыўных прычынах яму не ўдалося ажыццявіць задуманае: недахоп святароў змушаў айцоў разглядаць студэнтаў тэолагаў у першую чаргу як душпастыраў, а не навукоўцаў. Абранне ў 1585 г. другім пасля П. Скаргі рэктарам Віленскай акадэміі дазволіла Г. Алаб'яна рэалізаваць уласныя арганізатарскія здольнасці: у прыватнасці, ён працягнуў пачатае яго папярэднікам будаўніцтва вучэльні. Прыязнае стаўленне да іспанца з боку манархаў С. Баторыя і Жыгімонта III дазволіла яму заняць высокія грамадскія пазіцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Дзякуючы духоўнаму аўтарытэту Г. Алаб'яна стаў спаведнікам кардынала Юрыя Радзівіла. Набліжанасць да яго асобы спрыяла ажыццяўленню планаў іспанца па рэфармаванні Касцёла. Як адзначае С. Беднарскі, у гэтай справе святар «на працягу некалькіх гадоў, нягледзячы на вялікія цяжкасці, станоўча ўплываў на кардынала»[2]. Прызначаны ў 1592 г. на кракаўскае біскупства, Юрый Радзівіл пакідае вялікалітоўскія абшары, а дзякуючы яго садзейнічанню з Вільні выпраўляецца Г. Алаб'яна[3].

Пасля выдання ў 1588 г. у Семіграддзі дэкрэта, скіраванага супраць езуітаў, у Вільню перабраўся Мігель (Міхал) Арціс. Тут іспанец па паходжанні (нарадзіўся ў горадзе Віторыя ў Кастыліі), які пасля заканчэння класа паэтыкі ўступіў у Саламанцы ў ордэн (1577), дзе працягнуў навучанне, засвоіўшы рыторыку (з 1579 г.), філасофію (1581–1583), тэалогію (1584–1587), быў прыняты на пасаду выкладчыка прамоўніцкага майстэрства ў акадэміі. Атрымаўшы на пачатку 1591 г. ступень магістра мастацтваў і філасофіі, ён пераходзіць на кафедру філасофіі. Займаючыся не толькі гэтай навукай, але і тэалогіяй, Арціс у 1594 г. становіцца доктарам і пачынае працаваць на тэалагічным факультэце, выкладаючы каментарый да I часткі «Сумы тэалогіі» св. Тамаша Аквінска-

**Алена Вальчук** — кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна (1999), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2002). У 2010 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Біблейскія матывы ў творчасці Янкі Купалы». Даследуе беларуска-іспанскія літаратурныя ўзаемасувязі.

га. Пазней ён займае ганаровую пасаду канцлера згаданай навучальнай установы.

Узначаліўшы езуіцкі калегіум у Калішы, М. Арціс пакідае на нейкі час Вільню, куды вяртаецца ў 1605 г. у сувязі з прызначэннем яго рэктарам акадэміі. Нягледзячы на тое, што перыяд кіравання вучэльняю нараджэнцам Іспаніі быў азмрочаны нападкамі на прадстаўнікоў ордэну, якіх абвінавачвалі ў змове с Габсбургамі з мэтаю ўсталявання на тэрыторыі Рэчы Паспалітай абсалютызму, ён адчуваў сябе ў бяспецы, паколькі, будучы дарадцам і тэолагам Міхала Крыштофа Радзівіла Сіроткі, знаходзіўся пад яго абаронаю. Пасля адміністрацыйнай рэформы 1608 г., калі ўтварыліся дзве правінцыі – польская і літоўская, М. Арціс застаўся ў апошняй і з восені таго ж года пачаў выкладаць ордэнскае права і кіраваць аскетычнымі практыкамі маладых езуітаў пасля заканчэння імі штудый т.зв. трэцяй прабацыі ў Нясвіжы. Тут жа ў перыяд з 1616 па 1620 гг. ён займаў пасаду рэктара і «быў прэфектам вышэйшых штудый (маральная і палемічная тэалогія)». Паводле Б. Натонскага, «у літоўскай правінцыі высока цаніліся веды і дасведчанасць Арціса»[4], таму ён уваходзіў у яе раду, а падчас кангрэгацый выконваў адпаведныя яго ўзроўню абавязкі. У 1622 г. Арціс быў абраны кіраўніком вялікалітоўскай правінцыі. Дбаючы пра пашырэнне ордэнскіх інстытуцый, ён пры дапамозе С. Касабуцкага ўвасобіў у жыццё план Стэфана Баторыя, які меў на мэце заснаванне рэзідэнцыі езуітаў у Гародні, а ў Навагрудку набыў пляц пад будучае будаўніцтва калегіума і касцёла. Значную ўвагу рэктар надаваў Віленскай акадэміі, што паступова аднаўлялася пасля пажару 1610 года. Ён загадаў збудаваць бібліятэку і дамовы шпіталь, а таксама ўпарадкаваць архіў. Акрамя таго, атрымаўшы дазвол ад генерала ордэну М. Віталескі і заручыўшыся фінансавай падтрымкай генеральнага старосты Жмудзі Г. Валовіча, М. Арціс намерваўся адкрыць у акадэміі факультэт права і медыцыны, але па невядомых прычынах яму не ўдалося здзейсніць задуманае. Пасля сыходу з пасады правінцыяла ён у другі раз быў абраны рэктарам калегіума ў Нясвіжы і заставаўся ім на працягу 1627–1630 гг. Тут жа М. Арціс правёў апошнія гады жыцця, дапамагаючы тым, каму гэта было неабходна, у вырашэнні складаных маральна-этычных праблемаў, і сышоў у іншы свет у 1638 годзе[5].

З Віленскай акадэміяй звязаў свой лёс і Хаймэ (Якуб) Арціс – брат Міхала. У 1594 г. іспанец – нараджэнец андалусійскага горада Кабра, які валодаў неабходным узроўнем ведаў (сярэднюю адукацыю атрымаў у Манцілы, а затым на працягу трох гадоў вывучаў філасофію і прайшоў паўгадовы курс тэалогіі ў Кордабе, дзе ў 1583 г. уступіў у езуіцкі ордэн), нягледзячы на адсутнасць навуковага звання, быў запрошаны на пасаду выкладчыка філасофіі, якая вызвалілася ў сувязі з пераходам яго брата на тэалагічны факультэт. У 1595 г. пасля хадайніцтва М. Сміглецкага перад генералам ордэну К. Аквавівам Я. Арціс атрымаў дазвол на атрыманне ступені магістра мастацтваў і філасофіі. У перыяд з 1596 па 1598 гг. ён вярнуўся да каментавання філасофскіх лістоў Арыстоцеля.

Пераехаўшы ў Познань і прапрацаваўшы ў мясцовым калегіуме некаторы час, Я. Арціс у жніўні 1601 г. вяртаецца ў Вільню, каб замяніць свайго брата на кафедры дагматычнай тэалогіі ў акадэміі. У 1603 г. ён стаў доктарам у гэтай галіне ведаў, а ў 1609 г. узначаліў канцылярыю вучэльні. Пасля моцнага пажару ў 1610 г., у выніку якога пацярпелі ў тым ліку і будынкі акадэміі, Я. Арціс пакідае Вільню і зноў прыязджае ў горад пасля завяршэння іх адбудовы ўлетку 1613 года. Неўзабаве ён быў абраны на пасаду канцлера і захаваў за сабой гэты статус да канца жыцця.

Будучы прафесарам дагматычнай тэалогіі, Я. Арціс да 1619 г. каментаваў «Суму тэалогіі» св. Тамаша Аквінскага, у першую чаргу абапіраючыся на працы Грыгорыя Валенсійскага. Ідучы за Ф. Суарэсам у адмаўленні розніцы паміж такімі катэгорыямі як «сутнасць і існасць», ён садзейнічаў пашырэнню ідэяў іспанскага філосафа на вялікалітоўскіх абшарах.

Акрамя таго, Я. Арціс быў дарадцам рэктара Віленскай акадэміі, чальцом рады правінцыі (1614–1618), удзельнічаў у кангрэгацыі літоўскай правінцыі (належаў да яе з 1608 г.). Прафесар памёр у 1625 г. у Нясвіжы, куды пераехаў разам са студэнтамі тэолагамі, хаваючыся ад эпідэміі, што ў той час ахапіла Вільню[6].

Пацвярджэннем высокага ўзроўню навуковых ведаў айцоў езуітаў — нараджэнцаў Іспаніі, стаў зварот у 1622 г. кангрэгацыі літоўскай правінцыі да генерала ордэну аб накіраванні іх суайчынніка ў Віленскую акадэмію ў якасці прафесара схаластычнай тэалогіі, здольнага працягнуць традыцыі сваіх братоў у згаданай вучэльні. Просьба была задаволеная, і ў 1624 г. у Вільню прыбыў Бэніта (Бэнэдыкт) дэ Соха, які паходзіў з Баэсы, размешчанай недалёка ад Гранады. Скончыўшы клас рыторыкі, ён уступіў у 1602 г. у Манцілы ў ордэн, пасля чаго, адбыўшы двухгадовы навіцыят, на працягу года атрымліваў адукацыю ў настаўніцкай семінарыі, затым вывучаў філасофію ў Севільі (1605–1608), а тэалогію — у Гра-

надзе (1608–1612), дзе ў 1611 г. прыняў святарскі сан. Да пераезду ў Вільню Б. дэ Соха атрымаў на працягу дванаццаці гадоў значны педагагічны вопыт: тры гады ён прысвяціў выкладанню рыторыкі ў іспанскіх езуіцкіх калегіумах, чатыры — філасофіі ў Кордабе і пяць — маральнай тэалогіі ў Гранадзе. Акрамя таго, ён выконваў абавязкі дырэктара ніжэйшых школаў, быў прэфектам студэнцкай кангрэгацыі. У Іспаніі ён атрымаў ступень магістра філасофіі і вызваленых навук.

Па прыбыцці на вялікалітоўскія землі Б. дэ Соха стаў працаваць на кафедры схаластычнай тэалогіі Віленскай акадэміі і выкладаў гэтую дысцыпліну да 1631 года. У 1625 г. ён атрымаў званне доктара тэалогіі. Захаваўся рукапіс яго лекцый «*Tractatus de venerabili Eucharistiae sacramento*...», датаваны 1626 годам. Заснаваны ў асноўным на вучэнні св. Тамаша Аквінскага, ён таксама грунтаваўся на ідэях іспанскіх аўтараў[7].

З невялікімі перапынкамі на працягу 1624–1641 гг. і ў перыяд з 1641-га па 1649 г. Б. дэ Соха, дасведчаны ў кананічным праве, займаўся вырашэннем маральных казусаў (*praefectus casuum*), садзейнічаючы маладым святарам у здабыцці тэарэтычных ведаў і практычных навыкаў, звязаных з маральнай тэалогіяй і таямніцай споведзі.

Ад моманту прыбыцця ў Вільню іспанскі езуіт быў дарадцам рэктара калегіума, а з 1641-га па 1646 г. – правінцыяла. З 1627 г. на працягу амаль 20 гадоў ён займаў спачатку пасаду канцлера (1628–1630), а пасля віцэ-канцлера (1630–1643; 1646–1649) Віленскай акадэміі. У 1633–1634 гг., знаходзячыся ў Нясвіжы, дэ Соха інструктаваў маладых святароў падчас гадавых штудый духоўнасці і ордэнскага права так званай III прабацыі. Вярнуўшыся ў Вільню, ён у 1635–1636 гг. выконваў абавязкі рэктара папскай і дыяцэзіяльнай семінарыі. Акрамя таго, у 1636 г. ім была падрыхтавана граматыка польскай мовы «*Praecepta grammaticae linguae Polonicae*», адрасаваная замежнікам, якія прыехалі працаваць у Рэч Паспалітую (мяркуецца, што яна так і не з'явілася ў друкаваным выглядзе). Як прэфект Б. дэ Соха ажыццяўляў кіраўніцтва вышэйшымі акадэмічнымі штудыямі (1630–1646), уплываючы на агульны ўзровень акадэмічных школаў. У 1641 г. ён суправаджаў інспектара літоўскай правінцыі Ф. Банфі, наведваючы разам з ім ордэнскія дамы. У час гэтай працы святар меў магчымасць выказваць свой погляд на планаваны працэс падзелу польскіх правінцый. Абраны ў 1643 г. рэктарам калегіума і Віленскай акадэміі, іспанскі езуіт у гэтым жа годзе меў гонар вітаць ад яе імя манархаў Уладзіслава IV Вазу і яго жонку Цэцылію Рэнату, якія прыбылі ў Вільню.

Садзейнічаючы далейшаму развіццю акадэмічнай установы, Б. дэ Соха прыкладае немалыя намаганні для таго, каб у ёй быў адкрыты новы факультэт кананічнага і грамадзянскага права. Акрамя таго, ён спрыяе пераезду ў 1644 г. з Інгальштадта ў Вільню прафесараў Я. Е. Шаўэра і А. Алізароўскага (кананічнае права), а таксама Ш. Дзільгера (грамадзянскае права). Усведамляючы неабходнасць забеспячэння навучальнага працэсу неабходнай літаратурай, Б. дэ Соха выдае ў 1648 г. працу «*Claves iuris*», якая ўключала ў сябе асноўныя прынцыпы рэлігійнага, рымскага і грамадзянскага права, сфарміраванага на землях Рэчы Паспалітай. Цытуючы не толькі сярэднявечных каментатараў, але і айцоў езуітаў, у прыватнасці А. Барбосу, аўтар садзейнічаў распаўсюджванню іх ведаў на вялікалітоўскіх землях.

Як рэктар Віленскай акадэміі Б. дэ Соха быў дэлегаваны ад літоўскай правінцыі ў Рым, дзе ў 1645–1646 гг. праходзіла VIII Генеральная Кангрэгацыя, і прыняў удзел у выбарах новага генерала ордэну — В. Карафы. У другой палове 1646 г. ён пакінуў пасаду рэктара, але не парываў сувязі з вучэльняй, дапамагаючы парадамі свайму наступніку, а таксама працягваў спавядаць. Вывезены айцамі езуітамі з Вільні падчас наступлення маскоўскага войска на горад у 1655 г., Б. дэ Соха выправіўся ў Бельгію[8]. Відавочна, што гады яго рэктарства былі вельмі плённымі для развіцця Віленскай акадэміі, якая ў гэты час «перажывала адзін з найлепшых перыядаў сваёй гісторыі»[9].

Маючы неабходны навуковы досвед і будучы здольнымі арганізатарамі, айцы езуіты — нараджэнцы Іспаніі, зрабілі важкі ўнёсак у развіццё на абшарах Вялікага Княства Літоўскага адукацыі еўрапейскага ўзроўню.

1. Poplatek, J. Arias Antoni / J. Poplatek // Polski Słownik Biograficzny. T. 1. – Kraków, 1935. — S. 157.
2. Bednarski, St. Alabiano Garcia / St. Bednarski // Polski Słownik Biograficzny. T. 1. — Kraków, 1935. — S. 40.
3. Тамсама.
4. Natoński, B. Ortiz Michal (Migel) / B. Natoński // Polski Słownik Biograficzny. T. XXIV. – Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1979. — S. 268.
5. Тамсама.
6. Natoński, B. Ortiz Jakub / B. Natoński // Polski Słownik Biograficzny. T. XXIV. – Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1979. — S. 266–267.
7. Grzebień, L. Soxo Benedykt (Benito) de / L. Grzebień // Polski Słownik Biograficzny. T. XLI. – Warszawa–Kraków, 2002. — S. 24.
8. Тамсама. С. 24–25.
9. Тамсама. С. 24.


Ордэн Залатой Шпоры.

Андрэй Шпунт

# КАВАЛЕР ЗАЛАТОЙ ШПОРЫ — айцец Францішак Папроцкі SJ

У 1996 г. у нашай краіне быў устаноўлены Дзень друку, які адзначаецца 5 траўня. Тыя, хто працаваў над абгрунтаваннем менавіта гэтай даты, здавалася б, мелі неблагі выбар, бо гэта магла быць і дата выхаду ў свет першай кнігі, надрукаванай Скарынам у Празе ў 1517 г., і дата першых выпускаў перыёдыкі на беларускай мове ў сярэдзіне XIX ст. (газеты «Гутарка», «Мужыцкая праўда» Каліноўскага), і першых перыядычных беларускіх газетаў «Наша Ніва» і «Наша Доля», і дата выпуску календара Андрэя Рымшы, надрукаванага ў Астрожскай друкарні Івана Фёдарава на Валыні 5 траўня 1581 года. Але ж не. Свята беларускага друку, аказваецца, бярэ свой пачатак ад першага выхаду ў 1912 г. ленінскай газеты «Правда», той, што аб'ядноўвала людзей, якія разагналі І Усебеларускі кангрэс і знішчылі нашу Рэспубліку годам пазней... А ці памятае, ці ведае хто, што першая перыядычная агульнаінфармацыйная газета ВКЛ «Кур'ер Літоўскі» пачала выдавацца ў красавіку 1760 г. а. Францішкам Папроцкім?

Мова і стылістыка біяграфічных даведачных выданняў звычайна вельмі сціслая — у «сухім астатку» ад асобы, пра якую недзе напісаныя фаліянты, можа застацца пара-тройка сказаў. Жыццяпіс а. Францішка Папроцкага — дзе б ён ні падаваўся, ці то ў «Польскім слоўніку біяграфічным», «Касцёльнай энцыклапедыі» ці, нарэшце, у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», займае месца куды болей, але кідаецца ў вочы тое, што яго біяграфія змяшчае ўсяго толькі свайго роду службовы фармуляр ды пералік друкаваных працаў. І ўсё. Для біёграфа, гісторыка, эсэіста, пісьменніка, здавалася б, не вельмі цікавы персанаж. І чаму б усе яго выдавецкія дасягненні не пералічыць, як гэта звычайна робіцца, у спісе твораў?

Нават калі прыгледзецца больш уважліва, асобу а. Францішка Папроцкага рагледзець будзе сапраўды вельмі цяжка. Нам не пашанцавала выявіць яго партрэт, які даў бы дадатковыя штрыхі, і ці захаваўся ён увогуле?

З іншага боку, справы гэтага выдаўца газет і календароў, перакладчыка, аўтара шматлікіх сачыненняў па геаграфіі, усеагульнай і айчыннай гісторыі гавораць самі за сабе. Нездарма большасць прадстаўнікоў Касцёла ў ВКЛ, тых, хто ўзбагачаў нашу краіну ў самых розных сферах навукі, культуры і мастацтва — езуіты, — вытанчаныя інтэлектуалы і руплівыя працаўнікі *Ad majorem Dei gloriam*. Айцец Ф. Папроцкі, гэты непрыкметны воін Хрыста, адным з першых з нашых суайчыннікаў з усёй адданасцю пачаў у масавым парадку пашыраць кругагляд нашага народа настолькі паспяхова, што нават у перыяд бязбожных бээсэсэраўскіх часоў, у 1971 г., беларускі філосаф Альберт Бірала ў сваёй кнізе адзначыў «вялікую ролю дзейнасці Ф. Папроцкага ў распаўсюджванні гістарычных і геаграфічных ведаў у Беларусі і Літве ў сярэдзіне XVIII ст.».

Францішак Папроцкі са шляхецкага роду герба «Ястрабец» (магчыма, «Еліта»), нарадзіўся 10 чэрвеня 1723 года. Дзе гэта адбылося? Усе даследчыкі і энцыклапедыі аднолькава кораткa называюць толькі слова «Беларусь». Хутчэй за ўсё, гэта былі тыя Папроцкія, што паходзілі з Кароны з серадскага ваяводства, а ў XVI ст. некаторыя з іх аселі

---

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

ў ВКЛ на Ашмяншчыне, Полаччыне і Віленшчыне. Вядома, што Ф. Папроцкі вучыўся ў езуітаў у Полацку. У 17 гадоў уступіў у ордэн езуітаў і праз 10 гадоў напружанай падрыхтоўкі прыняў святарскае пасвячэнне.

У 1753–1756 гг. а. Францішак Папроцкі працаваў настаўнікам у варшаўскім *Collegium Nobilium*. Езуіцкія калегіумы, дарэчы, былі лепшымі навучальнымі ўстановамі ў свеце. Канкурэнтная барацьба з піярамі толькі ўзбагачала гэтыя два ордэны, якія выкарыстоўвалі лепшыя дасягненні ў арганізацыі свайго навучання. *Collegium Nobilium*, толькі што створаная па піярскім узоры ўстанова, была бадай лепшай сярод лепшых, бо канцэнтравала ў сваіх сценах найвыдатнейшых езуітаў, якія падтрымлівалі цесныя кантакты з навукоўцамі, аб'яднанымі вакол Бібліятэкі Залускіх. У гэтай сувязі немагчыма не згадаць пра графа Юзафа Андрэя Залускага, біскупа Хелмскага і Кіеўскага, кароннага рэферэндарыя, дзякуючы якому была выдадзена *Volumina Legum*. Усе свае сродкі ён аддаваў на бібліятэку, якую збіраў з дапамогай свайго брата Андрэя Станіслава Залускага — біскупа ў Плоцку, Луцку, Хелмне і Кракаве, канцлера кароннага, вядомага дабрачынца і мецэната. Перад смерцю ў 1774 г. граф Юзаф Андрэй Залускі завяшчаў сваю бібліятэку, якая ўжо адчынілася для шырокага наведвання, народу Рэчы Паспалітай. Але ў 1795 г. па загадзе Кацярыны II Бібліятэка Залускіх была вывезеная ў Санкт-Пецярбург і ўключаная ў Імператарскую публічную бібліятэку. І хаця па дарозе многія кнігі згубіліся, да Паўночнай Пальміры даехала 262 640 тамоў і 25 000 гравюраў.




Бібліятэка Залускіх у Варшаве.

Але вернемся ў станіславаўскія часы. Творчае асяроддзе *Collegium Nobilium* і Бібліятэкі Залускіх была выдатнай глебай для далейшага ўдасканалення ведаў а. Папроцкага і заахвоціла яго да пісьменніцкай і выдавецкай дзейнасці. Першым яго дасягненнем стаў прысвечаны графу Юзафу Андрэю Залускаму школьны дапаможнік па геаграфіі «Еўропа з частак Свету першая апісаная», выдадзены ў езуітаў у Варшаве ў 1754 годзе. Ён вытрымаў шмат перавыданняў і ў далейшым выкарыстоўваўся ў сістэме Адукацыйнай камісіі. Гэта быў разлічаны на шырокія масы даведнік, у якім змяшчалася інфармацыя пра кожную дзяржаву Еўропы — яе геаграфічнае становішча, межы, адміністрацыйны падзел, галоўныя гарады, прыродныя ўмовы і карысныя выкапні, рэлігіі, штогадовы прыбытак, форму кіравання, колькасць армій, грошы і г.д.

А. Папроцкі, накіраваны ў 1757 г. у Віленскую акадэмію, працягваў цікавіцца гісторыяй і геаграфіяй. У выніку з Акадэмічнай друкарні выйшлі «Гісторыя прэтэндэнтаў Кароны Англійскай» (1758, 2-е выд. 1778 г.) і «Звесткі пра Курляндскае і Земгальскае княства, сабраныя з розных гісторый» (1759), а з таго моманту, калі айцец стаў прэфектам друкарні, ён ажыццявіў перавыданні шэрагу гістарычных працаў — «Айчынныя звесткі пра Польшчу і ВКЛ» (1753 г., надрукавана ў 2-х частках у 1760 г. і 1763 г.) Казіміра Галоўкі, «Гісторыя Польшчы» (1763 г.) В. Лубенскага і, нарэшце, выдаў уласную кампіляцыю з грувасткай, у стылі таго часу назвай — «Найбольш значныя войны да нараджэння і пасля нараджэння Хрыста да Парыжскага і Губертусбургскага міру 1763 года» (1763 г.), з вялікай дэдыкацыяй «пратэктару і нашаму дабрадзею» Міхалу Аляксандру Сапегу, ваяводу полацкаму і гетману польнаму літоўскаму, з якім аўтар быў у блізкіх зносінах. Абгрунтаванне выбару тэмы ў прадмове гучыць настолькі актуальна, што магло б даводзіцца ў вучэбнай практыцы да нашых вайскоўцаў, — *«...хаця няма нічога больш непрыемнага для народаў, чым войны, тым не менш, вывучэнне іх крайне неабходнае. Веданне гісторыі войнаў дазваляе высвятліць прычыны ўзвышэння і падзення дзяржаваў і, што асабліва важна, шляхі ўмацавання свабоды і незалежнасці Айчыны»*. З вышыні сённяшняга дня такая дальнабачнасць і заклапочанасць нашага суайчынніка вельмі пахвальная, улічваючы тое, што ў Кароне і Княстве не чакалі, што праз 9 гадоў Еўропа, выратаваная ад турак Янам III Сабескім пад Венаю, так подла ўдарыць ім у спіну. (У 1776 г. у Ловічы а. Папроцкі выдаў свой пераклад працы Ф. Рэната «Навука пра рыцарскую справу», да якой

дадаў 2-і том з апісаннем войнаў Рэчы Паспалітай. Кніга, як адзначаў А. Бірала, прасякнутая занепакоенасцю за будучыню Рэчы Паспалітай. Аналізуючы прычыны перамогаў і паражэнняў Польшчы і Літвы ў мінулых войнах, яе аўтар спрабуе даць рэкамендацыі па ўзмацненні баяздольнасці войска.)

Магчымасць кіраўніцтва Акадэмічнай друкарняй (кіраваў да 1763 г.) адкрыла перад а. Папроцкім яшчэ больш шырокія выдавецкія перспектывы. З красавіка 1760 г. ён пачаў выпуск першага ў нашай краіне штотыднёвіка «Кур'ер Літоўскі». Да «Кур'ера...» былі далучаныя «Літаратурныя весткі», «Замежныя весткі» і «Дадатак да віленскіх газет».

Не трэба шмат распавядаць пра тое, якое месца ў жыцці хрысціяніна займае каляндар, пры дапамозе якога «на працягу года Касцёл адкрывае ўсю таямніцу Хрыста, пачынаючы з Уцелаўлення і Нараджэння да самага Унебаўшэсця, да дня Спаслання Духа Святога і да чакання благаслаўлёнай надзеі і прыйсця Пана». У часы а. Папроцкага, калі не было электронных сродкаў масавых камунікацый, каляндар, як частка хрысціянскай штодзённасці, выконваў дадатковую ролю інфарматара па самых розных пытаннях жыцця палітычнага, гаспадарчага і г.д. Айцец Папроцкі зрабіў гэтую прыладу максімальна масавай і інфарматыўнай. Ён працягнуў і пашырыў справу, пачатую ў 30-я гг. XVIII ст. а. езуітам Янам Антоніем Пашакоўскім (1684–1757), які выдаў у Вільні першы каляндар, што адкрыла новую эпоху друку ў ВКЛ і стала адной з найпапулярнейшых формаў тагачаснага чытання.

У 1757 г. у Вільні ў свет выйшаў першы «Палітычны каляндарык» а. Папроцкага, які



*Collegium Nobilium* у Варшаве.

выдаваўся да скасавання ордэну. На старонках каляндарыка ішла рашучая барацьба супраць забабонаў і астралогіі, акрамя гэтага, змяшчаліся тэксты найважнейшых законаў краіны, навуковыя і папулярныя артыкулы па гісторыі, астраноміі, геаграфіі і фізіцы. І калі, — як пісала літоўская даследчыца Рэгіна Якубенас, — першы выдавец а. Пашакоўскі зрэфармаваў каляндар — выкінуў з яго астралогію, надаў яму кірунак гістарычны і палітычны, то а. Папроцкі дапоўніў каляндар, ператварыў яго ў інфармацыйнае выданне, якое папулярызавала навуку.

Скасаванне ордэну застала а. Папроцкага ў Варшаве. Так ён і жыў там, не атрымаўшы кіраўніцтва паезуіцкай друкарняй у Любліне, але затое, як «заслужаны настаўнік», атрымліваў з 1774 г. з касы Адукацыйнай камісіі штогадовую пенсію ў 1 200 злотых, а яшчэ быў прызначаны прэлатам інфлянцкім і ловіцкім канонікам.

Айцец Папроцкі працягваў выдавецкую і пісьменніцкую дзейнасць. Апошняя яго праца сталася годным заканчэннем, можна сказаць бестселерам, — гэта быў пераклад кнігі французскага святара Францішка Нанота «Памылкі Вальтэра» (Ловіч, 1780 г.), якая карысталася вялікім попытам і адразу перавыдавалася ў Нясвіжы і Сандаміры ў 1781 годзе.

Апостальская Сталіца заўважыла сціплую постаць айца Папроцкага, які стаў каля 1776 г. кавалерам аднаго са старэйшых ордэнаў у Еўропе —Залатой Шпоры — ім Святы Айцец узнагароджвае за «значны ўклад у справу пашырэння каталіцкай веры ці іншыя дзеянні дзеля хвалы Касцёла».

Адзіную жывую характарыстыку айца Францішка Папроцкага мы знайшлі ў вялікім шматтомным даследаванні Юзафа Бялінскага, прысвечаным Віленскаму ўніверсітэту: «Быў вельмі прыстойным чалавекам, сумленным і працавітым»...


ЛІТАРАТУРА

1. Мальдзіс А. Папроцкі Францішак //ЭГБ. Т. 5. — Мінск, 1999. — С. 406.
2. Бирало А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. — Мінск, 1971. — С. 117–121.
3. Орден Золотой Шпоры [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www. medals.org.uk/vatican/vatican002.htm.Час доступу: 01.03.2015.
4. Aleksandrowska E. Paprocki Franciszek//PSB. T. XXV/1 zeszyt 104. — Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1980. — S. 181–183.
5. Bieliński J. Uniwersytet wileński. T. III. — Kraków, 1899–1900. — S. 284–285.
6. Grzebień L. Paprocki Franciszek//Encykłopedia katolicka. T. XIV. — Lublin, 2010. — S. 1313–1314.
7. Jakubėnas R. Kalendarz Polityczny Wileński księdza Franciszka Paprockiego//Slavistica Vilnensis, 2012. — Kalbotyra 57 (2). — S. 185–196.
8. Uruski S. Paprocki//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. XIII. — Warszawa, 1916. — S. 205–207.

Ігар Сурмачэўскі

# ЗАЎТРА ЗДАРЫЦЦА ЦУД

Надыходзячы дзень прынясе нешта новае, добрае, таямнічае і незнаёмае. Але абавязкова раднасае! Так было даўным-даўно, шмат гадоў таму. Падарунак таты з далёкага горада, дзе ёсць вялікі музей — Эрмітаж, або кніжкі матулі з мінскіх «Падпісных выданняў», дзе дубовыя паліцы захоўвалі такія жаданыя кнігі з прыгодамі і фантастыкай. Так няшмат было патрэбна для шчаслівай усмешкі і пачуцця асалоды ад дзіцячага «скарбу». А цяпер... Але нават цяпер, калі мне паведамляюць, што раніцай нешта прывязуць, нават невялікую антыкварную дробязь (гузік напалеонаўскага жаўнера са Студзянкі ці пажоўклы фотаздымак роднага Койданава), я з заміраннем сэрца ў прадчуванні чагосьці светлага жыву з ціхай радасцю ў душы — чакаю! Такі добры гэты час чакання, што іншы раз хочацца яго спыніць, каб нагуляцца ў душы гэтым салодкім і шчымлівым пачуццём набліжэння жаданага цуду.

Вось з такім пачуццём светлага чакання больш за дзесяць гадоў я спадзяваўся на сустрэчу з Ружанскай Багародзіцай. На жаль, у саміх Ружанах, якія цяпер завуць «беларускім Версалем», мне так і не пашчасціла пабываць. Ружаны заўсёды ўяўляліся мне «нашай Італіяй», гэткім італьянскім паркам Цівалі ў правінцыі Лацыё на беларускі манер — з рачулкай Аніё, са шматлікімі вадаспадамі, якія шумяць крыштальна-бірузовай вадой, рамантычным развалінамі вілы Андрыяна, нагрэтыя камяні якой засынаюць у стоме сярод прахалодных ценяў сіне-зялёных кошыкаў-шатаў, сплеценых з туі, піній, кіпарысаў і алеандру. Гравюры знакамітага італьянца Джавані Батыста Піранэзі таксама натхнялі мае ўяўленні ў ружанскім кірунку. Празмерна манументальныя і таямніча-змрочныя руіны Рыма і прадмесцяў нагадвалі пра велічную падкову каланады Ружанскага палаца, дзе ля падножжа вялізнага стылабата маленькія людзі занятыя паўсядзённай руцінай цяжкага жыцця. Можа, прычына майго доўгага чакання сустрэчы з Ружанамі крыецца ў тым, каб не разбіць у маіх марах італьянскую мазаіку, складзеную з гравюраў Піранэзі і краявідаў Цівалі?

...Я пазнаёміўся з пробашчам ружанскага Петрапаўлаўскага сабора гадоў дзесяць таму. Неяк пад вечар мне патэлефанаваў рэстаўратар мітрапаліта Філарэта Анатоль Міхайлавіч і сказаў, што прыйдзе да мяне на гарбату з бацюшкам Аляксандрам з Ружанаў. Размова будзе ісці пра рэстаўрацыю Ружанскай Багародзіцы. Праз гадзіну пачуўся званок у дзверы і на парозе я ўбачыў бацюшку, які быццам сышоў з карцінаў Міхаіла Несцерава. Памятаеце, у вядомага рускага жывапісца ёсць палатно «Філосафы» — Сяргей Булгакаў і Павел Фларэнскі? Маладосць, тонкая постаць і сціплая інтэлігентнасць ружанскага бацюшкі нагадалі мне менавіта Фларэнскага.

Пілігрымуючы па беларускіх храмах, я ведаю, што бывае з шэдэўрамі іканапісу, калі іх даглядае нават не мясцовы бацюшка, а нейкі «апякунскі савет» з мясцовых бабуляў ды вопытных жанок, якія «рэстаўратара» знаходзяць хутка, як сякеру пад лаваю, і да «аднаўлення» святыні прыступае мясцовы настаўнік чарчэння ці ўнук адной з парафіянак, які калісьці «добра маляваў у школе». Нядаўна ў такія «ўнікальныя» рукі трапіў абраз «Святы Юры» — выдатны жывапіс XVII ст., напісаны не горш за шэдэўры «ўкраінскага Рафаэля» Іёва Кандзелевіча. Жывапіс быў «па-гаспадарску» ўмацаваны клеем ПВА, а золата тонкага разьбянога ляўкаса аднаўлена, «як мае быць», тлустым слоем бронзавай фарбы на акрылавай аснове. Праз пару гадоў ад рознасці тэмператур і вільгаці жывапіс пачаў адслойвацца пластамі разам з ляўкасам і падняўся па ўсёй іконе горкамі-«ранамі», гатовымі

---

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.



ў любы момант абсыпацца разам з каштоўнымі фарбамі і залатымі разьбянымі кветкамі мясцовага раю XVII стагоддзя...

Бацюшка з Ружанаў, дзякуй Богу, падышоў да рэстаўрацыі цудатворнага абраза з усёю адказнасцю свайго жыццёвага вопыту, нягледзячы на свае маладыя гады. Мне спадабалася яго руплівасць аб майстэрстве рэстаўратара, якому будзе даручана гэта адказная справа. Я адчуў, што бацюшка Аляксандр прыйшоў не проста пазнаёміцца, а разам падумаць пра будучыню цудатворнага абраза Ружанскай Багародзіцы...

Ішоў час. На Вялікдзень ці на Раство Хрыстова мы тэлефанавалі адзін аднаму або зрэдку сустракаліся. Айцец Аляксандр прывозіў мне на рэстаўрацыю, напэўна, каб паглядзець на мае здольнасці, невялікія аналойныя іконы XIX ст., адорваў мяне кнігамі. Напрыклад, падараваў падобную да малітоўніка кнігу архімандрыта Зянона «Гутаркі іканапісца». І яна сапраўды стала для мяне «малітвасловам рэстаўратара», да якога я часта звяртаюся і ашчадна захоўваю. Але «ўзыходжанне» да абраза Ружанскай Багародзіцы было доўгім. Я ведаю па фотаздымках, што да самой іконы, якая ў Петрапаўлаўскім храме месціцца на невялікім драўляным амбоне, вядуць усяго чатыры прыступкі, па якіх узыходзяць і сыходзяць, нібы па трапе карабля. Здаецца, пару хвілін — забег, выказаў пашану цудатворнаму абразу, горача прашаптаў усё, што набалела ў сэрцы, ці проста падзякаваў за шчасце наведвання гэтага свету. Але для мяне гэтыя чатыры прыступкі расцягнуліся... на дзесяцігоддзе.

Нарэшце доўгае чаканне «заўтра» перарваў тэлефонны званок — ікона ў Мінску. Першы раз я ўбачыў Ружанскую Адзігітрыю ў майстэрні Аркадзя Шпунта — з мальберта на мяне падзьмуў свежы вятрыска цёмна-ўльтрамарынавых нябёсаў з бліскавіцамі памаранчавых маланак над светла-яблычнымі пагоркамі мурагу. Эль Грэка, краявід «Таледа ў навальніцу» — гэта было маё першае ўражанне ад убачанага. Я пачаў разглядаць абраз не з лікаў, як звычайна, а знізу ўверх, паддаўшыся каляровым плямам, якія адразу прыцягнулі маю ўвагу: экспрэсіўныя драпіроўкі цёмна-сіняй тунікі Багародзіцы з бела-блакітнымі ўсполахамі, якія сплывалі струменнямі ўніз, нібы навальнічныя аблокі над каралеўскім палацам Алькасар; памаранчавыя змеі на халодна-яблычным падбоі

мафорыя, падобныя на сляды маланак над вільготнымі пагоркамі ракі Тахо; чорна-чырвоная экспрэсія драпіровак і лік дзяўчынкі-падлетка — мяккая ўсмешка, уважлівыя вочы, якія дапытліва глядзелі на мяне, у мяне і скрозь мяне. Няхай даруе мае наіўныя словы Божая Маці, але першае ўражанне заўсёды бывае правільным. Яе лік напісаны на грані канкрэтнага партрэта. І лік Хрыста — як быццам гэта хлапчук-габрэй з Ружанаў, але позірк ... зусім іншы, ён звернуты ў глыб сваёй істоты. Такі адсутны, невідушчы позірк бывае ў момант напружанага ўнутранага засяроджання або, напэўна, у момант глыбокай малітвы, своеасаблівай «нірваны», унутранай экзальтацыі. І фон — велізарныя кветкі дзікай гваздзікі ў пераплящэнні расліннага арнаменту — прыбраны ў золата нябесны райскі сад...

З нірваны сузірання мяне вывеў Аркадзь:

— Знакавы абраз! Такога я яшчэ не бачыў. Многае праходзіла праз мае рукі, але цяпер, скажу табе шчыра, што ні абраз — то песня! Паглядзі на гэтыя складкі тканіны! Тут кожны сантыметр — гэта шэдэўр, выкананы майстрам, і на адным дыханні. Які мадэрнізм!.. Ён тут і побач не стаяў! А лікі!.. Як думаеш: галандцы ці італьянцы?

— Калі меркаваць па экспрэсіі і цёплым каларыце — бліжэй да італьянцаў. Але... На драпіроўках — маньерызм... Такія я бачу ўпершыню. Фон — ад рэнесансу, а лікі — напэўна, так пісалі ў эпоху ранняга Барока...

Стылістыка разьбянага фону Ружанскай Багародзіцы падобная да арнаментаў сярэдзіны XVII стагоддзя. Сцяблы, бутоны, лісце, кветкі — усе яны мудрагеліста ўплецены ў залаты ўзор нябеснага раю. Цікава, што ў арнаментах мясцовых майстроў вельмі распаўсюджаны матыў дзікіх гваздзікоў, які да XX ст. ужо чамусьці ўспрымалі як наш васілёк. Нават у вядомым вершы Максіма Багдановіча пра слуцкія паясы напісана: *«І тчэ, забыўшыся, рука // Заміж пярсідскага вузора // цвяток Радзімы васілька»*. Так нараджаюцца вялікія міфы. Думаю, што персы выкарыстоўвалі ў сваім мастацтве вобразы роднай флоры Міжземнамор’я, прынамсі дзікага гваздзіка, празванага ў народзе дзявочай травой. Дарэчы, ружовая кветка дзікага гваздзіка здаўна лічылася ў Еўропе сімвалам Багародзіцы. Можа таму на разьбяных фонах Багародзічных іконаў такое мноства гваздзікоў?

...Італьянскі маньерызм у Ружанах. Можа, нічога дзіўнага ў гэтым няма, калі зазірнуць у гісторыю.

Ружаны некалькі стагоддзяў былі ва ўладанні шляхецкага роду Тышкевічаў, потым — Брухальскіх, пакуль у 1598 г. гэты маёнтак не выкупіў Леў Сапега. 1602 год адзначыўся ў Ружанах пачаткам будаўніцтва замка-рэзідэнцыі, вартай свайго знакамітага гаспадара, які да таго часу ўжо праславіў сваё імя на дзяржаўнай і ваеннай службе: ён носіць тытул вялікага канцлера ВКЛ, ён распрацаваў збор законаў першай еўрапейскай канстытуцыі — Статут ВКЛ, ён — пераможны ваяр у Лівонскай вайне, мудры дыпламат і тайны дарадца караля. Уладар Ружанаў шукаў лепшых майстроў для сваёй рэзідэнцыі за межамі ВКЛ, найперш — у сталіцы Рэчы Паспалітай. Магчыма, у Кракаве ён пазнаёміўся з італьянскім дойлідам Санці Гучы (1538-1600). Наогул, з канца XV ст., калі каралевай стала энергічная міланская прынцэса Бона Сфорца, італьянскія майстры былі фаварытамі ў творчых справах Рэчы Паспалітай. Выхадзец з Фларэнцыі, Санці Гучы быў прыдворным мастаком і архітэктарам у Стэфана Баторыя, а Леў Сапега ў гэты час якраз займаў пасаду каралеўскага сакратара. Запісваючы за манархам граматы і распараджэнні, сакратар меў магчымасць у асабістай гутарцы атрымаць параду ад каралеўскай асобы наконт сваіх грандыёзных будаўнічых планаў...

Санці Гучы мог сам зрабіць праект Ружанскага палаца ці параіць каго-небудзь са сваіх вучняў для яго ўзвядзення. Таму першапачатковая архітэктура і план Ружанскага палаца былі амаль дакладнай копіяй замка ў Ксенжы Вялікім, пабудаваным у гарах на мяжы з Чэхіяй. Замак быў узведзены ў стылі позняга рэнесансу з элементамі маньерызму ў 1585-1595 гадах. Тут у творчасці Санці Гучы адчувальны ўплыў італьянскага і галандскага мастацтваў — гэта спалучэнне тонкага і вытрыманага дэкору шчыпцоў і карнізаў на фоне суровых высокіх сценаў з геаметрычнай рустыкай. Па кутах замак вянчалі чатыры круглыя абарончыя вежы са спічастымі дахамі. Санці быў не толькі цудоўным архітэктарам, але і скульптарам, аўтарам надмагільных эпітафій з мармуру, зробленых для радавітай шляхты Рэчы Паспалітай. Магчыма, вучань Санці Гучы выразаў з чырвона-карычневага альпійскага мармуру знакамітае надмагілле Паўлу Стэфану Сапегу (1565-1635) і яго тром жонкам у Гальшанскім францішканскім касцёле.

Італьянскі шлях «да ведаў», або дарога «спасціжэння мастацтваў», даўно былі вядомыя беларусам. Гэты шлях у XVI ст. праходзіў не адзін ліцвін праз Брэст на Кракаў, а далей — у Прагу, якая шмат стагоддзяў злучае культуры Заходняй і Усходняй Еўропы. Далей шлях з Прагі ляжаў на захад — у Германію, Францыю, Галандыю або на поўдзень — у Італію. Такім чы-

нам, культура Беларусі ў XVI–XVII стагоддзях актыўна насычалася дасягненнямі еўрапейскіх майстроў, у большай ступені — італьянскіх, што вядома нам па творах Міколы Гусоўскага, Францыска Скарыны, Мікалая Радзівіла Сіроткі. Італьянскія дойліды, скульптары і мастакі таксама папаўнялі скарбніцу нашай культуры — у нас працавалі Ян Марыя Бернардоні, П'етра Пэрці, Джузэпэ Брызіо, Джавані Марыя Галі... Цалкам верагодна, што майстар, які стварыў Ружанскую Багародзіцу, быў знаёмы з тэхнікай італьянскіх жывапісцаў або вучыўся ў іх, а «пражскі шлях» мог прынесці ў Ружаны не толькі стылістыку маньерызму, але і канцэпцыю будучага Сапежынскага збору.

Пасля Льва Сапегі ўладаром Ружанскай рэзідэнцыі стаў Казімір Леў Сапега (1609–1656). Вандруючы па Еўропе, ён быў ганаровым госцем пры шматлікіх каралеўскіх дварах Старога свету. Завязалася знаёмства і сяброўства з еўрапейскімі манархамі. І зноў у Ружанах працуе італьянскі архітэктар — Джавані Батыст Джыслені (1600-1672), прыдворны майстар караля Рэчы Паспалітай, аўтар рэнавацыі Ружанскага палаца і будаўніцтва манастыра ў Бярозе Картузскай. У 1644 г. рэзідэнцыю Сапегаў наведаў кароль Уладзіслаў IV са сваёю шматлікаю світаю пасля пілігрымкі ў Жыровіцкі манастыр. У Ружанах зберагліся арсенал і казна ВКЛ. У 1655 г. падчас вайны з Масковіяй Ружаны сталі таемнаю эдыкулай для святыняў каралевіча Казіміра — сакральнага заступніка ўсёй Літвы. Аб гэтым у палацы нагадвала мармуровая пліта з надпісам антыкваю: DIVO CASIMIRO SACRUM.

У другой палове XVII ст. у валоданне Ружанамі ўступае віцебская лінія Сапегаў — віцебскі ваявода Павел Ян Сапега (1610–1665). Амбіцыйны, помслівы і запальчывы магнат, які, на жаль, выбіў першы камень з магутнага падмурку велічнага роду і паклаў пачатак яго згасанню праз 200 гадоў. Радзівілы — вось хто быў ворагам Сапегаў. Канфлікты, войны і нават суперніцтва за карону вялікага князя гэтых магнацкіх родаў прывялі ў заняпад не толькі іх уладанні, але і ўсю краіну.

У 1700 г. Казімір Павел Сапега пацярпеў паражэнне ў бітве пад Алькенікамі ад «антысапежынскай» канфедэрацыі, у якую ўваходзілі Радзівілы, Вішнявецкія, Агінскія і Пацы. Улада Сапегаў у ВКЛ была падарваная. Сам Казімір Павел пабег з поля бою, але яго сын — спадчыннік Ружанскай рэзідэнцыі, канюшы літоўскі і генерал літоўскай артылерыі Міхаіл Сапега — да канца быў са сваёй арміяй. Міхаіл быў захоплены ў палон, і яго адвялі ў скляпенні бэрнардынскага кляштара. Палонны быў жорстка забіты раз'юшанай шляхтай. У парыве помсты былы валадар ВКЛ Казімір Павел нават заклікаў да сябе ў саюзнікі шведаў, але перамога ўсходняга суседа Рэчы Паспалітай у Паўночнай вайне паставіла крыж на яго планах.

Працяглая барацьба Сапегаў за першынство ў ВКЛ прывяла Петрапаўлаўскі храм у Ружанах да заняпаду. Дарэчы, у Вялікім Княстве Літоўскім клопат (фундацыя) пра будаўніцтва і падтрыманне храма ў належным стане ляжаў не толькі на пробашчы, але ў большай ступені на ўладары земляў, дзе знаходзілася святыня. Таму пры аздабленні касцёлаў і цэркваў была распаўсюджана вялікая ахвярнасць шляхетнага люду. Але ў Ружанах на пачатку XVIII ст. ваенныя справы і прага ўлады адсунулі духоўнае на другі план. Толькі ў 1762 г. Крысціна Разалія (1724–1772), унучка Казіміра Яна Сапегі, выдаткавала сродкі на рэстаўрацыю разбуранай святыні. У 1779 г. храм быў зноў асвечаны і ў ім аднавіліся службы. Па іншых крыніцах, асвячэнне храма адбылося 8 снежня 1781 г. віцэ-правінцыялам усіх базыліянскіх кляштараў Рускай правінцыі протаархімандрытам Парфірам Скарбекам Важынскім па благаслаўленні Ясана Смагаржэўскага, Мітрапаліта Кіеўскага. Больш глыбокая рэнавацыя знешняй архітэктуры адбылася пад кіраўніцтвам саксонскага архітэктара Яна Самуэля Бекера ў 1784–1788 гадах. Пры гэтым план і ўнутранае аздабленне былі, па магчымасці, захаваны: у першую чаргу — шэсць алтароў. Цэнтральны — з вялікім палатном, дзе Збаўца дае ключы ад раю апосталу Пятру, і бакавыя: святога Антонія, Найсвяцейшай Багародзіцы, Божага Нараджэння, святога Базыля Вялікага і святога Язафата Кунцэвіча. Тут цікавае ўзгадванне алтара ў гонар Багародзіцы (Ружанскай), што сведчыць пра шанаванне старадаўняй іконы мясцовымі вернікамі. У 1834 г. ордэн базыліянаў на тэрыторыі Расійскай імперыі ліквідуецца, а пасля скасавання Уніі ў 1839 г. храм быў перададзены праваслаўным. У 1840 г. Мітрапаліт Літоўскі і Віленскі Іосіф Сямашка нанава асвяціў алтар. У 1834 г., у час ліквідацыі ордэну базыліянаў, быў зроблены вопіс маёмасці, дзе сярод іншага на іконе Багародзіцы мелася сярэбраная шата. Як і калі яна была страчаная, цяжка сказаць. На самой іконе захаваліся шматлікія сляды мацавання вялікай наборнай шаты — дзіркі ад каваных цвікоў. Яны перарывістай лініяй ідуць па контуры малюнка Багародзіцы з Дзіцяткам. Такія ж «раны» ад мацавання ёсць і на мафорыі Багародзіцы, на белым хітоне і на жоўта-вохрыстым гіматыі Хрыста. Па традыцыі,

абраз «апраналі» ў срэбраныя шаты не адразу — гэта магло быць у XVIII ст. як знак падзякі за малітоўнае суцяшэнне або выратаванне, атрыманае ад Багародзіцы. Успомнім Крысціну Розу Масальскую, якая ўнесла ахвяру на аднаўленне храма: ці не яна зрабіла падарунак іконе ў выглядзе каштоўнай «вопраткі»?

За стагоддзі каваныя цвікі так «ураслі» ў ляўкас, што было прынята рашэнне пакінуць іх на месцы.

Пра гісторыю Ружанскай Адзігітрыі можна знайсці некалькі радкоў ва ўспамінах Брэсцкага біскупа Іосіфа ў кнізе «Праваслаўе на Брэсцка-Гродзенскай зямлі ў канцы XIX стагоддзя». «Имеется в церкви особенно местно чтимая чудотворная большая древняя икона Богородицы Частоховской, помещающаяся в большом благо украшенном киоте у левой стены храма». «Частахоўская» — такая простанародная назва цудатворнага абраза з Яснагорскага кляштара ў Польшчы — часта сустракаецца ў назвах спісаў Чанстахоўскай іконы, асабліва ў Заходняй Беларусі. На першы погляд — гэта арфаграфічная памылка, але для беларускага вуха няма нічога дзіўнага ў слове «Частахоўская». Яно знаёмае сваёю цеплынёю з дзяцінства, калі ўсе гулялі ў «хованкі», што значыць «часта хавацца». На розум адразу прыходзіць малітва: «Тваёй абароне аддаёмся, Святая Багародзіца...». Як часта мы малітоўна са слязьмі просім «схавацца пад Тваёй абаронай, Заступніца наша...».

Цудатворныя іконы Багародзіцы XVII – XVIII стст. на Беларусі — у асноўным спісы з абразоў, якія знаходзіліся на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай — Вастрабрамская, Чанстахоўская, Пачаеўская, Юравіцкая ... Гэта цяпер мы пілігрымуем да іх праз візы, межы, мытныя дэкларацыі, розныя валюты, моўны бар'ер, а на той час была адна дзяржава, і віленская Вострая Брама, і Яснагорскі кляштар спакон веку былі больш роднымі мясцоваму люду, у адрозненне, напрыклад, ад Троіца-Сергіевай Лаўры пад Масквою ці Пакроўскага манастыра ў Суздалі. Таму нядзіва, што цудатворны абраз Ружанскай Адзігітрыі сталі называць у XVIII – XIX стст. даўно знаёмым словам «Частахоўская», а на самой Яснай Гары з-за Яе цёмнага ліку і таямнічасці — Чорная Мадонна. Але трэба адзначыць асаблівасці іканаграфіі Чанстахоўскай і Ружанскай Адзігітрый — на першай Дзіцятка левай рукой прыціскае да сябе Евангелле, а на Ружанскай Збаўца проста паклаў сваю левую руку на калена пад жоўта-вохрыстым гіматыем.

Часта сустракаемся з Аркадзем Шпунтам — думкі такога вопытнага рэстаўратара важныя для мяне: увесь абраз пісаў, хутчэй за ўсё, адзін майстар. Напэўна, гэта нейкае адступленне ад працы ў тагачасных гільдзіях мастакоў, дзе праца над іконаю была падзеленая на этапы: кожны майстар пісаў «сваё». На іконе Ружанскай Багародзіцы і твары, і адзенне напісаныя адною рукою — свабодным імпульсіўным мазком, які кантрасна падкрэслівае дакладную мадэліроўку дэталяў. Гэта добра відаць пад вялікаю «цэйсаўскаю» лупаю — праз павелічэнне адразу бачная цёплая імпрыматура — агульны ніжні слой пад жывапісам лікаў. Гэта — чырвоная вохра; на ёй — умрыста-зялёныя лесіроўкі ў ценях. У светлых месцах вібрыруюць мазкі цёпла-ружовага колеру і жоўтай вохры з бялiламі. Мяккая, ледзь улоўная ўсмешка Багародзіцы хавае, мне здаецца, большую таямніцу, чым леанардаўская Джаконда. Але... мяне не пакідае пытанне: колькі ж гадоў было Божай Маці, калі яна нарадзіла Дзіцятка Езуса? Майстар Ружанскай Багародзіцы намаляваў Яе вельмі юнай. Да сустрэчы з Ружанскай Адзігітрыяй я не задаваўся такім зямным пытаннем. У тэкстах Евангелля не пазначана, які ўзрост мела Марыя, калі нарадзіла Збаўцу, але па апокрыфах і паданнях можна зразумець, што Ёй было ўсяго 15 гадоў...

Магія Яе погляду зачароўвае. Не ведаю, як гэта растлумачыць... гэта нібы даць нырца ў застылае імгненне часу, якое тут жа становіцца вечнасцю і неабсяжным сусветам быцця — таго, што было, ёсць і заўсёды будзе.

Блік каля Яе зрэнкі ... Блік таго старадаўняга вакна, каля якога маляваў гэтую Святыню майстар. Здаецца — гэта трымціць прамень святла з нябёсаў XVII стагоддзя. Разглядаю блік праз павелічэнне — у белым святле нехта нахіліўся да крыжападобнага пераплёту і, абапёршыся на падваконне, разглядае пейзаж за вакном... Згадаў палатно Яна Ван Эйка «Партрэт сужэнцаў Арнальфіні», напісанае майстрам у 1434 годзе. Там, у глыбіні інтэр'еру на сцяне — выпуклае люстэрка, у якім адбіліся і маладая пара ў анфас, і сам мастак каля адчыненых дзвярэй, і акно, а за ім нават горад пад нябёсамі. Мне так хочацца ўгледзецца праз гэты маленькі белы прамень люстэрка свет, які быў вакол ружанскага мастака. У Яна Ван Эйка ў кожнай дэталі яго палатна загадкі, і люстэрка ў інтэр'еры зусім не выпадковае — выпуклае люстэрка — *«speculum sine macula»* (люстэрка без заганы) — сведчыць пра беззаганнасць Багародзіцы.

Вочы ў Дзіцяткі Езуса зусім іншыя — з прыпухлымі чырвонымі векамі, вільготнымі, быццам ад слёз. Майстар надаў

Збаўцу відавочна семіцкія рысы: вялікія цёмныя вочы навыкаце, цёмна-рудыя кудзеркі валасоў, вялікі нос. Мае сябры, якія ўпершыню бачылі абраз у маёй майстэрні, адразу звярталі на гэта ўвагу і шэптам каментавалі: «Ён жа на араба падобны!»

За прататыпам для Збаўцы майстру не прыйшлося ісці на Зямлю абяцаную — габрэі жылі ў Ружанах з пачатку XVII ст., займаючы суцэльны асобны квартал. Ружаны з сярэдзіны XVII ст. нават займелі сваю сусветную сумную славу: на другі дзень Рош-ха-Шана (Новы год па-габрэйскім календары) габрэі ўсяго свету ўспамінаюць у сваіх малітвах двух ружанскіх пакутнікаў. Гэта здарылася якраз перад стварэннем іконы, у 1657 г., калі напярэдадні габрэйскай Пасхі быў знойдзены труп хрысціянскага дзіцяці. Як ён апынуўся ў габрэйскім квартале, уцямна ніхто не мог растлумачыць. Пагалоска абвінавaціла габрэяў у рытуальным забойстве, наспяваў крывавы пагром. Але ўладар Ружанаў, Павел Ян Сапега, змог утрымаць сітуацыю ў сваіх руках, тым больш што літвакі (габрэі ВКЛ) карысталіся ўсімі правамі, прапісанымі ў Статуце ВКЛ для ліцвінаў. Аднак спакой быў нядоўгім: у 1659 г. з-за невялікай сваркі месцічы зноў узяліся за зброю. Прыйшлося знайсці ахвяру — двух кіраўнікоў габрэйскай абшчыны, якіх тут жа пакаралі смерцю. Майстар, які працаваў у Ружанах або, можа, нават у Кракаве, у паўсядзённым жыцці мог штодня сустракацца з габрэямі ў карчме ці калі наведваў краўца, напрыклад, у тым жа кракаўскім Казімежы. Можа, цень ружанскай трагедыі 1659 г. нейкім чынам адбілася ў позірку Хрыста, калі ўсе вакол крычалі: «Укрыжуй Яго, укрыжуй!..» А цяпер, як адкупленне сваёй віны, стагоддзямі цалуюць Яму рукі і ногі... На жаль, ад такога «шанавання» пакутуе сам цудатворны абраз — у першую чаргу рукі Багародзіцы і ножкі Езуса, якія так зацалавалі за многія гады, што адкрыўся нават белы ляўкас. Прычым, на працягу XIX ст. жывапіс аднаўлялі не адзін раз. Пры выдаленні глухога цёмна-карычневага запісу, зробленага алейнымі фарбамі, адкрыўся падрыхтоўчы малюнак левай рукі Багародзіцы, хвацка зроблены аўтарам празрыстай шэра-блакітнай тэмперай прама па жоўта-вохрыстай першай «роскрышы» хітона Хрыста. Малюнак зроблены без правак, у адну лінію. Такі ж хвацкі малюнак бачны пад павелічэннем па ўсім хітоне. Правая благаслаўляючая рука Дзіцяткі Езуса засталася некранутаю толькі дзякуючы памеру іконы — рука Хрыста была недасягальная для пацалункаў. Ад левай рукі засталіся толькі два светла-ружовыя сляды зваротнага боку далоні — як кажуць рэстаўратары: і дзякуй Богу, ёсць за што «зачапіцца». Для аднаўлення страчаных рук Багародзіцы і ножак Хрыста даводзіцца зноў і зноў вывучаць іконы XVII – XVIII стст. у музейным аддзеле старажытнага беларускага мастацтва. Часам такое вывучэнне прыводзіць да маленькіх адкрыццяў. Напрыклад, знайшоўся аналаг чырвона-чорных змеепадобных драпіровак мафорыя і складанага каляровага спалучэння памаранчавага і яблычнага, дарэчы, таксама на падбоі мафорыя — гэта абраз «Замілаванне» 1659 г. з с.Мястковічы каля Пінска.

...Адпраўляюся ў інтэрнэт-падарожжа, падключыўшы да росшуку ўсе сусветныя музеі, і аналаг лікаў Ружанскай Адзігітрыі знаходжу ў венецыянскім жывапісе XV–XVI стагоддзяў. Гэта шэдэўры Антанэла дэ Месіны, Чыма дэ Канельяна, Антанэла дэ Саліба.

Гісторыя і стылістыка іконы, а таксама знойдзеныя аналагі паступова падводзяць мяне да вызначэння часу стварэння Ружанскай Адзігітрыі — гэта апошняя чвэрць XVII стагоддзя. Абраз створаны майстрам, які дасканала валодаў тэхнікай жывапісу. Паступова, сантыметр за сантыметрам разглядаючы ікону пры моцным павелічэнні, знаходжу, што ўбранне напісанае ў тэхніцы складаных лесіровак — накладання аднаго колеру на другі, а святло падкрэслена вібруючым мазком па форме драпіровак. Часам, у момант, калі ўжо да знічак нагледзішся каляровых плямаў, за «цейсаўскім» шклом бачу жывапіс, як у аб'ёме 3D. Вось, напрыклад, мафорый Багародзіцы — першым бачны пяшчотны акварэльна-празрысты слой «ангельскай» чырвонай, на яго наплывае другі — шчыльны «ван-дзік», над імі — у ценях, цёмны, глыбокі, халодны карычнева-фіялетавы, а па-над усім лунае змеепадобны росчырк яркай кінавары. Такі своеасаблівы «слаёны пірог» з тонаў і колеру. Талент у XVII ст. быў падмацаваны вельмі добрым веданнем жывапіснага рамяства, чаго, на жаль, бракуе сучаснаму мастацтву.

Праца па рэстаўрацыі цудатворнага абраза завершана, і ён зноў заняў сваё месца ў ружанскім Петрапаўлаўскім саборы на варце выратавання людскіх душаў. А колькі разоў ласка Ружанскай Адзігітрыі сыходзіла на людзей, якія маліліся Ёй, мабыць, ведае толькі Яна сама... Яна пайшла ад мяне тварыць новыя цуды, а я ў светлым чаканні трываю да наступнай сустрэчы з Ёю...



# Васіль Зуёнак

**Васіль Зуёнак —** паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1935 г. у в. Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака Белдзяржуніверсітэта (1959). Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Маладосць», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1954 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980) і інш. Піша таксама для дзяцей. Жыве ў Мінску.

* * *

Асенні дзень — гняце, як успаміны,
Як сумныя вяртанні дзён былых,
Даўно памерлых, але ўсё жывых,
Як свечка над самотнай дамавінай.

На сонца хмары сунуцца, як здані, —
Не адвядзеш смяротнаю рукой.
Мінулае ўстае сцяной такой
І перад будучым шукае апраўдання.

* * *

Божа, у гэтым свеце пакутным,
У гэтым хаосе сусветнай ілжы
Перад Табою не дай быць адсутным —
Божа, паверыць дапамажы...

* * *

Вецер ірве лістоту,
Яблыню хіліць ніц,
Неба нясе самоту
Хмарамі без навальніц.

Верасня цвет верасовы
Мёдна вясну нагадаў,
Лета замкнуў на засовы —
Службу кастрычніку здаў.

Лён вытрасае кастрыцу,
Кужалю сняцца шаўкі:
Восень лагодзіць скарыцца —
З ёй ваяваць не з рукі.

Бо як не сёння, дык заўтра
Песня нахлыне з нябёс —
Вырай той песні аўтар,
Вырай, мой спраўджаны лёс.

Вырай, што й сам не знае
Ўсіх незямных высноў:
Ці ён навек адлятае,
Ці, можа, вернецца зноў?

Што ж, браце мой кастрычнік,
Я аб адным папрашу:
На ветры, для восені звычным,
Не ледзяні душу.
А далягляд заімглёны
Не назаўжды — і якраз
Будзе святлом блаславёны
Восені мудры час!..

* * *

Сонечны сон быў — палетак даспелы:
Колас да коласа шэпча хвалу
Плоднай зямлі, а на ўзмежку прысела
Сейбіта стома — з прыспешкай жніву.

З ёю наўпобач і я прымасціўся:
Можа, ашчадзіцца й мне хоць скрылёк
Сейбіцкай долі, — і згодна свяціўся
Кропелькай неба мой брат-васілёк.

Сонечны сон быў... Палетак даспелы...
Ранкам прачнуўся, — а дзе ж ураджай?
Ціха зярнятак сям'я адляцела, —
Дзе яны ўзыдуць? — Не знаю, на жаль...

* * *

Я часта непакоюся ў журбе:
А раптам вершы знікнуць, і паэзію
Камп'ютар хціва ў сеціве зграбе
І з музаю пачне гуляць гарэзліва, —

Як з матыльком павук... І што тады
Маёй душы, самотнай беспрытульніцы?
Як дагукацца, адшукаць сляды
Абранцаў мовы роднай — слоў матулiных?

Як з полем жніўным мне пагаварыць,
Як пашаптацца з лугавымі зёлкамі,
Як неба ад зямлі абараніць,
Спавітай змрочнай ядзернай вясёлкаю?

І як адтуль, з міжзор'я, хоць бы раз,
Вярнуўшыся, паслухаць: вольным голасам
Гамонячы, ідуць, як і было пры нас,
І Караткевіч, і Купала з Коласам...

Давай жа, будучы камп'ютар-графаман,
Згаджайся на дамову непарушную:
Жывое слова не заводзь у зман, —
Каго яно парадуе, бяздушнае...

## СПАКУШЭННЕ

Калі няспраўджаных памкненняў міражы
Цяжкою скрухаю на сэрца ападалі,
Калі здавалася: ці ёсць патрэба жыць,
Жабруючыся з вечнасцю гадамі,
Калі пятлёй дарога — як сіло,
Зімою далю снегірову — душыць,
А д'яблава высвечвае табло,
Што ты ідзеш па моры, як па сушы,
Калі спакуснік ставіў лёс на кон,
Калі ўжо ты амаль яму паверыў,
Гатовы ў храме жыць, дзе ні вакон
І на сямі замках да выйсця дзверы... —

Тады зямля адкрыла мне сакрэт, —
Прабачце, калі вам ён без патрэбы:
Я ў песню адыходзіў, як у свет,
Затоены далёкім зорным небам...

## СОСНЫ

Гамоняць з ветрам сосны,
Майго юнацтва сёстры,
Аб днях, у вечнасць зніклых,
Калі я быў вялікі,
Стаяў між іх, сасёнак,
Што выраслі з пялёнак,
Ды ў кволым пакаленні
Былі мне па калені...
А сёння перад імі
Хто я — пры іх уздыме?!
Бор неба падпірае,
Паглядам вымярае
Мяне: няўжо той самы? —
І з ветрам вытрасае
Мне юныя ўспаміны
І, пэўна, прыпасае
Сасну на дамавіну...

# Аксана Данільчык



**Аксана Данільчык** — паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) і кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

* * *

Дзень, калі ты сціснуўся да памераў мураша,
непазнавальна змяніў
прапорцыі наваколля.

Кветкі сталі такія высокія,
трава стала такая высокая,
і яблыня, быццам званіца,
і яблыкі, быццам званы,
і падаюць яны
так небяспечна...

Ну што глядзіш з-пад лістка
сваімі яснымі вачыма,
разумееш цяпер,
што значыць быць маленькім?

* * *

Травінка гайдаецца, як метраном,
палудневым ветрам.
Час ідзе.

### Aequinoctium

Сухая
прамерзлая зямля
не чакала
ніякай падступнасці,
але пасыпаў снег,
і пустыя гнёзды пад снегам
зрабіліся заўважнымі,
як твары,
што раптам
выступілі
з натоўпу
і набылі
выразнасць,

а вароны
сядзелі на галінах
чорнымі ягадамі,
і дрэва здалося
вялізным кустом чарніцаў.

Я назаву
гэты дзень
нулёвым мерыдыянам,
я забудуся на дату,
каб час не рухаўся
ні назад,
ні наперад,
каб холад усіх яго таямніцаў
заставаўся са мною
скразным лейтматывам

ад восені да вясны,
ад раўнадзенства
да раўнадзенства,
ад першага снегу
і да апошняга
чарадзейства.

### Асэнсаванне

І неяк так пра дождж і цемру,
Так проста, як пра мае быць,
Сказаць без гэтага надрыву,
Без гэтай крыўды на ўвесь свет...

Разрэзаць дзень, як ліст паперы,
Разрэзаць лёс на мноства частак.
Ёсць сэнс па-за адлегласцю і часам,
Ты з ім заўсёды існуеш сам-насам.

І, засынаючы, пачуць, як звонку
Крычаць, дамоў вяртаючыся, птушкі,
Як пахне дажджавым вясковым пахам
Зямля, што не сабралася ў дарогу.

І хоць ужо не выправіць нічога,
Ізноў плыве з-за далягляду ростань:
Цягнік спыніўся, мабыць, назаўсёды,
Але імкнецца ў далеч наваколле.

Бо вера ў што? Якім радком і гукам
Свядомасць лекаваць ад руйнавання,
Калі ізноў пасля дажджу і цемры
Світанак змые лускавіны хмараў?

І ты расплюшчыш выцвілыя вочы,
Каб іх напоўніць сінім-сінім ветрам,
Не думаючы, па якіх шыротах
Пайшлі ў нябыт астужаныя вёсны.

* * *

У шэры сад, дзе яблыкі прамерзлі
да цёмных вопратак сваіх зярняткаў,
дзе пуцявінамі салодкіх сокаў
вандруюць памутнелыя ляндрынкі,
не далятае цёплае дыханне
ад коміна, і ў познюю гадзіну
ён сам не дыхае, трымаючы ў глыбінях,
душу, каб не патрапіла на холад.

І шэрань на яго здубелых пальцах —
прыкмета непазбежнай летаргіі.

Ёсць шэры сад адмененага часу,
раскладзенага па часінах года,
па страціўшых дакладнасць успамінах,
дзе болей адчуванняў, чым малюнкаў.
На спалым лісці ля яго карэнняў —
сляды непланаваных інтэрвенцый
распавядаюць пра цікаўнасць свету
і пра агульнасць існага пачатку.

Заслона неба не прапусціць сонца,
замкне прастору разам з цішынёю,
і ты адчуеш гэтае адзінства
калі да твару дакранецца шэрань.

* * *

Срэбных гусей чарада плыла
Праз нябесны акіян, як статак рыбінаў.
Блішчала, асветленае сонцам,
Крылле чаіцы, што рухалася ім насустрач.

Перакрыжоўваліся шляхі птушак,
І самалёты ляцелі ў аэрапорт,
Вяртаючы вышыню.

Па абедзе на сонечным небе выступіў
Правы бок месяца.
І многія недаверлівыя душы
Пасля адлігі, тумаоў і дажджоў
Глядзелі ўверх, чакаючы знакаў
Хуткага вызвалення.

І тады прыляцеў вецер з Готланда.

Ён распырскваў па вільготных дахах
Маленькія сонцы,
Падхопліваў і падкідаў іх угору.
І кожнае сонца, як нота чэлесты,
Адскоквала ад зямлі са звонам
І знікала.

А вецер развярнуў стрэлку гадзінніка,
Зрабіў развітальны круг,
І гэтаксама раптоўна
Прапаў.



Генадзь Бураўкін у сваёй мінскай кватэры.

# ПАВУЦІНКА, ЯКАЯ НЕ ПАРВЕЦЦА

Унізе павольна плыве Дзвіна, паўнаводная, як у паводку, падварушваючы аблокі, што ў вадзе цяжэюць і нагадваюць касмылі намоклай воўны, якія яшчэ больш замаруджваюць рачную плынь. А ўверсе ўздымае свае белыя ветразі-званіцы стройная Сафія, і здаецца — падзьме вецер і цэлы ўскраек берага адарвецца ад зямлі і паплыве ці то ў далёкае мора, ці то ў блізкае неба.

Мы з Генадзем Бураўкіным стаім каля Барысавага каменя і любуемся наддзвінскімі краявідамі. Праз гадзіну — выступленне ў Полацкім універсітэце, пазней — у Цэнтры народных рамёстваў, дзе нас чакае Валянціна Восіпаўна Крук, добрая душа і энергічная кіраўніца мясцовай суполкі Таварыства беларускай мовы. Пад яе апекай у Полацку ледзь не штотыдзень ладзяцца розныя культурніцкія імпрэзы.

Генадзь Мікалаевіч успамінае сваё полацкае юнацтва, яго вочы за шкельцамі акуляраў прыкметна маладзеюць. Я слухаю настальгічны маналог і мне хочацца праілюстраваць яго памятнымі са студэнцкіх часоў бураўкінскімі радкамі, але стрымліваюся, разумеючы, што паэт прыехаў на радзіму, якая яго даўнавата не бачыла і не чула.

Але перашкодзіць сумоўю Бураўкіна з радзімай знайшлося каму і без мяне — да каменя падышла гаманкая грамада турыстаў, і экскурсаводка завучана зашчабятала пра «оплот русского православия». Генадзь Мікалаевіч быў пасля бальніцы, я асцерагаўся за ягонае сэрца, і мы адышлі ўбок ад турыстаў, якія, не даслухаўшы экскурсаводку, распачалі каля каменя-помніка ажыўленую фотасесію.

Відавочна пазмрачнелы Генадзь Мікалаевіч змяніў тэму. Трохі пагаварыўшы пра сучасную літаратуру (сачыў за літпрацэсам як мала хто), пра яе праблемы і дасягненні, ён раптам запытаўся: «Міхась, а чаму ваша літаратурнае пакаленне не выступае больш рашуча ў абарону беларускай мовы? Нешта я не бачу ў перыёдыцы вашых яркіх публіцыстычных артыкулаў супраць паўсюднай русіфікацыі».

Прызнацца, я быў збянтэжаны такім папрокам. Не ўпаўнаважаны гаварыць за цэлае пакаленне, я пачаў блытана апраўдвацца, расказаў, як змагаўся поплеч з такімі ж маладымі бацькамі за беларускую школу ў мінскім мікраараёне «Малінаўка», прыгадаў раманы Алеся Наварыча «Літоўскі воўк» і «Нічые» Андрэя Федарэнкі, дзе нацыянальная праблематыка — на першым месцы. І дадаў вядомае выслоўе

Цыпрыяна Норвіда: «Не меч і шчыт бароняць мову, а дасканалы твор».

Бураўкін спакойна выслухаў маю эмацыйную тыраду і неяк асабліва пранікліва зірнуў мне ў вочы: «Дасканалы твор, вядома ж, патрэбны, але не менш патрэбныя шчыт і меч».

Пасля выступленняў Генадзь Мікалаевіч папрасіў звазіць яго на бацькаву магілу. На зарослых вясковых могілках элегічна шапацеў у сасновай іглiцы лёгкі дожджык, і я пакінуў сына пабыць з бацькам сам-насам.

Нанач мы паехалі да паэтавай сястры Рымы Мікалаеўны, якая жыла на гарадской ускраіне ў вялікай, на два ганкі, хаце. Там нас ужо чакалі, а найбольш зачакалася сына дзевяноставасьмігадовая маці — Феадосія Ягораўна. Распытвала пра мінскіх унукаў, пра нявестку Юлю, а потым, не стамляючыся, чытала нам на памяць байкі Кандрата Крапівы і цэлыя раздзелы з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Пра сваё доўгажыхарства гаварыла з гумарам: «Гэта ж Гена напісаў пра мяне песню: „*Ты мне родная самая // па душы, па крыві. // Ты жыві, мая мама, // доўга-доўга жыві*“. От я і жыву».

Тады ж я пабачыў Генадзя Мікалаевіча па-сапраўднаму шчаслівым. Так, ён увесь вечар быў узрушана-радасным ад сустрэчы з мамай, з роднымі, але настаў момант, калі ён увесь аж засвяціўся ад радаснай весткі.

А быў гэта час, калі знакамітую бураўкінскую «Калыханку» знялі з эфіра Беларускага тэлебачання. Каму і па якой прычыне прыйшла ў галаву такая «ідэя» — пра гэта мы ніколі не даведаемся. З высокай будыніны на вуліцы Макаёнка ў Мінску даходзілі няпэўныя чуткі, што тэлегледачы пратэстуюць, тысячамі шлюць лісты,



З маці Феадосіяй Ягораўнай. Полацк, 2009 г.

але наўрад ці ў высокіх кабінетах прыслухаюцца да тых пратэстаў.

І вось мы сядзім у познім застоллі, слухаем то чарговую цікавую гісторыю ад сына, то байку ад маці, ажно тут — званок па мабільніку. Генадзь Мікалаевіч слухае чыйсьці ўзбуджаны голас, і аблічча ягонае раптам пачынае праменіцца шчасцем. Такім я паэта бачыў першы і апошні раз. Даслухаўшы і паклаўшы тэлефон, Бураўкін наліў усім віна і шчасліва абвёў усіх вачыма: «Званіў Васіль Раінчык. Толькі што прынята рашэнне вярнуць нашу „Калыханку“ на экран».

Пад радасныя воклічы я зірнуў на гадзіннік — было пятнаццаць хвілінаў апоўначы. Дзе і кім у такі час магло прымацца рашэнне «памілаваць» улюбёную беларускімі дзеткамі «Калыханку» — можна толькі здагадавацца. Пэўным фактам застаецца тое, што вернутай «Калыханцы» ўзрадаваліся не толькі мы, саўдзельнікі паэтавага шчасця, але і мільёны дзетак, іх бацькоў, дзядоў і бабуль.

І яшчэ адна гісторыя ўспомнілася, ужо больш асабістая, пра якую я мала каму расказваў. Доўгі час не ведаў пра яе і Генадзь Бураўкін, хоць адбылася яна дзякуючы менавіта яму, дакладней, ягонай кнізе, якая разам са мной «паслужыла» ў савецкім войску.

У тое войска праводзілі, як у космас — са скліканнем шматлікай радні, з застоллем, што не саступала вясельнаму, з танцамі ля ваенкамата (згадайма аднайменны бураўкінскі верш) і матчыным галашэннем, якое заглушалася абавязковым «Развітаннем славянкі». На доўгія два гады («сямсот трыццаць дзён і начэй» — як пісалі ў салдацкіх альбомах) чалавек проста знікаў, а лісты ад яго маглі прыходзіць адкуль-небудзь з накрайсветнай Камчаткі ці, крый Божа, з чарговай «гарачай кропкі», дзе Крэмль дапільноўваў нейкія свае таемныя інтарэсы.

Саюзнае Міністэрства абароны ў армейскім катле старанна перамешвала розныя нацыі, каб у выніку атрымаць спецыфічнае варыва пад назвай «савецкі на-



Акадэмік Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін і мастак Вячка Целеш.
Вільня, 2013 г.

род». Варыва варыцца не жадала, войска скаланалі міжнацыянальныя канфлікты, якім не маглі даць рады ні маршалы-міністры, ні нампаліты ўсіх узроўняў. Але ўсё роўна эстонец ехаў служыць на Байкал, украінец — у Казахстан, грузін — у Забайкалле, а беларус — у Закарпацце, каб падалей ад радзімы.

Радзіму трэба было браць з сабой — у аб'ёме, паменшаным да памераў салдацкага заплечніка. Я ўзяў аднатомнік Генадзя Бураўкіна — «Вершы пяці кніг» з басалыгаўскімі busламі на вокладцы. «*Мы ідзём па сцяжынках, на якія не вернемся... // Павуцінка — уверсе, павуцінка — у верасе...*» Перачытаеш спадцішка на палітзанятках, паспяваеш шэптам, мерзнучы ў настылай вежы баявой машыны на занятках па агнявой, — і на душы палёгка. Кніга пасялілася ў маім пляскатым дэсантным заплечніку, у маёй прыложкавай тумбачцы, яна стаяла са мной у караўле на дваццаціградусным марозе, пеклавалася ў спёку падчас трыццацікіламетровых пешых пераходаў на палігон і назад, нават скакала разам са мной з парашутам! Я звыкся з ёю як з нечым неад'емным, я заглядаў у яе часцей, чым у вайсковы статут.

Але аднойчы «мая радзіма пад белымі буслінымі крыламі» прапала. Я апытаў ці не ўвесь батальён, абшукаў усе капцёркі, сушылкі і ленпакоі — безвынікова. І хоць на той час амаль увесь змест я ўжо ведаў на памяць, мяне не пакідала пачуццё вялікай страты. Чатыры дзяўчыны лісты пісаць перасталі — я так не перажываў, як па сваёй згубе. А бураўкінскія вершы, што часам успаміналіся, яшчэ больш вярэдзілі душу: «*Ты ж мая адзіная, // ты ж мая ніўная, // ты ж мая радзінная, // ты ж мая жніўная, // ты ж мая вясельная, // ты ж мая вясенняя, // ты ж мая нязнаная, // ты ж мая нязваная, // да грудзей прытуленая — // матуліна...*»

Маці прыслала мне, як выратавальны круг, «Быў. Ёсць. Буду» Караткевіча. Там таксама была радзіма, але навюткая кніга ўспрымалася як салдацік-салага, які службы не зведаў. А тая, ранейшая, ужо прайшла са мною і агонь, і ваду...

Я знайшоў свайго Бураўкіна толькі перад самым дэмбелем — у брыгаднай бібліятэцы, куды на другім годзе службы наведваўся часцей. Адзіная на ўвесь шматтысячны кнігазбор беларускамоўная кніга стаяла паміж тамамі Івана Франка і Шаўчэнкі (наша брыгада база-



Генадзь Бураўкін на прэзентацыі кнігі Васіля Быкава
«Гарадзенскі архіў». Гродна, 2012 г.

валася на Львоўшчыне, у старым базыліянскім кляштары, і бібліятэка на добрую трацiну была ўкамплектаваная украінскай класікай). Хто яе туды прынёс і здаў — высвятляць не мела сэнсу. Сваю знаходку я радасна прад'явіў бібліятэкарцы, упэўнены, што яна дазволіць яе забраць. Але кніга ўжо была ўнесеная ў бібліятэчны фонд, на ёй стаяла пячатка нашай вайсковай часткі...

Моцна паскандаліў я тады з бібліятэкаркай і сваю маёмасць сабе ўсё ж вярнуў. А бібліятэкарка аказалася жонкай нампаліта батальёна, які і так пазірала... паглядаў на мяне скоса, паколькі мусіў штотыдзень праглядаць «ЛіМы», акуратна дасыланыя мне школьным настаўнікам. Газета была на малазразумелай таварышу капітану мове, і ён неаднойчы выказваў мне сваю незадаволенасць...

Вечарам таго ж дня мяне выклікалі да камбата, які, асабліва не ўваходзячы ў курс справы, абвясціў: дзесяць сутак гаўпвахты! Потым на мяне спіхнулі чужыя грахі і дабавілі яшчэ, потым яшчэ... На расквітнелыя травеньскія каштаны прыйшлося мне глядзець праз калючы дрот паўзверх бетоннай агароджы.

Выйшаў я з гаўпвахты, калі лета ўжо ўвабралася ў сілу. Мой прызыў амаль цалкам звольніўся, засталіся адны злосныя парушальнікі, з якімі я яшчэ доўга капаў траншэі, фарбаваў парашутную вышку, бяліў велізарныя кляштарныя падвалы — пад асабістым наглядам таварыша капітана. Дэмабілізаваўся ледзь не апошнім.




Вокладка аднатомніка Г. Бураўкіна «Вершы пяці кніг». Мастак Міхась Басалыга.

Доўгі час я неяк не адважваўся расказаць гэтую гісторыю Генадзю Бураўкіну, хоць разам мы ездзілі не толькі ў Полацак, а гады два працавалі на адным калідоры ў старым Доме друку: ён — намеснікам у «Вожыку», я — намеснікам у «Бярозцы». Пасадамі нібыта зраўняліся (як пажартаваў аднойчы сам Бураўкін), але ён для мяне заўсёды быў вышэй за ўсе свае высокія пасады. Ён быў паэтам, чыя кніга на два паднявольныя гады стала маёй Беларуссю на чужыне. Пра такія лёсы сваіх кніг аўтары ўсё ж павінны ведаць.

Аднойчы падчас сустрэчы на ягонай кватэры Генадзь Бураўкін раптам загаварыў пра кнігі, прывезеныя ім з Нью-Ёрка, паказваў аўтограф Наталлі Арсенневай на «бінімаўскім» томе «Між берагамі»... Бібліяфільская тэма і развязала мне нарэшце язык. Генадзь Мікалаевіч уважліва выслухаў маю вайсковую гісторыю. Было відно, што яна яго ўразіла, ён хацеў даведацца падрабязнасці. Нават пра чатырох сяброўак удакладніў — ці хоць адна дачакалася? А пасля дастаў з кутняй паліцы тыя самыя «Вершы пяці кніг» і надпісаў: «*Дарагому Міхасю Скоблу, пакутніку за гэтую кніжку — з удзячнасцю за вернасць і надзеяй на доўгае шчырае сяброўства. Генадзь Бураўкін. 19.X.2006 г.* ».

Падзякаваўшы за падарунак, я ўсё ж запярэчыў: «Ну які з мяне пакутнік? Падумаеш — месяц гаўпвахты».

«Не проста месяц. Быў месяц май», — прыгадаў Генадзь Мікалаевіч самую паэтычную ў савецкім кінематографе назву фільма.

Нейкая злучальная нітачка завязалася тады паміж намі. «*Павуцінка — уверсе, павуцінка — у верасе...*» І не рвецца тая нітка-павуцінка да гэтай пары.

І, відаць, ужо ніколі не парвецца.

*Міхась СКОБЛА*
*Фотаздымкі аўтара.*

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

# ЗБАЛЕЛАЯ ЛЮБОЎ

## *Гутарка Ірыны Жарнасек з Антонам Бубалам*



Антон Бубала нарадзіўся ў в. Гісялёва (замашанскай парафіі) былога Асвейскага раёна 27 кастрычніка 1942 года.

Немаўлём прайшоў праз пекла Саласпілскага канцлагера. Скончыў дзве вышэйшыя педагагічныя вучэльні: у Даўгаўпілсе (фізмат) і ў Камсамольску-на-Амуры (геафак). Служыў у войску. Настаўнічаў у школах Латвіі, у Амурску і ў Верхнядзвінскім раёне. Некаторы час працаваў у райкаме партыі, узначальваў аддзел культуры райвыканкама, супрацоўнічаў з рэдакцыяй раённай газеты «Дзвінская праўда».

Актыўны грамадскі дзяяч, краязнаўца, укладальнік кнігі «Памяць. Верхнядзвінскі раён». Шмат працуе з моладдзю, пачынальнік турыстычна-краязнаўчага руху на Верхнядзвіншчыне. Цяпер — навуковы супрацоўнік раённага краязнаўчага музея.

Друкавацца пачаў у 1972 годзе. Найбольш поўна творчасць аўтара (лірыка, гумар, тэксты песняў, пераклады, сцэнічныя творы) змешчаная ў зборніках «Бяроза над затокай» (2012) і «Паехалі!» (2012).

Жыве ў Верхнядзвінску.

*— Спадар Антон, шмат разоў я чула Вашу гісторыю. А цяпер прашу расказаць яе для чытачоў «Нашай веры» — гісторыю Вашага прыходу ў наш складаны свет...*

— Напэўна, маецца на ўвазе мой «другі прыход»... Перад сваёй смерцю мама прызналася, што я мог не нарадзіцца наогул. Ішла вайна, а хворы пасля фінскай вайны бацька заставаўся дома. Ды і наогул на Асвейшчыне мабілізацыю правесці не паспелі, вяскоўцы жылі амаль так, як калісьці да калгасаў. Не дзіва, што нараджаліся і дзеці. Але калі набрала сілы партызаншчына і над чалавечымі жыццямі пачала згушчацца небяспека, крык нованароджанага немаўляткі ўспрымаўся хутчэй як недарэчнасць.

Не ведаю дэталяў, але матуля на нейкі асабліва трывожны час засталася з двума дзецьмі і свякрухай адна і надумала пазбавіцца ад новай цяжарнасці. Нейкая шаптуха параіла ёй выпіць шмат гарэлкі ды паляжаць на гарачай печы. Маці так і зрабіла. Але я ўпарта заставаўся ў яе ўлонні. Пра свой грэх маці расказала на споведзі, папрасіла парады. Святар насварыўся на яе і сказаў, што яна не мае права на тое жыццё, якое дадзена Богам. Маўляў, можа ў ім — тваё шчасце на старасці. Я нарадзіўся перад крывавай зімой 1943-га.

Калі пайшлі карнікі на нашыя вёскі, усе мужчыны падаліся ў лясы, пакінуўшы жанчын, дзяцей і старых у хатах. Ніхто яшчэ не ведаў, што звяр'ё знішчае ўсіх. Але лютаўскім ранкам праз нашу вёску Гісялёва прабег абгарэлы волат-нямко з Ладэлева. Без слоў стала зразумела, што адтуль набліжаецца смерць. Людзі кінуліся бальшаком на ўсход, у Асвею і далей, у вялікія лясы. Матуля засталася адна з трыма дзецьмі. У роспачы яна схавалася ў гумне пры дарозе і маліла-прасіла, каб смерць забіла адразу не адну яе, а разам з «птушанятамі», каб яны не цярпелі пакутаў без яе.

Выратавала нас мая хросная, маміна родная сястра. Яе муж быў забіты ў савецкім лагеры яшчэ ў 38-м. Яна пакінула сваіх чацвярых дзяцей блізка каля Асвеі, у Канчанах, і вярнулася на кані за намі. Па дарозе набралася яшчэ з дзясятак гэткіх жа бежанцаў, сані ператварыліся ў «Ноеў каўчэг». Праз бамбёжкі, смерць і прыгоды дабраліся мы да заснежаных лясоў, дзе карнікі палявалі на людзей не толькі на зямлі, але і з самалётаў.

Падчас аднаго налёту маці выхапіла мяне з попелу пагаслага вогнішча, дзе я спаў, захутаны ў вялікую хустку, і, упохапкі схаваўшы мяне пад выварацень, кінулася з малымі ў гушчар, у балота. Калі самалёты адляцелі, лес напоўніўся стогнамі тых, хто не паспеў дабегчы да схованкі. Шмат было і забітых. Ужо сцямнела, снег быў саследаваны, і маці доўга шукала той выварацень, пад якім яна мяне пакінула. Калі яе адчайныя малітвы ўзляцелі да нябёсаў, над цёмнай вяршалінай адной елкі раптам замігцела невыразнае святло. Яно і паказала, дзе ў схованцы мірна пасопваў я. Такім было маё другое нараджэнне.

Увогуле ў маім жыцці было нямала момантаў, калі я мог загінуць: нейкая чорная сіла кідала мяне то ў вогнішча, то ў палонку, змушала садзіцца самалёт, які яшчэ не ўзяў курс. Тая сіла рэзала мяне лязом, свістала куляй каля скроні пад кедрам на сопцы, бухала мінамі на лясным пажа-

ры — усяго не пералічыш. Але я жывы дасюль і толькі дзіўлюся, за што берагуць мяне так нябёсы. Ці то матчыны малітвы мелі такую сілу, ці мне яшчэ трэба рыхтавацца да нейкай вялікай ахвяры, каб апраўдаць гэта высокае апякунства...

*— Ведаю, што праз усё жыццё Вы пранеслі вялікую любоў да сваёй маці. Вядома, гэта ўласціва кожнаму нармальнаму чалавеку. І ўсё ж ваша пачуццё ўспрымаецца неяк па-асабліваму...*

— Для мяне вобраз маёй маці зліваецца з вобразам Маці Божай. Можа, гэтак і няможна, але цеплыня, якую Яна выпраменьвае сваім сэрцам, вера ў абарончую моц Яе адданае любові перадалася мне генетычна ад маёй матулі, бо яна ўсё сваё жыццё малілася да Божай Маці, верыла Ёй, тулілася да Яе сама і нас прытуляла да Яе. *«Pod Twoją obronę...»* было матулінай штодзённай малітвай. У маме быў галоўны сэнс і смак майго жыцця, і я думаў нават, што яны згаснуць зусім, калі маю зямную матулю забярэ Бог.

*— Не згаслі?*

— Паціху адтаяў, бо калі прыязджаю ў апусцелую вёску на Тройцу ды на Дзяды, у бацькоўскай хаце ўжо ад дзвярэй святліцы мяне сустракае цёплы і спагадлівы позірк маёй матулі з партрэта на сцяне, а ў самой гэтай святліцы на дзіва чыста й светла, быццам тут яшчэ жывуць руплівыя гаспадары, хоць на ганак хаты на працягу месяцаў не ступае нага чалавека. Я вітаюся з матуляй, размаўляю з ёй, і мне цёпла і спакойна. Гэткі ж, толькі больш велічны спакой, пануе і на могілках. Асабліва светла на іх на Тройцу. Пакуль прыедзе ксёндз Часлаў з Расіцы, мы з сястрой перапяем шмат песняў, якія любіла матуля: «Найсвентша Матка, до Цебе бегнемы...», і «Пуйдзь, пуйдзь, мэ сэрцэ...», і «Здровась Марыя, Багародзіца...», і іншыя, надта жалобныя, і, вядома ж, «Сэрдэчна Матко...». Адзін-два галасы яшчэ дапамагаюць нам хаця б на прыпевах, а слухачоў шмат: і аднавяскоўцы, і іх дзеці-ўнукі-праўнукі, і крыжы, камяні, і курганы-магілы нашых вельмі далёкіх продкаў адразу за агароджай кладзішча. Сосны, здаецца, таксама прыціхаюць у велічным смутку, а светлыя бярозкі, наадварот, варушаць усё навокал сваім лёгкім жывым трапятаннем, ды яшчэ птушкі ў вершалінах сваім ціўканнем славяць жыццё.

Я выбраў ужо сабе месца ў гэтым прытулку вечнасці — хачу легчы побач з мамаю...

*— У страшным 1943-м шлях Ваш разам з маці з роднай Асвейшчыны пралёг у жудасны Саласпілс. Вы былі адным з наймалодшых ягоных вязняў. Ці ўспамінала Ваша маці потым Саласпілс? Ці расказвала пра тое, як вы туды трапілі?*

— Фашысты схапілі нас, калі ўжо, здавалася, прыйшло ратаванне. Партызаны, да якіх прыбіліся ўцекачы з агню, паведамілі, што карнікі ўжо сышлі. Людзі атабарыліся на ўзлеску, зладзілі нейкія буданы. Нехта шчаслівейшы прывёў і схуднелую ўшчэнт кароўку. Тая і раўнула, пачуўшы рух на бальшаку, па якім адыходзілі ў свае логава апошнія карнікі. І хутка яны ўжо пагналі нас, змарнелых, па іншым, Друйскім, шляху — на Палішчына-Шкяўнэ, на горад Зілупэ, дзе недабітых гаротнікаў чакаў вагон-цялятнік. Некалькі дзён вязняў сартавалі ў дзвінскай турме, а потым нас сустрэў Саласпілс з усімі ягонымі жахоццямі. Мама казала, што яшчэ па дарозе на станцыях мясцовыя жанчыны прапаноўвалі аддаць ім дзяцей: маўляў, выжывеш сама — дык і іх знойдзеш жывымі. Але маці нават не магла падумаць пра такое!

У лагеры гітлераўцы найперш «разабраліся» са старымі. Было апытанне, каб высветліць, хто яшчэ здольны працаваць. Гарбаценькая Стэфка з Каралёва, пра якую мама нам расказвала, так шчыра казала немцам, што ўмее і прасці, і вязаць, і шмат што іншае рабіць. «Ну, вось і гут, вось і добра, будзеш гэтым і ў багадзельні займацца», — рагатнуў карнік. А назаўтра па хусцінах, фартухах ды жакетках, зваленых у кучу паблізу крэматорыя, людзі зразумелі, якую «багадзельню» вызначылі фашысты для старых. Стэфку нам было шкада асабліва таму, што і нашу маму звалі Стэфцяй. А тая гарбаценькая была дужа добрая, толькі ногі яе дрэнна слухаліся. У лазню каралёўскія хлопцы насілі яе на сабе. Стэфка плакала, а яны смяяліся. І праз снягі, і на цяжкім шляху пад аўтаматамі людзі не пакідалі Стэфкі...

Смерць увесь час хадзіла побач. Наш Лёдзік раптам захварэў на дызентэрыю. Маці, як магла, хавала гэта, але ўсё ж наглядчыкі западозрылі няладнае, і на шыі майго брацікa мама ўбачыла асаблівую бірку. Яе сэрца адчула небяспеку, і таму яна зранку, перад абходам, калі гітлераўцы пачыналі скідваць у вазок з нараў памерлых і хворых дзетак, адзела тую бірку на шыйку нябожчыка, у якога такой біркі не было.

Расказвала мама і пра нейкага немца, які часта браў мяне на рукі, гушкаў і ставіў у прыклад іншым: «Ніхт плакайт! Пуф-пуф! Пачэму Бубала ніхт плакайт?!». Кожны такі свой успамін мама заканчвала словамі: «Дзеткі мае, толькі Матка Боска ўберагла нас. Ці маглі б мы самі выжыць у тым пекле? Я так шчыра за вас малілася — і ўдзень, і ўночы, і штохвіліны! Малюся і плачу, малюся і плачу! Я верыла, што Яна бачыць нашы пакуты, чуе мяне». І мы верылі сваёй матулі, а таксама Той, Найсвяцейшай... *Pod twoją obronę...*

*— Ведаю, што, стаўшы дарослым, Вы паехалі ў Саласпілс. Якія пачуцці выклікала ў былога вязня гэтае месца?*



Маці Стэфанія.

— Я быў у Саласпілсе на экскурсіі. Стылізаваныя камяні — сімвалы пакутаў, пустая плошча і нават ярусы нараў не кранулі майго сэрца болем. Тады я быў малады, але і цяпер не імкнуся ў тую мясціну, дзе мама старалася ўратаваць нас ад смерці. Бо мы ведалі Саласпілс знутры, ведалі пра яго значна больш, чым расказвае статыстыка. Наша дзіцячая свядомасць была працятая балючым веданнем лагерных жахаў, прыкладамі людской ахвярнасці, надзеі і мужнасці, пра якія нам расказвала маці. Тыя аповеды доўгія гады замянялі нам вечаровыя казкі. Мы туліліся да матулі пад яе шэпт, слёзы і пацалункі. Яна не пужала нас, яна расказвала, як гэта было, як тварыўся цуд выратавання пад крылом Боскай апекі. Памаліўшыся, мы клаліся спаць з лёгкім сэрцам, з пачуццём бясконцай падзякі сваёй Абаронцы, у вобразе якой зліваліся вобразы дзвюх Матуляў — нашай і агульначалавечай.

*— Спадар Антон! Штогод мы абавязкова сустракаемся з Вамі ў Росіцы — летам і зімою. Гэтае месца — таксама Ваша балючая любоў?*

— Расіца (я ўпарта называю гэтае мястэчка ягонаю спрадвечнаю назваю) —неад'емная частка жыцця старажытнай залеснай Пятроўшчыны, маленькага нашага найцудоўнага раю, спапялёнага фашыстамі разам з усімі яго жыхарамі. У мясцовых людзей былі выхаваныя Касцёлам найлепшыя духоўныя якасці. Нездарма пра гэта пісаў ксёндз Жыскар, апавядаючы пра замашанскую парафію. Замашанскі касцёл у Савейках да апошняга падтрымліваў людскую веру ў Бога, але змагары за «светлую будучыню» з Замашанскай воласці разбурылі святыню, ксёндз Філіп загінуў у сталінскім лагеры. Тады вернікі пайшлі шукаць аховы пад крыжы Расіцы. Нашыя ж вяскоўцы і раней мелі «шматвектарныя» сувязі з касцёламі, хадзілі на фэсты не толькі ў Савейкі, але і ў Сар'ю (калі там былі святары), і ў Расіцу — паўсюль было 10 кіламетраў.

У Расіцы вянчаліся мае бацькі, дзяды і прадзеды з бабулямі і прабабулямі, там вянчалася і малілася мая цётухна Ганна, якую я так ніколі і не ўбачыў, як і не ўбачыў яе ахрышчанага ў Расіцы сыночка, майго стрыечнага брацікa Васілька, — яны згарэлі ў часе карнай акцыі ў Ліпаўках.

Праз Расіцу разбітым Друйскім трактам мы ішлі да чыгункі, ад'язджаючы ў вялікі свет ужо падлёткамі-падлеткамі, і бачылі, як гэтыя трагічныя сцены цярпелі здзекі калгаснага ладу. Хіба ж магло не балець сэрца, калі гусеніцамі трактараў ганьбілі тыя камяні, да якіх вуснамі прыкладаліся нашыя продкі, нашы матулі?

*— Спадар Антон, а цяпер задам Вам балючае пытанне: Вы ведаеце латышскую мову, нават мне дапамагалі, калі я працавала над кнігай «Будзь воля Твая», а значыць маеце сімпатыю да нашых суседзяў латышоў, з якімі звязана столькі балючага — і Саласпілс, і ўдзел латышскай паліцыі ў карнай акцыі ў Росіцы і ў Асвеі. Як Вы размежавалі і як прымірылі гэта ўсё ў сабе?*

— Латвійская мяжа была ад нас за вярсту, за рэчкай Акціцай. З лагера нас выкупіў латыш Карліс Ліепіньш, пасля вызваленчага фронту мы апынуліся сам-насам на хутары ў Кокнэсэ — пад мурамі славутага замка Кукейнос. Мы — гэта матуля, трое нас, малых, і прыкаваны да ложка, паранены на фронце бацька. Бацькі не пагадзіліся на прапанову застацца ў Латвіі, каб дапамагаць новым уладам будаваць і там сацыялістычны рай. Усе нашы пасляваенныя аднавяскоўцы «перад стартам» у новае жыццё дабіраліся як мага бліжэй да мяжы і аселі хто на год, хто на два на латышскіх хутарах — у знаёмых, радні або добрых ці проста прагматычных гаспадароў, якім не лішнія былі працоўныя рукі, бо іх сыны падаліся айзсаргамі ў лясы, дзе яны меркавалі ажыццявіць свае ўтапічныя планы ў змаганні з савецкім ладам, які ўжо фармаваў эшалоны для «падарожжа» ў Сібір. Мы ведалі гэтых хлопцаў — «зялёных», як іх называлі. Яны прыходзілі ў нашу лясную вёску, дзе нашы мужчыны імкнуліся пераканаць іх у марнасці абранага імі шляху барацьбы з вялікай сілай; у нашай хаце паміраў міліцыянер, паранены падчас аблавы на айзсаргаў на пачатку 1950-х у нашым лесе, дзе латышскія хлопцы ладавалі свае бункеры.

Да нас даносіўся плач жанок з латышскага Ворзава, калі туды прыйшлі калгасы, каб забраць свіней і авечак, малочных бурых кароваў ды жарабкоў з брычкамі, на якіх хутаранцы ездзілі па святах у касцёл у Асуна або ў колішнюю беларускую Пустыню. Мы хлопцамі хадзілі ў тое Ворзава на вячоркі. У нас былі прыгожыя і працавітыя дзяўчаты, і зусім не было хлопцаў жаніхоўскага ўзросту. Дык нашы дзяўчаты песцілі мару аб стварэнні сям'і, а нас, драбязу, бралі з сабой у якасці аховы, на выпадак сустрэчы з

ваўкамі. Калі ў нас запахлі смалою сцены новых хатаў, вячоркі перамясціліся ў нашыя вёскі. З Латвіі мы прывозілі скрыпачоў, цымбалістаў ды гарманістаў, пакуль свае самавукі не адолелі вальс «Когда б имел златые горы...». Дарэчы, яшчэ доўга пасля вайны на нашых вячорках гралі і танчылі «Судмаліняс», а ў латышскім Ворзаве ці Апалях — польку ды «Суботу».

Пятроўшчына ляжала на Полацка-Рэжыцкім тракце, і амаль штоноч у хатах на падлозе, лаўках і на печах начавалі падарожныя, якія ішлі ў двух напрамках: з Асвейшчыны і Расоніі — на захад, дзе можна было зарабіць, пажабраваць ці наняцца на працу, а дадому ішлі з торбачкамі гароху ці жыта на першыя засеўкі. Калі б не латышы, пасля вайны нам давялося б яшчэ цяжэй.

Дарэчы, у нашым памежжы беларуска-латышская повязь вельмі даўняя і глыбокая. На Асвейшчыне яшчэ да рэвалюцыі на неўрадлівых разлогах у басейне Вужыцы было дазволена пасяліцца латышам, якія стварылі тут цэлыя калоніі хутароў, назваўшы іх «падарамі», што ў перакладзе азначае «зрабі»! Хутка тыя няўдобіцы ператварыліся ў дагледжаныя ўзорныя гаспадаркі, куды нашыя мужчыны ездзілі паглядзець на сенакасілкі ды малацілкі, выменяць кароўку на пародзістую цёлку і гэтак далей. А жанкі ды дзяўчаты абменьваліся ўзорамі для ткацтва, прыносілі насенне ці флянцы нябачаных раней кветак. Гэтаксама было і пасля вайны ў стасунках з суседзямі-латгаламі. А жыхары «падараў» былі пад корань знішчаныя сталінізмам яшчэ да вайны...

Мне падаецца, што нават у спевах, у самой іх мелодыцы, чуецца ў латгалаў ды прыдзвінскіх беларусаў нешта глыбока-роднае. У нашых прымежных вёсках не раз ладзіліся сумесныя святкаванні Ліго-Купалля — напэўна, ў нашых генах закадзіраваныя вельмі даўнія балцкія карані.

Дадам яшчэ, што частка нашых дзяцей бегала ў латышскую школу, што нашыя жанкі ўмелі маліцца па-латышску, што ў Дзвінскай (Даўгаўпілскай) педвучэльні я вывучыў латышскую мову (магу і раман прачытаць, і вершык скласці), што пад Ноўгарадам служыў у адным узводзе з латышамі, што не ў школе, а ў ВНУ і ў войску я навучыўся ў латышоў свядомай зацікаўленасці гісторыяй, прыроднай і духоўнай спадчынай сваёй Радзімы, што з латышскімі сябрамі мы ладзілі турысцкія злёты і байдарачныя паходы па Асуніцы ды Сар'янцы, што дагэтуль паміж нашым раёнам і суседнімі краямі Латвіі існуюць цесныя сувязі на розных узроўнях, якія ніяк не назавеш сяброўствам з прымусу, бо яно сапраўднае.

*— Гэты год мы, каталікі, перажываем як Год Міласэрнасці. Наколькі Вы верыце ў міласэрнасць нашага Нябеснага Айца?*

— Я веру ў Яго міласэрнасць перадусім. На схіле жыцця я каюся перад Ім за свой грэх адрачэння, хай знешняга, неўсвядомленага, але яно мела месца.

Згадаю, што ў нашай педвучэльні дзейнічаў клуб ваяўнічых бязбожнікаў, у які запісвалі ўсіх студэнтаў. Паспрабуй не запішыся — і па навуковым камунізме будзеш мець праблемы. Ды і да праблемаў не дайшло б: заўважыў нехта пад каўнерыкам на шыі адной студэнткі крыжык — і тая без усялякіх абмеркаванняў вылецела з трэцяга курса. Не скажу, што мяне вабілі розныя акцыі клуба. Ды і не ўсіх бралі, напрыклад, у морг, каб сфатаграфаваць, што ў нябожчыка пасля смерці яшчэ расце барада. Не падабалася мне і задыхацца ў натоўпе ў стараверскай царкве падчас велікоднай усяночнай, бо калі ўсе падалі на калені, мы, пасланыя сюды «ваяўнічыя», стаялі слупамі ў розных кутах на ўсеагульны агляд. Праўда, вернікам было



Антон Бубала з унукам Міланам.

не да нас: прасветленыя вочы «атручаных рэлігійным опіумам» бачылі нешта зусім іншае, незямное, калісьці знаёмае і мне. У тыя хвіліны мне было няёмка і сорамна.

У Даўгаўпілсе дзейнічалі касцёлы, але я нават ад сябе глыбока хаваў патаемнае жаданне зайсці ў адзін з іх, каб укленчыць перад алтаром. Баяўся, а пасля амаль заглушыў тое жаданне, як імкнецца чалавек заглушыць у сваім сэрцы боль па страчаным каханні. У такім стане я быў і тады, калі прыехаў дадому і мой падрослы малодшы брат на просьбу мамы павёз нас на Прачыстую ў Пустыню, дзе маліліся не па-латышску, а па-польску. Туды мы бегалі за 16 кіламетраў на гэты фэст яшчэ малымі. Латышскія касцёлы ратавалі нас ад бязвер'я. Мацяркі ды бабулі вадзілі нас на Спаса ў Асуна, на Ганну — у Берасні, на Тройцу — у Палішчына. Гэтыя святыні, як і Пустыня, акружалі нас паўколам-каронаю, і да кожнай было 16 кіламетраў — басанож і лёгенька туды, а пасля Нешпараў яшчэ лягчэй — дадому.

Дык вось, калі зазванілі званы і ўвесь люд хлынуў у касцёл на Імшу, брат не зрэагаваў на

знак, які падала нам матуля, і не ўвайшоў у касцёл. «З пачуцця салідарнасці» застаўся і я — два слупы на цвінтары. Я не памятаю дакладна, што было далей, памятаю толькі адчуванне няёмкасці і сораму, як некалі ў стараверскай царкве на Грыве ў Дзвінску.

Мы тады сапсавалі маме свята. Раней пасля Імшы яна была супакоеная, шчаслівая, гаманіла з намі і лашчыла нас. А тады ціха папракнула брата, змахнула слязіну ды яшчэ, едучы, малілася — відаць, за нас. Пазней яна не раз успамінала той дзень, але — вось дзіва! — папракала толькі брата, а пра мяне казала, што я стаяў Імшу. Дасюль не ведаю, мо, і праўда, я пасля ўціснуўся ў касцёл, а можа, матуля даравала мне мой грэх, бо пасля да астатніх яе дзён, пераадолеўшы сваю сарамлівасць, я заўсёды маліўся разам з ёю: на пахаваннях католікаў спяваў разам з матуляй і сястрыцай па-польску, на праваслаўных — па-руску, а то і так, і гэтак уперамешку, бо ў нас даўно прыжылася такая звычка. Спявалі мы і маліліся за сталом у роднай хаце на Каляды і Вялікдзень, на могілках — на Радаўніцу ды Тройцу. Спявалі за пасвянцонкай у бальнічнай палаце на Вялікдзень, калі неба адлічвала апошнія гадзіны матулінага жыцця — яна спявала разам з намі і памерла на трэці дзень найвялікшага свята. Я і цяпер спяваю і малюся ў касцёле, спадзеючыся на міласэрнасць Усявышняга за свае грахі.

Што тычыцца міласэрнасці да бліжняга, то тут я ці няправільна яе разумею, ці грашу. Я пакуль што не магу любіць ворага, як свайго бліжняга. Бо калі каранаваныя забойцы нішчаць носьбітаў дабрыні і святла, забіваюць чыстыя надзеі і памкненні — мне цяжка ім дараваць, лепш вазьму грэх нелюбові на сваю душу. Але ёсць адно, што мяне супакойвае і ў чым Пан Бог, спадзяюся, мяне разумее і прабачыць: я лічу, што свядомыя забойцы — гэта не проста ворагі. Гэта — не людзі ў Боскім разуменні. Гэтыя двуногія стварэнні — дзеці д'ябла, але маюць такое ж, як і ў людзей, аблічча. Гэта — звычайная маскіроўка. Таму запаведзь любові іх не датычыць.

*— Вы, Антон Францавіч, самі пішаце вершы. Ці дапамагае літаратура чалавеку заставацца чалавекам?*

— Пішу, і не толькі вершы. Мне прыносяць і дасылаюць свае вершаваныя творы і сталыя людзі, і зусім маладыя. Якія б слабенькія ні былі тыя опусы, я падтрымліваю іх аўтараў. Чалавек, які піша, тым больш паэтычныя творы, мае каштоўную якасць — ён думае над жыццём, асэнсоўвае яго праявы, сваё месца на зямлі і ў сусвеце, шукае гармонію. Яшчэ больш я люблю чытаць. Жартую, што кожны вечар кладуся ў ложак з якой-небудзь паэткаю. Чытаю, параўноўваю, дзіўлюся, захапляюся ці сумую. Адчуваю сябе маленькай часцінкай гэтага высокага брацтва. Найвышэйшай жа вяршыняй беларускай паэзіі лічу «Ксты» светлай памяці Рыгора Барадуліна. Калі б людзі дараслі да такой глыбіні разумення Боскага ў сусвеце, чалавецтва стала б шчаслівейшым.

*— Перакананая, што Вы зрабілі вельмі добрую, патрэбную справу, папрацаваўшы над кнігай «Памяць» па Верхнядзвінскім раёне. Змястоўная яна атрымалася. І якая ж балючая! Дзякуй, спадар Антон, за гэтую высакародную працу!*

— Я не гісторык. Справу гэтую даручыў мне райкам партыі. Напэўна, з-за маёй няўмеласці ў гістарычным аналізе кніга набыла сентыментальнае адценне, ад чаго мяне перасцерагалі ў рэдакцыі. Дзе там не маё, а дзе маё (хаця часам і не пад маім імем) — не так цяжка распазнаць. Шчыра папрацаваў над спісамі загінулых. Пісаў на сотні адрасоў, ездзіў, распытваў... Некаторыя афіцыйныя асобы падганялі мяне, нават пакрыквалі, але для мяне справа памяці стала святой, а таму я спакойна адказваў: «Не здам рукапіс на рэдагаванне, пакуль не зразумею, што ніводнае імя загінулых мне ўжо не ўваскрасіць». Прызнаюся, кніга «Памяць» для мяне і цяпер — быццам малітоўнік. Я яе перапакутаваў, пераплакаў, з кожнага партрэта ў ёй глядзіць на мяне родны мне чалавек. Дагэтуль памятаю не прапушчаныя рэдактарамі радкі з пісьмаў, якія апяклі маё сэрца. Па-за вокладкамі кнігі засталося нямала і непажаданых для кагосьці таямніцаў. Але для іх ёсць яшчэ прастора — блізіцца да завяршэння праца па стварэнні раённага музея, дзе я цяпер працую.

*— Плёну Вам у гэтай высакароднай працы! Ужо цяпер абяцаю наведаць ваш музей адной з першых. Скажыце, спадар Антон, што трэба для таго, каб мы, беларусы, не чарсцвелі душамі?*

— Мы пажынаем цяпер плады бязвер'я і калгаснага прыкарытнага жыцця з яго прымітыўнымі барацьбітоўскімі лозунгамі. Не паспелі ачомацца пасля СССРаўскай жыткі, як нахлынулі хвалі не менш прымітыўнай маскультуры. Маральныя нормы ў многіх людзей апусціліся амаль да беззваротна гнілога стану. Трэба лячыць хворае грамадства. Вельмі шмат робяць для гэтага рэлігійныя згуртаванні і моладзевыя суполкі, энергічныя творцы. Але вельмі ўжо саслабелы наш грунт традыцыйнай маралі і светапогляду, бо сучасныя бабулі і нават прабабулі ўжо прайшлі грунтоўную апрацоўку фальшывай ідэалогіяй статкавага калектывізму, дзе былі задушаныя духоўнасць і свабода асобы. Гэтыя бабулі ў пераважнай большасці самі не жагнаюцца за сталом, не кленчаць і не спяваюць «Вяночак» пасля вячэры, не вучаць сваіх унукаў і праўнукаў жагнацца і нават казаць «дабранач». Застаецца толькі спадзявацца, што ў высокіх дзяржаўных установах уз-

мацнее разуменне неабходнасці духоўнага выхавання людзей у самым шырокім сэнсе гэтага слова. Толькі тады можна будзе ўсёй грамадой суладна ўздымацца да Боскіх запаветаў, якія проста, зразумела і ясна паказваюць шлях да сапраўды шчаслівага жыцця на зямлі і да яго працягу ў вечнасці.

*— Дзякуй, спадар Антон, за цікавую гутарку! Да новых сустрэчаў: у Дрысе, у Расіцы, усюды, дзе дазволіць сустрэцца Пан Бог. Цяпер жа дадзім слова вершам...*

# Антон Бубала

**КЛЕНЧЫ ПАД КРЫЖАМ!**

Шэрань туманная. Трохі віднее.
Зорка за зоркай растайваюць. Днее.
Ціха. Ні руху. Спяць яшчэ людзі.
Не разгадаць анікому, што будзе
Заўтра і сёння, і цераз хвіліну.

Вечнасць габлюе ўжо дамавіну
Кожнаму з нас. Ды нікому не скажа,
Хто, не прачнуўшыся, ў свежую ляжа.

Рай на зямлі сабе нехта плануе,
Марыць, працуе, а вечнасць зруйнуе.

Марна на лёс наракаць ды злавацца.
Кожнаму дадзены шанц ратавацца
І не дрыжэць прад фартунаю хіжай:
Кленчы пад крыжам!
Кленчы пад крыжам!

**ШТО ТАМ?**

Бясконцасць часу знічкай-бліскавіцай
Жыццё зямное раўнадушна праглыне,
Адно й паспееш агаломшана здзівіцца:
Ужо канец? А жыў я хоць ці не?

Ці чэрпаў слодыч прагна, быў багаты,
Ці у граху, як у каросце, закарэў —
А застанецца толькі рыска паміж датаў,
Ды й тыя час бязлітасна сатрэ.

У чым жа сэнс жыцця майго зямнога?
Навошта плакаў ды смяяўся, піў ды еў?
Адказ на вечныя пытанні толькі ў Бога.
Шчаслівы той, хто гэта зразумеў.

Шчаслівы, хто узяў сабе малітву
Як споведзь, клятву, пуцяводны сцяг.
Ён выйграе з самім сабою бітву,
Яму бясконцасці адкрыецца працяг.

**НАДЗЕЯ**

*Ірыне Жарнасек*

Як у цемры душа заблукае,
Ад нягодзіцы сэрца самлее,
Я грамніцу сваю адшукаю —
І сусвет для мяне пасвятлее.

Як ад думак-трывог не адбіцца,
Як адолець спакуса гатова,
Працягну я руку да паліцы —
І знайду там гаючае слова.

І ад сэрца да сэрца праб'ецца
Ручаінка цяпла трапяткога,
І надзеяй жывой страпянецца,
Што і я — не апошні у Бога.

**ЧАСАБЕГ**

Не прыпыніць імклівы часу бег,
Дарма яго мы «Прыпыніся!» просім.
Дзе пазаўчора падаў з яблынь снег,
Дзе ўчора так звінеў дзявочы смех,
Пануе сёння ўжо бабулька-восень.

Ад самай раніцы у парку ўсё мяце
Апалае з дубоў ды клёнаў лісце...
Прысядзь. Хай ва ўспамінах расцвіце
Куточак, дзе чарэмшына расце
І цалавала маладосць калісьці.

Сплылі у прамінуласць тыя дні.
Пад чарамшыну прыйдуць твае ўнукі,
Каб у сагрэтай салаўямі цішыні
Той скарб, што ўсё трымалі ў далані,
Раскрыць нарэшце, сплёўшы свае рукі.

Заціхне і салоўка над Дзвіной,
Пачуўшы іх гарачае дыханне.
Запоўніцца тады Сусвет вясной,
Паўторыць, што было з табой і мной.
Час спыніць бег. І расцвіце каханне.

Яно — жыцця непераможны сцяг
І ветразем для кожнай Боскай дзеі.
У ім і твой у вечнасці працяг,
Дзе ткуць заподруч векавечны шлях
Твае любоў і вера, і надзея.

# З ВЕРАЮ Ў СЭРЦАХ

Да 1917 года на тэрыторыі Магілёўскай вобласці дзейнічала 16 рыма-каталіцкіх касцёлаў, у якіх неслі службу 16 святароў. Найбольш буйнымі цэнтрамі каталіцтва ў рэгіёне былі Магілёў, Бабруйск, Мсціслаў, Асіповічы, Шклоў, вёска Фашчаўка Шклоўскага раёна. Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, а потым узнікненне бальшавіцкай дзяржавы, абвясціўшай барацьбу з рэлігіяй, — усё гэта прывяло да рэзкага скарачэння колькасці каталіцкіх касцёлаў і святароў (да 1929 года іх стала 8 і 5 адпаведна). Пасля некалькіх хваляў сталінскіх рэпрэсій 1930-х гадоў у Магілёўскай вобласці не засталося ні аднаго дзейнага касцёла.

У гады Другой сусветнай вайны германскія ўлады не забаранялі рэлігійную актыўнасць мясцовага насельніцтва на акупаваных савецкіх тэрыторыях, што дазволіла самаарганізавацца найбольш буйным каталіцкім супольнасцям. У выніку па завяршэнні вайны ў вобласці фактычна іх дзейнічала 4: у Магілёве, Бабруйску, Мсціславе і Фашчаўцы. Дакументы, звязаныя з дзейнасцю гэтых рэлігійных парафій, захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці ў фондзе ўпаўнаважанага па справах рэлігійных культаў. Праца з крыніцамі дазваляе больш падрабязна вывучыць асаблівасці каталіцкага рэлігійнага жыцця ў рэгіёне ў другой палове 1940-х — 1980-я гады.

Цэнтрам магілёўскага каталіцтва стаў катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава — мураваны, 3-павярховы па вышыні будынак з масіўнымі сценамі і шпілепадобнымі надбудовамі ў цэнтры і па вуглах. Будаўніцтва касцёла вялося з 1738 года па 1752 год, з 1783 года па 1873 год касцёл з'яўляўся катэдральным для Магілёўскай архідыяцэзіі, у якую ўваходзілі ўсе каталіцкія парафіі лацінскага абраду Расійскай імперыі.

У 1938 годзе, неўзабаве пасля арышту святара Пятра Аўгла (1861–1937), касцёл у Магілёве быў зачынены «па просьбе веруючых». Будынак перадалі МУС БССР, і там размясціўся абласны архіў. У 1944 годзе набажэнствы ў катэдральным касцёле ўзнавіліся. Вялікую ролю ў гэтым адыграў ксёндз Мечыслаў Вацлававіч Малыніч (1888–1969), які арганізаваў парафіянаў і праводзіў набажэнствы. Веруючыя спраўна ўносілі ў гарадскі фінансавы аддзел усе неабходныя плацяжы — страхоўку, зямельную рэнту, падаткі з пабудоваў. Быў створаны і касцёльны камітэт на чале з Я. В. Лыскоўскім.

Як адзначаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў, «дзейнасць касцёла насіла адкрыты і масавы характар — на набажэнствах прысутнічала ад 500 да 1000 чалавек, прычашчаліся і спавядаліся да 1000 чалавек штогод, хрысцілі да 100 дзяцей». Аднак афіцыйна, нягледзячы на зварот веруючых, каталіцкая парафія ў Магілёве так і не была зарэгістраваная. 26 чэрвеня 1947 года Мечыслаў Малыніч быў арыштаваны і прыгавораны да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў за «антысавецкую агітацыю». Пасля яго арышту набажэнствы ў касцёле спыніліся, і неўзабаве ў будынку размясціўся Цэнтральны дзяржаўны архіў БССР. Знутры памяшканне пераабсталявалі: была зроблена новая ацяпляльная сістэма, на верхніх ярусах былых хораў з'явіліся кабінеты супрацоўнікаў і стэлажы для захавання фондаў. Будынак змяніўся і знешне — былі знятыя крыжы, прадугледжвалася разабраць і бакавыя купалы-вежы.

Такім чынам, да 1949 года (завяршэнне рэгістрацыі рэлігійных супольнасцяў) у Магілёўскай вобласці так і не з'явіліся афіцыйна дзейныя касцёлы і святары. Публічнае рэлігійнае жыццё католікаў фактычна спынілася яшчэ з 1947 года. Толькі ў 1950 годзе ўзнавілася рэлігійнае жыццё ў прыватных кватэрах, а летам католікі пачалі




Паштоўка 1910 года.

збірацца на «польскіх» могілках. Для Эўхарыстыі, споведзі, хросту некаторыя веруючыя выязджалі ў касцёлы Вільнюса (да 200 чалавек за 1950–1953 гады).

Рэлігійнае жыццё католікаў актывізуецца з 1954 года ў выніку змены агульнай палітычнай атмасферы ў краіне і амнісціравання рэпрэсаваных святароў. Так, у чэрвені 1954 года з ссылкі вярнуўся Мечыслаў Малыніч. Ён пасяліўся ў Слуцку і, не атрымаўшы дазволу ад уладаў, пачаў пакрыёма выконваць абавязкі ксяндза: адпраўляў набажэнствы, хрысціў і вянчаў не толькі ў Слуцку, але і ў Магілёўскай вобласці. Дзякуючы яму адрадзіліся каталіцкія суполкі ў Магілёве, Бабруйску, Асіповічах, Мсціславе.

Вернікі пачалі актыўна звяртацца з просьбамі аб рэгістрацыі парафій, адкрыцці касцёлаў. У маі 1954 года ўпаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў атрымаў хадайніцтва веруючых аб адкрыцці касцёла ў Магілёве. Упаўнаважаны адказаў адмоваю, бо на працягу ўсіх гадоў савецкай улады «католікі абыходзіліся без касцёла і не ўзнімалі пытання ў вызначаным парадку». У жніўні 1954 года веруючыя Магілёва звярнуліся ў Савет па справах рэлігійных культаў у Маскве з просьбаю адкрыць у горадзе касцёл ці капліцу і запрасіць ксяндза з Літвы або Заходняй Беларусі. Свае подпісы пад заяваю паставілі 233 чалавекі. Рашэнне пытання было перанакіраванае ў Магілёўскі аблвыканкам, які, пасля разгляду просьбы ў лютым 1955 года, адмовіў вернікам. Прычынамі былі названыя: немагчымасць перанесці архіў з будынка былога касцёла, а таксама вялікая колькасць грошай, выдаткаваных на яго пераабсталяванне. Вернікам адмовілі таксама і ў перадачы капліцы на «польскіх» могілках, хоць там ужо прыбралі і перасталі выкарыстоўваць былое малітоўнае памяшканне ў якасці складу сена.

Атрымаўшы адмову, католікі працягвалі збірацца ў сваіх дамах, а па вялікіх святах горад наведваў ксёндз Малыніч. Так, вясною 1955 года на святкаванні Вялікадня ён ахрысціў да 30 чалавек, аднавіў сакрамэнты споведзі і Эўхарыстыі.

12 чэрвеня 1955 года, напярэдадні дня святога Антонія, на каталіцкіх могілках для сумеснай малітвы сабралася каля 150 чалавек. Непасрэдна ў сам святочны дзень вернікі зноў прыйшлі на могілкі, у агульнай колькасці там прысутнічала больш за 1 500 чалавек не толькі магілёўцаў, але і жыхароў навакольных вёсак. Штогод на гэтае свята католікі збіралі грошы на абраз святога Антонія. Калі храм у Магілёве зачынілі, сабраныя ахвяраванні пачалі накіроўваць у віленскі касцёл, куды вернікі перыядычна выязджалі для атрымання сакрамэнтаў.

У кастрычніку 1956 года кс. Мечыслаў Малыніч зноў прыязджаў у Магілёўскую вобласць для сустрэчаў з вернікамі. Пасля таго, як гэта стала вядома, яго выклікаў упаўнаважаны па справах рэлігіі. Падчас размовы кс. Малыніч заявіў, што ён будзе да канца сваіх дзён выконваць ускладзеную на яго місію па падтрыманні і прапаведаванні веры. У адказ упаўнаважаны загадаў ксяндзу Мечыславу больш не з'яўляцца ў Магілёве і вобласці, а ў сваіх справаздачах характарызаваў яго як «заўзятага, махровага рэакцыянера-ватыканца» і прапаноўваў альбо зарэгістраваць яго ў адным з касцёлаў заходняй часткі БССР, альбо «паставіць пытанне аб яго ізаляцыі». Аднак у лютым і красавіку 1957 года святар зноў наведваў вернікаў Магілёва і праводзіў перадвелікодную Імшу ў прыватным доме. Паколькі ксёндз не мог прысутнічаць у горадзе



Мечыслаў Малыніч (1888-1969).



Магілёўскі абласны архіў у будынку былога касцёла. 1985 г.

на Вялікдзень, ён загадзя асвяціў соль для таго, каб вернікі потым маглі разводзіць яе ў вадзе і асвячаць велікодныя стравы. Акрамя таго, у гэты час каталікі Магілёва актыўна пачалі хадайнічаць аб рэгістрацыі парафіі і адкрыцці касцёла — яны пісалі лісты на імя М.С. Хрушчова, М.А. Булганіна, К.Я. Варашылава, Генеральнага пракурора СССР, у Вярхоўны Савет СССР. Для разбору лістоў у абласны цэнтр выязджаў упаўнаважаны па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР.

На працягу 1958 года ксёндз Мечыслаў Малыніч яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Магілёў, сустракаючыся з вернікамі і праводзячы набажэнствы, на якіх прысутнічалі сотні чалавек. Святару ўдалося атрымаць магілёўскую прапіску пасля таго, як ён выкупіў палову дома па 2-м Струшненскім яры, недалёка ад каталіцкіх могілак, дзе і раней праходзілі малітоўныя сустрэчы вернікаў. 25 сакавіка 1959 года суд прызнаў несапраўднай дамову куплі-продажу з кс. Малынічам, а 5 ліпеня таго ж года Магілёўскі гарвыканкам перадаў канфіскаваную частку домаўладання ў жыллёвы фонд гаркамунгаса. Услед за гэтым у некалькіх гарадскіх і раённых газетах публікуюцца «антырэлігійныя фельетоны», у якіх кс. Малыніч называецца «ўтрыманцам» і «ашуканцам». Падобныя артыкулы былі не рэдкасцю для таго часу — поўным ходам ішла аб'яўленая М.С. Хрушчовым барацьба з рэлігіяй. Абвясціўшы сваёй мэтай будаўніцтва камунізму, кіраўнік савецкага ўраду паабяцаў, у ліку іншага, цалкам вызваліць грамадства ад рэлігіі. Акрамя таго, становішча Рыма-каталіцкага Касцёла ў СССР пагаршалася «халоднай вайной», у якой Ватыкан бачыўся Савецкаму Саюзу адным з ідэалагічных праціўнікаў.

На пачатку 60-х гадоў кс. Мечыслаў Малыніч працягваў наведваць Магілёў і Бабруйск напярэдадні рэлігійных святаў. Ён, як і раней, сустракаўся з вернікамі, праводзіў набажэнствы. Колькасць католікаў у вобласці тым часам скарацілася і складала, паводле падлікаў упаўнаважанага, прыкладна 1000 чалавек.

У канцы 1960-х — пачатку 1970-х гадоў магілёўскія вернікі неаднаразова звярталіся з просьбамі аб перадачы ім капліцы на каталіцкіх могілках. У той час памяшканне належала пахавальнаму бюро і выкарыстоўвалася для захавання інвентара, фактычна знаходзячыся ў запусценні. На ўсе хадайніцтвы католікі атрымлівалі адмовы з прычыны спарахнеласці будынка і неабходнасці яго пераабсталявання.

Пасля смерці святара Мечыслава Малыніча ў 1969 годзе ў Магілёў і Бабруйск з Вільнюса пачаў прыязджаць ксёндз Уладзімір Пракопіў. Ён, як і яго папярэднік, наведваў вернікаў, не маючы афіцыйнай рэгістрацыі.

У 1970-я — пачатку 1980-х гадоў узаемаадносіны католікаў і савецкіх уладаў набылі больш устойлівы характар. Вернікі праводзілі сходы ў сваіх дамах, калектыўна наведвалі могілкі па рэлігіных святах, час ад часу падаючы хадайніцтвы аб адкрыцці касцёлаў. Чыноўнікі ж, ведаючы аб неафіцыйнай дзейнасці каталіцкіх супольнасцяў, не перашкаджалі ёй, але нязменна адмаўлялі ім у легалізацыі.

З пачаткам «перабудовы» ў СССР значна ажывілася грамадска-палітычнае жыццё. У гэтых умовах рэзка ўзрасла колькасць заяваў вернікаў з просьбамі аб рэгістрацыі рэлігійных аб'яднанняў. Не выключэннем сталі і католікі Магілёўскай вобласці. За 1987 год упаўнаважанаму Савета па справах рэлігій паступілі 2 калектыўныя лісты вернікаў аб вяртанні ім будынка былога катэдральнага касцёла. Абедзве просьбы былі адхіленыя ў сувязі з тым, што пасля перамяшчэння абласнога архіва ў будынку планавалася правесці рамонтныя работы і адчыніць філарманічную залу. З аналагічнымі просьбамі вернікі звярталіся да Генеральнага сакратара ЦК КПСС М.С. Гарбачова, у газету «Праўда» і Савет па справах рэлігій пры Саўміне СССР.

Магілёўскі аблвыканкам зарэгістраваў парафію рыма-католікаў у студзені 1989 года і абавязаў гарадскія ўлады забяспечыць вернікаў памяшканнем. Спачатку гарвыканкам прапаноўваў парафіянам купіць дом альбо пабудаваць новы касцёл, аднак вернікі працягвалі настойваць на перадачы ім касцёла св. Станіслава, накіроўваючы калектыўныя просьбы ў Савет па справах рэлігій. Толькі 30 ліпеня 1990 года, ужо пасля абвяшчэння незалежнасці БССР, рашэннем Магілёўскага аблвыканкама будынак катэдральнага касцёла быў вернуты католікам, і пасля больш чым паўвекавога перапынку ў сценах найбуйнейшага касцёла вобласці зноў загучалі малітвы...

Так завяршыўся адзін з найбольш цяжкіх перыядаў у гісторыі каталіцтва на беларускіх землях. У час, калі зачыняліся касцёлы, святары ахвяравалі за свае перакананні не толькі здароўе, але нават і жыцці. Шмат у чым дзякуючы глыбокай веры некалькіх пакаленняў католікаў шматвяковая рэлігійная традыцыя не абарвалася, узнавіўшыся, як толькі насталі іншыя часы.

*Аляксей Швыроў — архівіст аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці.*

*Фота са збору Алега Лісоўскага.*

Кс. Эдмунд Даўгіловіч

# ДЗЕ МАЯ ПАРАФІЯ, ТАМ МАЯ РАДЗІМА

*У гэтым годзе, калі ўвесь хрысціянскі свет адзначае 25-годдзе аднаўлення структураў Каталіцкага Касцёла ў Расіі, Беларусі і Казахстане, варта з удзячнасцю згадаць тых святароў, якія стаялі ля вытокаў гэтага гістарычнага працэсу. Менавіта яны сваім ахвярным самаадданым служэннем сеялі зерне надзеі, спрыялі захаванню веры ў сэрцах людзей. Адзін з такіх святароў — ксёндз прэлат Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі, пробашч парафіі святога Юзафа ў Маладзечне. 38 гадоў ён ахвярна выконвае святарскую паслугу, 32 з іх – на Беларусі.*



**У імя Бога. І ў імя Чалавека**

Нарадзіўся я ў Латвіі 25 красавіка 1953 года ў горадзе Даўгаўпілсе. Добра памятаю, калі ў нашу парафію прыехаў ксёндз Ян Пурвінскі (будучы біскуп Кіеўска-Жытомірскай дыяцэзіі ва Украіне). Гэта быў вельмі актыўны святар, які проста гарэў сваім служэннем. Адразу ж ён прыгарнуў і атуліў асаблівай апекай міністрантаў. Мы разам чыталі Святое Пісанне, вучыліся міністратуры. Збіраліся ў капліцы на могілках — прыбіралі там, рыхтавалі сцэнкі на біблійныя тэмы. Святар вазіў нас па касцёлах у Латвіі, Літве. Ксёндз Ян Пурвінскі быў для мяне прыкладам, і я заўсёды хацеў быць падобным да яго, таму яшчэ да школы я стаў міністрантам і заўсёды ганарыўся тым, што мне было дазволена прыслугоўваць святару пры алтары. Хаця ў рэспубліках Прыбалтыкі адносіны савецкай улады да рэлігіі былі не такімі жорсткімі, як на ўсходзе СССР, аднак свабоднае, адкрытае вызнаванне веры і тут было вельмі няпростым. Сур'ёзныя пагрозы і знявагі з боку настаўнікаў, кпіны і абразы ад некаторых аднакласнікаў — я добра зведаў уціск савецкай атэістычнай машыны. Канечне, падлетку вельмі нялёгка знесці такі цяжар, але я заўсёды адчуваў у сваім сэрцы Божую прысутнасць і падтрымку бацькоў. Пра сваіх бацькоў — Ігнацыя і Вераніку Даўгіловічаў-Навіцкіх — мне б хацелася сказаць асобна. Менавіта іх прыклад, іх пабожнасць, працавітасць, шчырасць і сціпласць сталі для мяне жывой крыніцай веры, трывалым падмуркам майго жыцця. Умацоўвалі гэты падмурак сваім ахвярным служэннем Богу і людзям і мае блізкія родзічы. Так, мая цётка, сястра Генаэфа, належала да Ордэну Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, а другая цётка, сястра Вераніка, была настаяцельніцай Ордэну сясцёр назарэтанак у Рызе.

На жаль, і мае бацькі, і цёткі ўжо адышлі ў вечнасць, і я не магу пагутарыць з імі асабіста, але нашыя духоўныя зносіны не перапыняюцца: іх малітва падтрымлівае мяне і цяпер. Дарэчы, дзякуючы прыкладу і малітве бацькоў за мной яшчэ ў дзяцінстве замацавалася другое імя: «ксёндз». Больш за тры гады я займаўся ў секцыі вольнай барацьбы, і на спаборніцтвах сябры заўсёды падбадзёрвалі мяне воклічамі: «Ксёндз, давай!». Памятаю, як аднойчы, вярнуўшыся са спаборніцтваў у Рызе з дыпломам і кубкам за першае месца, у новым спартыўным касцюме, я прыйшоў да ксяндза Яна пахваліцца сваімі поспехамі. Ён уважліва паглядзеў на мяне і сказаў: «Я спадзяваўся, што ты паступіш у семінарыю, а ты ў нас „барэц“». І расчаравана дадаў: «Шкада, Эдмунд, што ты пачаў прапускаць нядзельныя Імшы».

У той час практычна ўсе спаборніцтвы праходзілі па нядзелях, таму мне давялося зрабіць нялёгкі выбар: барацьба альбо Імша. Зразумела, я выбраў Імшу, але са спортам сябрую ўсё жыццё: люблю плаванне, барацьбу, лічу, што і праз спорт можна таксама праслаўляць Бога, а кожны сапраўдны хрысціянін павінен належным чынам клапаціцца аб прыгажосці і здароўі свайго цела, якое, па словах святога Паўла, ёсць «святыня Божая, дзе Божы Дух жыве...» (пар. 1 Кар 3, 16 –17)

Якраз у гэты час я пазнаёміўся з адным міністрантам з

Беларусі. Ён прыехаў вучыцца латышскай мове, каб пасля паступіць у Рыжскую духоўную семінарыю. Звалі яго Францішак Грынкевіч — будучы пробашч касцёла ў Крывічах і санктуарыя Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе. Ён стаў для мяне сябрам, старэйшым братам, аднадумцам і паплечнікам на ўсё жыццё. Яго непахіснасць у дасягненні сваёй мэты, адданасць у вызнанні веры, стараннасць у выкананні любой працы выклікалі ў мяне захапленне і павагу.

Сярэднюю школу я скончыў на «выдатна» і збіраўся паступаць у духоўную семінарыю, але дырэктар школы, аддаючы мне атэстат, пажадаў: «Няхай у арміі табе мазгі прапалошчуць».

Тры гады я праслужыў у войску: два гады — пад Калінінградам, у горадзе Савецк, і год — у Краснаярскім краі, у пасёлку Вялікая Мурта, за трыста кіламетраў на поўнач ад ракі Енісей. Апынуўся ў Сібіры, таму што на другім годзе службы напісаў біскупу ліст з просьбай прыняць мяне ў семінарыю. Я не лічу час службы страчаным, наадварот, гэта суровае выпрабаванне загартавала мяне, дазволіла ў пэўным сэнсе праверыць сябе, пераканацца ў непахіснасці майго паклікання.

У 1973 годзе я стаў семінарыстам Рыжскай духоўнай семінарыі. Штогод з Беларусі і Украіны сюды прыязджала шмат юнакоў, якія хацелі атрымаць святарскую фармацыю. Аднак вучыцца многім даводзілася «падпольна», бо ўлады чынілі самыя розныя перашкоды. Сярод гэтых навучэнцаў шмат сённяшніх святароў, якія ахвярнай самаадданай службай уводзяць у жыццё слова Божае, Евангелле і навуку Каталіцкага Касцёла, напрыклад, Антоні Дзям'янка, біскуп Пінскай дыяцэзіі; Казімір Велікаселец, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі і многія іншыя.

29 мая 1978 года ў катэдральным касцёле святога Якуба ў Рызе я атрымаў святарскае пасвячэнне з рук кардынала Юльяна Вайвадса. Потым год служыў вікарыем у касцёле святога Альберта ў Рызе, год — у санктуарыі Маці Божай у Аглоне, два гады — у касцёле святога Даната ў Краславе. У 1982 годзе я стаў пробашчам касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў горадзе Баўск, што знаходзіцца за сорак кіламетраў ад Рыгі.

Неяк ксёндз прэлат Яніс Пуятс запытаў мяне, ці хацеў бы я служыць у Беларусі, недалёка ад свайго прыяцеля ксяндза Францішка Грынкевіча? Я спачатку трохі разгубіўся, але хутка зразумеў, што гэта воля Божая, і прыняў новае прызначэнне.

13 мая 1984 года я стаў пробашчам касцёла св. Станіслава ў вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна і адразу адчуў вялікую розніцу паміж святарскай паслугай у Латвіі і Беларусі. Навокал было шмат вёсак з касцёламі без святароў: Касцяневічы, Альковічы (Вілейскі раён), Ваўкалата (Докшыцкі раён), Краснае, Радашковічы (Маладзечанскі раён). Даводзілася абслугоўваць да пятнаццаці парафій.

Мае міністранты спазналі крыж святарскага служэння, прымаючы ўдзел у 5–6 Імшах за адзін святочны дзень. Адлегласць паміж касцёламі была вялікая, і не кожны раз удавалася прыязджаць у прызначаны час, здаралася спазняцца, але парафіяне заўсёды цярпліва чакалі святара, Божага слова, укрытага ў Гостыі Езуса.

Вядома, савецкія часы не былі лёгкімі ні для вернікаў, ні для святароў, але менавіта тады Бог даў мне сустрэць столькі добрых, шчырых, адданых людзей. Гэтыя простыя сціплыя сяляне сталі для мяне прыкладам жывой і моцнай веры беларускага народа. Я і сёння памятаю, колькі патрэбна было сілы, адвагі і веры, каб супрацьстаяць савецкаму атэістычнаму рэжыму, які дзесяцігоддзямі трымаў людзей у ланцугах бязвер'я, а святыні — у занядбанні. І я, наколькі хапала сілы, дапамагаў людзям — малітвай і парадай — проста заставацца сапраўднымі хрысціянамі, не заблудзіцца на шляху да Бога і пазбегнуць мноства памылак у жыцці. Яднаў сужэнствы сакрамэнтам шлюбу, хрысціў дзетак, праводзіў памерлых у апошні шлях, а яшчэ аднаўляў, рамантаваў і адбудоўваў нанава касцёлы і капліцы, таму што цвёрда перакананы: усе святыні — з цэглы, бетону, мармуру ці дрэва — прызначаны для духоўных мэтаў. Гэтыя бачныя храмы павінны спрыяць «будаўніцтву Божых святыняў вашых сэрцаў». Святы Павел нагадвае ў другім чытанні: «Вы — ніва Божая, будоўля Божая» (1 Кар 3, 9).

Гэты час маёй сціплай святарскай паслугі і сёння ўзгадваю з цеплынёй і ўдзячнасцю. Бог даў мне ласку стаяць ля вытокаў адраджэння касцёла Адведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны ў Альковічах у сучаснай яго гісторыі. З гэтых краёў паходзіць ксёндз інфулат Станіслаў Кучынскі, якога землякі лічаць святым. У альковіцкім касцёле ён служыў некалі клерыкам, цэлебраваў тут сваю першую святую Імшу. Заўсёды падтрымліваў родную святыню і парафію, клапаціўся пра пакліканні да святарскага служэння, таму стаў першым рэктарам Гродзенскай духоўнай семінарыі. Калі на Беларусі яшчэ не было біскупа, менавіта ён неафіцыйна лічыўся адміністратарам Міншчыны, бо меў вялікі аўтарытэт. Нейкі час ён быў маім спаведнікам і ў значнай ступені паўплываў на маё духоўнае станаўленне. У апошнія гады жыцця ён быў без нагі, насіў пратэз, але заўсёды кленчыў перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам. Пакруціць пратэз — і на калені. Гэта быў прыклад сапраўднай пашаны да Езуса ў Эўхарыстыі. Памёр ксёндз Станіслаў Кучынскі ў 1996 го-

дзе і пахаваны каля касцёла ў Альковічах — такая была ягоная воля. Я вельмі ўдзячны ксяндзу Станіславу за бацькоўскі клопат і сведчанне веры, за прыклад сапраўднага святарскага служэння.

Таксама вельмі дарагі для мяне і касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Красным. Будынак касцёла знаходзіцца на ўзвышшы, што вельмі сімвалічна: каб далей глядзець, неабходна падняцца на гару — толькі тады перад чалавекам адкрываюцца неабсяжныя далягляды, толькі тады можна глынуць гаючага вольнага паветра. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў парафія гэтага касцёла сягала далёка за кананічную тэрыторыю: каб атрымаць духоўную дапамогу, менавіта сюды ў гады пераследу і атэізму прыязджалі вернікі за многія кіламетры. Як з гонарам кажуць красненцы, «наш касцёл быў адчынены і пры саветах». Менавіта з гэтай святыняй звязаны лёс многіх святароў і шматлікія навяртанні. Ксёндз пробашч Ян Адамовіч, пасля якога мне давялося апекавацца красненскай парафіяй, усё жыццё аддана і руплiва служыў на Божай ніве, дапамагаў захоўваць і развіваць веру продкаў. І я, кіруючыся прыкладам гэтага нястомнага святара-працаўніка, стараўся не толькі здзяйсняць духоўную апеку вернікаў, але і працягваць справу аднаўлення гэтай слыннай святыні.

Пяць гадоў прамільгнулі як адзін дзень.

25 ліпеня 1989 года Святы Айцец Ян Павел ІІ прызначыў Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў у Беларусі. Радасці не было межаў: нарэшце ў нас свой біскуп!

Тадэвуша Кандрусевіча я ведаю яшчэ з тых часоў, калі ён быў клерыкам, дзякуючы ксяндзу прэлату Пятру Барташэвічу, яго духоўнаму айцу. Таму я не здзівіўся, калі новапрызначаны біскуп падпісаў дэкрэт аб будаўніцтве касцёла святога Юзафа ў Маладзечне і ўсклаў на мяне абавязкі пробашча касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы. Дарэчы, менавіта біскуп Тадэвуш Кандрусевіч здзейсніў рэкансэкрацыю гэтай аднаўленай святыні. З уласцівай яму энергіяй і запалам ён уключыўся ў справу адбудовы Касцёла на Беларусі, спрыяў развіццю пастырскай дзейнасці, актыўна ўдзельнічаў у жыцці паўсюднага Касцёла, асаблівую ўвагу ўдзяляючы працы з дзецьмі і моладдзю. Варта ўзгадаць, што ў 1991 годзе ён прычыніўся да арганізацыі пілігрымкі вялікай групы дзяцей з Маладзечна ў Ватыкан і іх сустрэчы са Святым Айцом Янам Паўлам ІІ.



Кс. Эдмунд побач з кардыналам Казімірам Свёнткам падчас першай святой Імшы ў вернутай католікам мінскай катэдры. 1994 г.

**Цяжкі і напружаны час, але такі плённы і радасны**

13 красавіка 1991 года арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі быў прызначаны Казімір Свёнтэк, а 26 лістапада 1994 года ён атрымаў годнасць кардынала.

Гэта быў «ахвярны святар, чалавек глыбокай, непахіснай веры і незвычайнага лёсу <...>, у якім яскрава адлюстраваўся драматычны лёс усяго Касцёла на Беларусі» («Fidei testis», 2004 г.). Усёй сваёй існасцю ён служыў Касцёлу: клапаціўся пра рэлігійную фармацыю дзяцей і моладзі, пра душпастырства пакліканняў, пра сакральнае і касцёльнае будаўніцтва.

У 2001 годзе пасля капітальнага рамонту будынка былой Пінскай духоўнай семінарыі адкрыў Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Тамаша Аквінскага для падрыхтоўкі да святарства кандыдатаў, якія паходзяць з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій, і стаў яе першым рэктарам.

Гэта важная падзея адбылася ў той час, калі ў нашай краіне з'явіліся магчымасці для ажыццяўлення новай евангелізацыі пасля дзесяцігоддзяў ганенняў на Касцёл, каб дзякуючы служэнню святароў, як казаў наш нябесны апякун, святы Ян Марыя Віянэй, здзяйснялася справа збаўлення ўсіх людзей свету.

А дні беглі за днямі — і вось за чатыры гады быў адбудаваны касцёл святога Юзафа ў Мала-



Кс. Эдмунд з біскупам Антоніем Дзям'янкам
у складзе журы на Кангрэсе пакліканняў.
Маладзечна, 2005 г.

дзечне. Асвяціў новую святыню 17 мая 1997 года ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк. Ва ўрачыстай гаміліі ён вярнуўся памяццю да часоў сваёй вучобы ў духоўнай семінарыі, калі ён клерыкам праводзіў семінарыйныя канікулы ў Маладзечне, дзе тады былі дзве каталіцкія святыні. Яны былі знішчаны падчас камуністычнага праследу, але нішто не магло знішчыць каталіцкую веру. «Як шкада нашых блізкіх, родных, прыяцеляў, — сказаў кардынал, — якіх сёння няма сярод нас. Як яны марылі пра гэты дзень, як бы хацелі яго святкаваць разам з намі. Успомнім пра іх у сваіх малітвах... Яны таго заслужылі. Мы ж сёння, каму Пан Бог даў шчасце збудаваць такую святыню, павінны з глыбіні сэрца дзякаваць Усемагутнаму за ласку жыцця, за тое, што ператрывалі праследаванні, што выстаялі і захавалі ў сабе веру, што дачакаліся шчаслівага дня асвячэння свайго новага касцёла. І калі ўжо знайшлі мы матэрыяльныя сродкі і магчымасць для адбудовы такой святыні, то павінны змагчы адбудаваць і святыні сваіх душаў, каб быць да канца вернымі вызнаўцамі Бога і сапраўднымі хрысціянамі, каб ва ўсёй паўнаце расцвітала тут хрысціянскае жыццё».

І парафіяльнае жыццё развівалася і мацнела. Не ў часовых прытулках — у інтэрнатах, у клубе чыгуначнікаў ці ў актавай зале аўтапарка — у сваёй парафіяльнай святыні мы шчыра дзякавалі Усемагутнаму Богу за Яго шчодрыя ласкі і пакорна прасілі апекі і благаслаўлення. У справе рэлігійнага выхавання дзяцей святарам дапамагалі сёстры з Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта на занятках катэхезы, для чаго спецыяльна былі абсталяваныя класы.

У 1996–2000 гг. ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк праводзіў Сінод Мінска-Магілёўскай, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій. Я ўваходзіў у склад падкамісій «Секты і новыя рэлігійныя рухі як душпастырская праблема», «Унутраная структура Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі» па рэдагаванні праекта Статута. Пленарныя сесіі Сінода праходзілі ў Віцебску, Магілёве, Мінску, Гомелі, Пінску, Бабруйску, Нясвіжы, Маладзечне, Баранавічах. Падрыхтоўка гэтых пасяджэнняў, іх арганізацыя і правядзенне вымагалі ад удзельнікаў вялікіх высілкаў — фізічных і духоўных. Але дзякуючы малітоўнай падтрымцы вернікаў мы пастаянна адчувалі Божае натхненне, апеку Панны Марыі. Таму гэтыя напружаныя, насычаныя падзеямі і сустрэчамі чатыры гады сталі часам плённай працы ў справе ўмацавання касцёльных структураў і вызначэння шляхоў далейшага развіцця Касцёла на Беларусі як неад'емнай часткі сусветнага Касцёла.

З 20 студзеня 1998 года я быў прызначаны дэканам Нясвіжскага дэканата і пяць гадоў служыў патрэбам Касцёла на зямлі Радзівілаў.

13 сакавіка 2003 года кардынал Казімір Свёнтэк прызначыў мяне дэканам Вілейскага дэканата і пробашчам касцёла святога Юзафа ў Маладзечне, а ў маі гэтага ж года, у сувязі з прызначэннем дапаможнага біскупа Кірыла Клімовіча ардынарыем дыяцэзіі святога Юзафа ў Іркуцку, Казімір Свёнтэк даручыў мне выконваць абавязкі Генеральнага вікарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Я шчаслівы, што меў Божую ласку працаваць, маліцца разам з кардыналам, слухаць яго, бачыць і проста быць разам з сапраўдным добрым пастырам.

Ніколі не забуду, як кардынал Казімір Свёнтэк рыхтаваўся да Імшы, да штомесячных сустрэчаў са святарамі, да перамоваў або пілігрымак: на каленях у сваёй капліцы, размаўляючы з Панам Богам, утоеным у Найсвяцейшым Сакрамэнце. Пасля такой глыбокай асабістай малітвы ён запісваў на аркуш паперы ўсё, што добры Айцец Нябесны параіў свайму сыну. Шчырая малітва, спакойная вытрываласць, ахвярная праца, маладосць духу, дасціпны гумар — такі цудоўны прыклад духоўнага бацькі і настаўніка стаў сапраўдным «лікбезам» у маім святарстве.

«*Fidei testis*» («Сведка веры»), Камандор Ордэну Ганаровага Легіёну Францыі — гэтымі і шматлікімі іншымі касцёльнымі і міжнароднымі ўзнагародамі

былі адзначаны пастырскія і чалавечыя прыжыццёвыя заслугі кардынала Казіміра Свёнтка. Але і сёння гэты вялікі святар з'яўляецца для мяне асабіста і, я перакананы, для ўсіх нас сапраўдным сведкам веры, прыкладам нястомнага служэння на карысць бліжніх.

16 жніўня 2004 года Вярхоўны Пантыфік Святы Айцец Ян Павел II прызначыў мяне Ганаровым прэлатам. Я вельмі ўдзячны за такую высокую ацэнку маіх сціплых пастырскіх заслугаў. Найперш я адношу гэту ўзнагароду на рахунак тых святароў і свецкіх вернікаў, якія сваім самаадданым прыкладам спрыялі ўзрастанню і станаўленню майго паклікання. З жыцця гэтых людзей, багатага на радасныя падзеі і адначасова поўнага выпрабаванняў, прарасло зерне майго паклікання да святарства, а з майго жыцця — насенне новых пакліканняў. Гэта і ёсць жывы працяг непарыўнай апостальскай традыцыі, што бярэ пачатак ад Хрыста — Добрага Пастыра, Найвышэйшага Святара і Дасканалай Ахвяры. Вучыцца наследаваць Яго, каб не перарваць гэтай Боскай традыцыі, даверанай рукам святароў — вось наша мэта і абавязак. Таму я цаню кожнае святарскае пакліканне і малюся, каб яно прынесла багаты плён, каб аблічча адроджанага на нашай зямлі Касцёла заззяла Хрыстовай маладосцю. Я заўсёды з удзячнасцю памятаю пра атрыманы дар святарства і вельмі адказна стаўлюся да працы з моладдзю. Дапамагчы юнаку распазнаць голас Бога, прыняць Яго заклік да поўнага пасвячэння сябе справе Евангелля — ці не самая важная місія кожнага святара. На сённяшні дзень чатырнаццаць маіх выхаванцаў прамовілі сваё «так», калі Бог паклікаў іх да сваёй службы, атрымалі святарскую фармацыю ў духоўных семінарыях, многія вучацца або ўжо скончылі каталіцкія ВНУ



Падчас біскупскага пасвячэння кс. Юрыя Касабуцкага.
Мінск, архікатэдра, 2014 г.

і плённа працуюць на Божай ніве. Гэта ксёндз біскуп Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; кс. Сяргей Бараўнёў, пробашч парафіі св. Роха ў в. Палачаны і парафіі Божага Цела ў Беразінскім; кс. Юрый Бараўнёў, пробашч парафіі ў в. Круляўшчызна Віцебскай дыяцэзіі; кс. Валянцін Станкевіч, пробашч парафіі ў Волме; кс. Віталь Драздоўскі, дэкан Магілёўскага дэканата Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; кс. Дзмітрый Чупрын, прэфект Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску, прафесар; кс. Уладзімір Русак, пробашч парафіі ў в. Лебедзева; кс. Уладзіслаў Лазар, пробашч парафіі ў в. Камень Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; айцец Віталь Юркевіч з Ордэну Братоў Меншых Капуцынаў, які служыць у Докшыцах Віцебскай дыяцэзіі; кс. Аляксандр Шупенька, пробашч парафіі ў г. Шклоў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; кс. Юрый Санько, пробашч касцёла св. Роха на Залатой Горцы ў Мінску; кс. Павел Халяўкін, пробашч парафіі Пінскай дыяцэзіі; кс. Уладзіслаў Шышла, пробашч парафіі ў в. Шэметава; кс. Кірыл Бардонаў, дырэктар партала *Catholic.by*; сястра Ганна (Дзятлік) з парафіі Даўгінава, якая служыць у Докшыцах; сястра Марыя (Сабалеўская), якая склала манаскія абяцанні ў кляштары ў Бельгіі.

«Не затрымаць і не спыніць бег часу. Ён мінае, імчыць наўкола, стварае поле, у якім мінаеш сам, прымiраны з усім», — так пісаў Караль Вайтыла («Развагі пра смерць», пераклад К.Гурскай).

З гадамі я ўсё часцей вяртаюся памяццю да пачатку, да маіх бацькоў, сястры, да даўгаўпілскай парафіі, дзе я быў ахрышчаны, да гэтага горада майго юнацтва, да сяброў, да душпастырства, да людзей, якіх Пан паслаў мне на жыццёвым шляху, — усім хачу сказаць адно: «Няхай Бог вас узнагародзіць». А сябе, як пісаў у «Тэстамэнце» святы Ян Павел II, яшчэ раз аддаю волі Пана. Ён сам вырашыць, калі і як я павінен закончыць маё зямное жыццё і святарства. Веру, што Ён благаславіць плён той найвялікшай справы, якой я ўсім сваім жыццём імкнуся служыць: для збаўлення людзей, для ацалення зраненых душаў, для росквіту Касцёла, для хвалы самога Бога. «Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку» (Мц 28, 20).

# З НАЙЯРЧЭЙШЫХ СУЗОР'ЯЎ

Адным з найярчэйшых сузор'яў на нашым нацыянальным небасхіле ззяюць імёны Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў — слаўных прадстаўнікоў лагойскага адгалінавання гэтага шляхецкага роду. Яны былі роднымі братамі не толькі па крыві. Іх роднаснасць адчувалася ва ўсім, што рабілася імі на працягу ўсяго іх жыцця. Нястомныя працаўнікі прадвесня нашай навукі, яны, нібыта сіямскія блізняты (хоць між імі была розніца ў 6 гадоў), неаддзельна адзін ад аднаго жылі агульнай палымянай ідэяй — пранікнуць у таямніцы айчыннай гісторыі, культуры, мастацтва; расказаць пра родны край сучаснікам і нашчадкам; прадставіць наш народ у шырокім агульнаеўрапейскім кантэксце. І чым далей адыходзіць Час, тым выразней бачыцца іх неацэнны ўклад у развіццё грамадскай думкі на Беларусі. Яны былі шырока прызнаныя пры жыцці, з'яўляючыся Ганаровымі членамі шэрагу еўрапейскіх Акадэмій навук. Нельга сказаць, што іх дзейнасць забытая сёння, аднак іх рарытэтныя працы, якія не заўсёды можна знайсці нават у буйнейшых бібліятэках Беларусі, да гэтага часу не сталі набыткам нашага чытача, не загучалі на мове нашай роднай зямлі, якой яны шчыра і бескарысліва аддалі сябе дарэшты.

Фундаментальнае выданне «Беларускі кнігазбор», якое выпускае ў свет усё лепшае, чым багатая наша мастацкая і навуковая літаратура, у сваім плане-праспекце прадугледзела і публікацыю творчай спад-




чыны абодвух братоў. Цяпер рыхтуецца да друку том твораў старэйшага з іх — Канстанціна Тышкевіча (1806–1868) — гісторыка, археолага, стваральніка музейных калекцый, географа, этнографа, фалькларыста, мастацтвазнаўцы. Кніга ахопіць такія яго працы, напісаныя на польскай і рускай мовах, як «Вілія і яе берагі», «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай», «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва».

Чытачам «Нашай веры» прапануецца ў нашым перакладзе раздзел з найцікавейшай кнігі Канстанціна Тышкевіча «Вілія і яе берагі» (яна, дзякуючы Ю. І. Крашэўскаму, выйшла ў Дрэздэне ўжо пасля смерці аўтара, у 1871 г.), дзе апісваецца незвычайнае падарожжа вучонага па гэтай маляўнічай рацэ да самага яе вусця. Збудаваная графам за ўласны кошт у яго лагойскіх майстэрнях і дастаўленая на берагі Віліі флатылія, упрыгожаная гербамі, сцягамі, харугвамі, пераадольваючы прыродныя цяжкасці, прайшла сотні вёрстаў па вадзе. Напэўна, упершыню на нашай зямлі Канстанцінам Тышкевічам было ажыццёўлена комплекснае вывучэнне краю, бо падабраная з розных спецыялістаў каманда вяла даследчыя назіранні на высокім навуковым узроўні: з дапамогаю адмысловых прыбораў, пазычаных у Віленскім універсітэце, вымяраўся стан надвор'я і ўсе магчымыя параметры ракі (на кожным яе ўчастку яна дакладна картаграфавалася), былі зроблены апісанні прыбярэжнай прыроды, расказана пра гісторыю населеных пунктаў, пададзены адпаведныя статыстычныя звесткі, праведзены апытанні мясцовых жыхароў, запісаны фальклорныя творы, этнаграфічныя звесткі, сустрэчы з рознымі цікавымі людзьмі розных саслоўяў, замаляваныя пейзажы і найбольш значныя архітэктурныя збудаванні, сярод якіх ці не першае месца займаюць і культавыя будынкі — касцёлы, капліцы і кляштары...

Мінула 160 гадоў з таго слаўнага падарожжа. Сённяшнія энтузіясты ўжо каторы год на лодках і байдарках ажыццяўляюць вандроўку «Вілія — шляхам графа Канстанціна Тышкевіча». Такім чынам, справа вялікага вучонага жыве!

*Уладзімір Васілевіч*

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ** — фалькларыст, этнограф, перакладчык. Нарадзіўся ў 1952 годзе. Жыве ў Мінску.Закончыў філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Выкладаў у БДПУ імя М. Танка. Аўтар кніг па вуснай народнай паэзіі, міфалогіі, этнаграфіі: «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (1886), «Збіральнікі» (1991), «Беларускі народны каляндар» (1993), «Міфы Бацькаўшчыны» (1994), «Беларуская міфалогія» (2001, 2002), «Чароўны свет» (2008, 2010, на англ. мове — 2012), трохтомнік народных прыкмет і павер'яў «Зямля стаіць пасярод свету...» (1996, 2010), «Жыцця адвечны лад» (1998, 2010), «Зямная дарога у вырай» (1999, 2010) і інш. Пераклаў з польскай мовы кнігі Я. Корчака «Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве» (1982, 1998, 2012), разам з Л. Салавей — Ч. Пяткевіча «Рэчыцкае Палессе» (2004), «Грамадская культура Рэчыцкага Палесся» (2015) і інш.

Канстанцін Тышкевіч

# ВІЛІЯ І ЯЕ БЕРАГІ

## ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах

**Раздзел X**

Прыгожая наша рака, якая ад смаргонскага перавозу забегла была на хвіліну ў сярэдзіну Свянцянскага павета, падмацаваўшыся на гэтым участку двума малымі струменямі і нібыта засаромеўшыся свайго ветранага жадання спадабацца ў суседнім павеце яе жыхарам, дзеля чаго яна туды заплыла і адступілася ад свайго абавязку паказваць межы суседнім паветам, раптам паварочвае на захад, і ў гэтым, поўным зграбнасці павароце за вёсачкай Ашмянец, яна злучаецца з рэчкай Руднянкай, якая, плывучы паміж Свянцянскім і Ашмянскім паветамі, упадае ў яе з левага берага і зноў пачынае праводзіць мяжу паміж тымі двума паветамі. Тут Вілія ўжо не такая маляўнічая, як тая яе частка, якою мы любаваліся, плывучы па ёй на працягу двух дзён. Аднак яна заўсёды мае высокія, багата ўсланыя камянямі і прыгожа парослыя берагі; яна грацыёзна выкручваецца паміж іх, і гэта здавалася б прыгожым, калі б мы не маглі параўноўваць убачанае цяпер з нечым лепшым. Тут яна губляе ў сваёй зграбнасці выключна з-за параўнання з усёй той часткаю, якую мы толькі што праплылі і непараўнальныя па прыгажосці разнастайныя краявіды якой, такія багатыя на маляўнічыя фарбы, зусім нядаўна выклікалі наша захапленне. Мы зноў плывем паміж двума паветамі. Правы бераг лічыцца мяжою Свянцянскага павета, а левы ўвесь час пазначае мяжу Ашмянскага. Пасля ўчарашняга цёплага і пагоднага вечара, пасля спакойнай летняй ночы ніяк нельга было спадзявацца, што сённяшні дзень будзе такі ветраны. Адначасова з нашым адплыццём усчаўся стрэчны вецер, які на працягу ўсяго дня дзьмуў на нас з усходу з такой сілаю, што мы вымушаны былі па некалькі разоў прыставаць да берага, каб перачакаць хвалі, якія, ускладняючы плаванне, збівалі нас з дарогі. На працягу сённяшняга падарожжа, што не вызначалася вялікай цікавасцю, мы напаткалі па дарозе насупраць фальварка Дубок на старым рэчышчы ракі камень, які зваўся Арэх; за ім мы прайшлі два малацікавыя парогі: адзін з іх называўся Зыбуха, а другі — Чаромха. Адразу за ім сустрэліся нам два вялікія небяспечныя камяні, што ляжалі амаль побач і вытыркаліся з вады: адзін, як сказалі нам плытагоны — Багдановіч, другі — Рамановіч. Далей, амаль праз мілю за гэтымі камянямі, у Вілію з левага берага ўпадае даволі моцная Ашмянка. Пры гэтай рэчцы заканчваецца Ашмянскі павет і пачынаецца Віленскі. У Маркунах, вёсцы п. Котвіча, размешчанай пры вусці рэчкі Ашмянкі, толькі ўжо на левым яе беразе, я сустрэў першыя сляды літоўскай мовы. Як прыемна, што кожны чалавек тут разумее і па-польску, аднак літоўская мова як родная ім больш да смаку. Яна тут мова хатняя, паколькі ўвесь люд размаўляе на ёй між сабою. Калі на правым беразе гэтай рэчкі канчаткова спынілася русінская гаворка, нібы патануўшы ў яе водах, то за ёю народ ужо адгукаецца літоўскай моваю; адсюль вынікае ясны вывад, што тут Ашмянка ў старажытнасці павінна была ўтвараць мяжу паміж крывічанскай і літоўскай зямлёю, аддзяляючы Русь Літоўскую ад уласна Літвы. На правым беразе Віліі, у сённяшнім Свянцянскім павеце, далей цягнулася крывічанскае племя, бо там русінская гаворка поўнасцю заканчваецца толькі на берагах ракі Жаймяны.

Ад вусця рэчкі Ашмянкі, пры якім трохі затрымалі нас даследаванні над гаворкамі двух братніх народаў, што столькі вякоў супольна пражылі між сабою, увесь час перасследаваныя стрэчным і халодным ветрам, мы з пакутамі патроху пасунуліся наперад. Ужо добра пачало шарэць пасля заходу сонца, калі сярод вечаровага змроку на левым беразе ракі забялелі дзве невысокія, але вельмі стройныя ў сваіх памерах вежы, і пры іх — ладны касцёл з купалам, асаджаным на чыстым, нядаўна пафарбаваным даху; словам, з вечаровага змроку выступіў перад намі не надта вялікі мураваны касцёл выдатнай італьянскай архітэктуры, за ім забялела двухпавярховая мураваная плябанія; далей за ёю — прама і налева, чарнелі драўляныя дамы, якія раздзяляў між сабою шырокі гасцінец, што вёў з Вільні да Полацка. Ды гэта ж нейкае мястэчка з касцёлам! Пасля нудотна праведзенага дня, які не прынёс вам, мае чытачы, ніякіх цікавых падрабязнасцяў, акрамя трох камянёў і двух малазначных парогаў, затрымцела з радасці сэрца ад аднае толькі думкі, што збор матэрыялаў у маёй падарожнай папцы сёння павялічыцца. Касцёлы і пробаствы як найвярнейшыя сведкі змен у краіне на працягу некалькіх вякоў; як некранутыя склады ўспамінаў ці набожнасці, ці гістарычных здарэнняў у краіне; урэшце як надзейнейшыя сховішчы для пісьмовых помнікаў — усюды прадстаўляюць цікавейшае поле для даследаванняў і навукі. І што ж, толькі ў нас, дзе ўсё па шмат

разоў перамянялася ў краіне, адны касцёлы захавалі дакладную традыцыю мінуўшчыны, а ў аздобах і прыстасаваннях, недатыкальных на працягу стагоддзяў, зберaглі даўнія формы мастацтва і мясцовых густаў.

Гэта было мястэчка Міхалішкі.

Я як мага хутчэй пабег з карабля, каб агледзець касцёл, завітаць у плябанію, пазнаёміцца з пробашчам, бо пад гэтым свяшчэнным у Літве дахам пражывае набожнасць, сціплая прастата і шчырая гасціннасць. Тут на гэты конт я не расчараваўся. Жыллё пробашча знаходзілася ў той мураванай плябаніі на другім паверсе. Сенцы і шырокая лесвіца былі высланы аерам. Прыслужнікі ў плябаніі былі прыбраныя больш акуратна, чым звычайна — нейкая ўрачыстасць павінна была адбыцца ў гэты дзень. І насамрэч: нейкі добры анёл выкінуў мяне на гэты бераг напярэдадні св. Антонія, імя якога праз дзень будзе ўрачыста святкавацца ў Міхалішках як касцельны фэст. Мне выпала зручная магчымасць агледзець Міхалішкі ва ўсёй іх святочнасці. Малы хлопчык адчыніў мне дзверы ў першы пакой пробашчавага жылля. Малады мужчына высакароднай знешнасці, апрануты ў духоўны строй, разам з касцельнымі братчыкамі, якія з выказваннем пашаны стаялі перад ім, праводзіў нейкія нарады і аддаваў загады, што датычыліся чаканага свята. Быў гэта толькі што ўзведзены ў сан пробашч, пакуль яшчэ новы гаспадар у гэтай парафіі — кс. Стшалецкі. Калі я яму паведаміў, хто я і чаго шукаю, ён прыняў мяне з вялікай далікатнасцю і такой прастатою адкрытага сэрца, якое, здаецца, гаворыць кожнаму: «Будзь у мяне дарагім госцем». І адразу ж забраў нас у плябанію і мала таго, што накарміў-напаіў нас, каб мы знайшлі ў яго добры адпачынак, але затрымаў нас на сваю касцельную ўрачыстасць, жадаючы, каб я стаў сведкам набожнага прадстаўлення, з якім ён збіраецца святкаваць у Міхалішках дзень св. Антонія. У ліку некалькіх ксяндзоў, сабраных на гэты фэст, знаходзіўся дэкан са Свіра кс. Скрабоўскі, які прыбыў сюды на гэтае вельмі ўрачыстае набажэнства. Гаспадар плябаніі прадставіў мяне ўсім сваім гасцям. Тут я пазнаёміўся з маладым і энергічным кс. пробашчам з Быстрыцы, да якога я таксама збіраўся праз пару дзён трапіць у госці. У іх светлым таварыстве правялі мы цэлы вечар у прыемнай размове.

Міхалішкі — гэта мястэчка, размешчанае на досыць нізкім і пясчаным левым беразе Віліі; яно адно з такіх мястэчак, якія звычайна здараецца напаткаць, ездзячы па Літве. Ад іншых яно нічым не адрозніваецца: малое, драўлянае, беднае. Усяго ў ім 62 дамы, а ў іх — 351 жыхар, з іх, паводле астатняй рэвізіі, яўрэяў — 250 чалавек, жыхароў рымска-каталіцкага веравызнання — 100, татарын — 1, жанчын у ім жыве прыблізна такая ж колькасць. Рынак у ім квадратны, недагледжаны, пасяродку яго — маленькія крамы. Ёсць у гэтым мястэчку ўправа станавога начальніка паліцыі, сталая кватэра доктара і той касцёл з плябаніяй, дзе мы гасцюем ад учарашняга дня. Гэтыя землі, як сцвярджае мясцовае паданне, доўгія гады належалі роду нейкіх Міхальскіх, ад якіх яны перайшлі па спадчыне ва ўласнасць Бжастоўскіх. Тыя, валодаючы вельмі абшырнымі землямі ў гэтых краях, да апошніх гадоў былі ўладальнікамі Міхалішак. Нарэшце, з-за ўрадавых запазычанасцяў, што цягнуліся гадоў сорак, з-за даўгоў прыватных асобаў адбылася перадача маёмасці неплацежаздольных даўжнікоў крэдыторам, і землі аказаліся разарванымі на часткі. Міхалішкі, занятыя памешчыкам Котвічам, сёння з'яўляюцца яго спадчыннай уласнасцю. Калісьці гэтае мястэчка было вёскаю, якая называлася Вілеа. У 1689 г., як гэта бачна з прывілею, што захоўваецца ў гэтым мястэчку, Ян Уладзіслаў Бжастоўскі, рэферэндарый ВКЛ, Слабоцкі, Мядзёльскі, Аранскі, Даўгоўскі, Быстшыцкі etc. пры згодзе двух каралёў падняў яе да рангу мястэчка. Гэтым прывілеем, які даваў усім вольным людзям права будавання на вызначаных пляцах, ён пазбаўляў кожнага новага засяленца ад усіх павіннасцяў на 10 гадоў; пасля прашэсця 10 гадоў прызначаюцца падаткі як з зямлі, так і з піваварства, з мёдазбору; падаткі з забою жывёлы, са збожжа і г.д. Ён арганізоўвае суды між мяшчанамі і, у адпаведнасці са згодаю каралёў, дазваляе мястэчку Міхалішкі штодзённы гандаль і чатыры кірмашы на год. Такі прывілей рэферэндарыя Бжастоўскага, які служыў мястэчку Міхалішкі, пададзены ў 1815 г. у земскія акты Віленскага павета Рамуальдам Ясінскім; сын яго, Юзаф Бжастоўскі, у 1714 г. яго пацвердзіў, затым сын Юзафа, унук першага заснавальніка мястэчка, Станіслаў, пісарэвіч ВКЛ, быстрыцкі староста яго зацвердзіў, у другі раз. Шматразовыя пажары, якімі Міхалішкі былі ахоплены ў розныя гады, знішчалі іх і давялі да такога стану беднасці, у якім яны застаюцца і сёння. Сярод іншых збудаванняў, як гаворыць мясцовае паданне, згарэла ў іх і ратуша, якая з'яўлялася месцам правядзення судоў між мяшчанамі, згарэлі малыя крамы, што ажыўлялі гандаль гэтага мястэчка.

На гэтым можна было б скончыць гаворку пра мястэчка Міхалішкі, бо нічога цікавага расказаць пра яго больш не знайшлося, калі б у ім не было гэтага цудоўнага касцёла, які мае некаторыя гістарычныя ўспаміны. Заможны ў Літве род Бжастоўскіх заўсёды вызначаўся набожнасцю і густам, і відавочным сведчаннем таму з'яўляецца касцёл у Міхалішках, пра які мы збіраемся пагаварыць. Ян Бжастоўскі, рэферэндарый ВКЛ, заснаваў тут першы кляштар аўгустынаў *de paenitentia* (*лац.* для споведзі); затым Лукаш і Цыпрыян Бжастоўскія ў 1622 г., як гэта бачна пры наведванні касцёла, на месцы ранейшага драўлянага касцёльчыка, існаванне якога сёння тут адзначана драўляным крыжам, пабудавалі цудоўную і вялікую святыню. Два выхадцы з Фларэнцыі — архітэктар Пэнс і скульптар Пэрці — былі прыцягнуты да гэтай справы. Першы выбудаваў вялікія сцены даўжынёю 15 сажняў і шырынёю 9 сажняў з дзвюма не надта высокімі, але надзвычай фігурыстымі вежамі



і з акруглым бабінцам перад імі. Другі з іх усярэдзіне запоўніў касцёл багатай ляпнінаю і мноствам фігур, суразмерна і на патрэбным месцы расстаўленых і зручна між сабою ўпарадкаваных, накшталт касцёла св. Пятра ў Вільні.

У касцёле, акрамя вялікага алтара, дзе змешчаны стары абраз Маці Божай Балеснай, які лічыцца цудатворным, ёсць шэсць бакавых алтароў у гонар розных святых. З левага боку ад уваходу пад хорамі знаходзіцца капліца св. Юзафа, збудаваная Юзафам, сынам Яна Уладзіслава Бжастоўскага, а пад ёю — невялікі склеп з катакомбамі для грабніцаў сям'і Бжастоўскіх. У той капліцы знаходзяцца рэліквіі шматлікіх святых, яны размешчаны на алтары, дзе складзены ў вытанчанай формы раку, абабітую пасярэбраным пакрыццем. Пад ёю — невялікі абразок св. Кацярыны са славянскім надпісам, багата апраўлены ў срэбра і камяні. Гэты абразок, як сцвярджае мясцовае паданне, быў прывезены Бжастоўскімі з маскоўскіх войнаў. Сакрыстыя не мае старога і багатага начыння, ды і ў самім касцёле яго няма. Калісьці гэты касцёл славіўся багаццем свайго срэбра, але яно (з прычыны распачатага ксяндзамі канонікамі рэгулярнымі працэсу з біскупам Касакоўскім), будучы вывезеным, доўга заставалася ў Бжастоўскіх і, як мы зараз убачым, у выніку працэсу між законнікамі і домам Бжастоўскіх, не было вернутае касцёлу. Нейкую рэшту срэбранага і найбольш дарагога начыння міхалішскі касцёл яшчэ меў, але ў 1812 г., абрабаваны ў часе вяртання французаў з Масквы, страціў яго канчаткова. Нават раку з рэліквіямі непрыяцель вынес з касцёла, і калі пасля зрывання аднаго з пасярэбраных пакрыццяў пераканаўся, што акаванне не было срэбраным, кінуў гэтую святую захавальніцу, якую потым знайшлі ў лесе і вярнулі ў касцёл.

Канонікі *de paenitentia*, якія дзякуючы Бжастоўскаму абасналіся ў Міхалішках, былі адразу забяспечаныя добрым ахвяраваннем, бо мала таго, што іх фундатар адпісаў ім першы фальварак Мілашуны, ці Лабудзі, як пацвярджае рашэнне сейма 1653 г., у дадатак Цыпрыян Бжастоўскі са сваёю жонкаю Рахеляй Раецкаю, адрокся ад падораных яму каралём Янам Казімірам земляў маёнтка Буйвідзы, аддаўшы ў 1653 г. гэтую спадчыну ва ўласнасць кс. міхалішскіх канонікаў рэгулярных. Гэтае адрачэнне мужа і жонкі Бжастоўскіх на карысць законнікаў зацвердзіў сваім прывілеем у 1673 г. кароль Міхал Вішнявецкі. І зноў жа, паводле тастамэнту князя Марціна Гедройця, мсціслаўскага ваяводы, канонікі рэгулярныя атрымалі маёнтак Відзінішкі, дзе па волі фундатара былі пабудаваныя касцёл і кляштар для кс. канонікаў і інфулацыі.. Буйвідзы мелі таксама філіяльны драўляны касцёльчык, пры якім пастаянна жылі два канонікі.

Калі ўсё гэта адбываецца, і законнікі, не прадчуваючы бедстваў, якія павінны былі іх напаткаць, спажываюць даволі ладны кавалак хлеба, шчодра пададзены ім дабрадзеямі, біскуп Інфлянцкі Юзаф Касакоўскі сілаю адбірае ахвяраванні, адпісаныя князем Марцінам Гедройцем на карысць канонікам рэгулярным[1]. У гэты ж час граф Міхал Бжастоўскі разам са сваім крэўным Міхалам Радзішэўскім задумаў адабраць у ксяндзоў канонікаў свае маёнткі, аддадзеныя ім ягонымі продкамі — як з тых, што былі ўласнасцю (Мілашуны), так і з тых, што былі падараваныя каралём (Буйвідзы). Міхалішскія законнікі, перапалоханыя непрыяцельскімі крокамі, адкрыта распачатымі Інфлянцкім біскупам, не ведаючы яшчэ патаемных намераў Бжастоўскага, з поўным даверам перадалі яму ў дэпазіт багатае касцельнае начынне са срэбра і кляштарныя грошы, што меліся ў наяўнасці, на што Бжастоўскі выдаў законнікам гарантыйнае абавязацельства. Бжастоўскі і Радзішэўскі разам з біскупам Інфлянцкім вымушаны былі дзейнічаць у Рыме супраць законнікаў падманным чынам, калі абодва пад адной і той самай датай, г.зн. 6 верасня 1782 г., атрымалі ад Апостальскай Сталіцы булы: біскуп Касакоўскі — на вяртанне сабе маёнтка Відзінішкі, а два другія — на канфіскацыю ў законнікаў Мілашуноў і Буйвідзаў. У выніку папскіх булаў, *sub dolo* атрыманых, абодва занялі названыя маёнткі.

Біскуп, трымаючы пры гэтым духоўную ўладу ў сваіх руках, у 1783 г. забраў усю рухомасць і начынне — як касцельнае, так і кляштарнае; парушыў волю фундатара, выгнаў манахаў, пакінуўшы іх без сродкаў для існавання; устанавіў плябанію і свецкае пробаства на месцы кс. канонікаў. На гэткую несправядлівасць, нанесеную біскупам Інфлянцкім ордэну, тагачасны відзінішкаўскі інфулат кс. Казімеж Відмант напісаў маніфест. Пачаўся гарачы працэс. Канонікі рэгулярныя, убачыўшы, што яны пазбаўлены сродкаў, у 1784 г. абвінавацілі праз земскі троцкі суд як біскупа Касакоўскага, так і Бжастоўскага з Радзішэўскім у несправядлівым захопе маёмасці; Бжастоўскаму ж выставілі аб-

вінавачванне ў захоўванні ў яго срэбранага начыння і касцельных грошай. І хоць папская була не можа ігнараваць каралеўскай перадачы земляў, усё ж земскі троцкі суд па нейкай прычыне сваім дэкрэтам узвысіў яе і адхіліў вынікі абвінавачванняў; хоць Бжастоўскі і Радзішэўскі былі абвінавачаны ў незаконным захопе маёмасці, яна тым не менш не была вернута законнікам. Суды адносна той маёмасці цягнуліся доўгі час, і ў 1806 г. генеральны пракуратар ордэну кс. Тэафіл дэ Блок пісаў у суд новыя заявы на Міхала Бжастоўскага і Міхала Радзішэўскага наконт забранай імі маёмасці, а з Міхалам Бжастоўскім яшчэ раз судзіўся адносна вяртання земляў і несправядліва ім прысвоеных грошай. Абодва гэтыя звароты генеральнага ксяндза пракуратара былі ў той год надрукаваныя. Усе спробы і старанні манахаў аказаліся безвыніковымі, бо ў рэшце рэшт маёнтак Мілашуны застаўся пры Бжастоўскіх, Буйвідзы ж атрымаў Радзішэўскі. Працэс, звязаны з касцельным срэбрам і кляштарнымі грашыма, яны таксама прайгралі, паколькі з-за здрады аднаго з манахаў, на якую скардзіцца генеральны пракурор у сваім тлумачэнні, распіска Міхала Бжастоўскага была выкрадзена з кляштарнага архіва і вернута яму — і ў выніку ўсё для манахаў скончылася стратаю дэпазіта.

Пры першай ліквідацыі кляштараў на Літве, якая адбылася паводле распараджэння ўраду ў 1832 г., у ліку скасаваных дванаццаці кляштараў кс. канонікаў рэгулярных апынуўся і міхалішскі кляштар. Манахі саступілі месца свецкаму духавенству, праз якое парафія пачала лічыцца адміністраванай. Касцёл у Міхалішках, не маючы пры гэтых пераходах сталага апекуна, які б назіраў за яго зменамі, значна збяднеў. Хуткаплынны час пакінуў пасля сябе сляды мінулых гадоў, калі штогод, нязначна выбіваючы па адной цаглінцы з муру ці робячы нябачныя вышчарбіны ў даху, прывёў гэтую будову знутры і звонку да стану немалога знішчэння. Касцёл у Міхалішках патрабаваў неадкладнай рэстаўрацыі, і вось папярэднік сённяшнага пробашча, чалавек, як відаць, дбайны, але які не ўмее сабе ў гэтым парадзіць, пяць гадоў таму шчыра заняўся аднаўленнем касцёла: звонку старанна яго атынкаваў, пакрыў новы дах і вежы, усё памаляваў чырвонаю фарбаю — словам, прыгожа адрэстаўраваў і асвяжыў. Аднаўленне ж знутры ён даверыў густу і таленту свайго арганіста, які са шчыраю вераю, што ведае мастацтва, ажыццявіў гэтую рэстаўрацыю. Дык вось, той арганіст (прозвішча якога я не запісаў, пра што цяпер моцна шкадую), маючы перад сабою ўсе сцены і выкананую найлепшым чынам гіпсавую ляпніну забруджаныя, з-за часу і з-за нядбальства касцельнай прыслугі ў шматлікіх месцах пакрышаныя, адбітыя; з-за вільгаці, што трапіла ў касцёл праз старыя дзіркі ў даху адваленыя, будучы неабазнаным у мастацтве ляпніны, раптам ухапіўся за шчаслівую (так яму гэта, напэўна, здавалася) думку: зафарбаваць гіпсавыя рэльефы. І вось брудным блакітным колерам розных адценняў ён пафарбаваў сцены; вылепленыя на іх арнаменты памаляваў у зялёны колер; садавіну пакрыў жоўтаю фарбаю, а птушак абы-як страката папэцкаў; анёлкаў жа, якіх там размясцілася цэлае мноства ў разнастайных і поўных прыгажосці ўзаемаадносінах між сабою, пакрыў цялеснаю фарбаю; валасы, бровы і зрэнкі памаляваў чорнаю; бялкі вачэй старанна пабяліў. Такім чынам, на сценах прыгожага дагэтуль касцёла ўтварылася нейкая мешаніна колераў, нейкая стракатая мазаіка самага горшага кшталту, якая кожнага, хто ўваходзіць, збівае з панталыку, не даючы яму магчымасці адразу дадумацца, што магло паслужыць прычынаю такой перамешанасці найпрыгажэйшага мастацкага твора італьянскага скульптара з жахлівым пэцканнем міхалішскага арганіста?

Падчас гэтага абнаўлення касцёла злодзеі, пракраўшыся ў магільную капліцу Бжастоўскіх, павыдзіралі адтуль памятныя дошкі з англійскага волава, на якіх былі выгравіраваны надпісы пра памерлых; толькі адна з іх засталася нявыдраная — Ганны Бжастоўскай, родам з Мялешкаў. Святатацкая рука іншаземных непрыяцеляў, а потым злых людзей — жыхароў гэтага мястэчка — пазбавіла касцёл не толькі яго багаццяў, але і фамільных памятак роду Бжастоўскіх, якія былі ўласнасцю мясцовай гісторыі. Застаўся толькі адзін магільны помнік, што знаходзіцца ў самім касцёле, па левай руцэ ад уваходу — па Міхале Бжастоўскім,






ВКЛ, які я дастаў пермалявац сабе на памяць.

Перамаляваў я яшчэ і амбону, што знаходзіцца ў касцёле, якую рэстаўратар-арганіст, на шчасце, не закрануў. Сваім кшталтам і разьбою яна нагадвае амбону, з якой тры стагоддзі назад славуты Пётр Скарга залатою пальшчызнаю нёс слова Божае вернікам Вільні ў капліцы св. Казіміра.

Пад галоўным алтаром касцёла знаходзіцца даволі вялікі магільны склеп; у ім нямала трунаў рознай велічыні, амаль усе гнілыя. Шмат у якіх я падымаў века, і ў кожнай з іх нічога іншага, акрамя парэштак касцей, я не знайшоў. У некалькіх з іх былі змешчаны астанкі ксяндзоў, як можна было здагадацца па парэштках, што засталіся ад арнатаў.

Найбольшы гістарычны інтарэс, найбольшую мясцовую цікавасць уяўляюць тут званы, размешчаныя на адной з вежаў касцёла, бо на другой знаходзіцца гадзіннік. Гэта вялікія бронзавыя званы. Подступ да іх даволі цяжкі, немагчыма абысціся без спецы-






яльнай прылады, каб усё на такой вышыні можна было добра разгледзець. З дапамогаю прыемнага і шчырага ў сваім імкненні мне дапамагчы кс. Стшалецкага за пару гадзін былі пастаўлены рыштаванні, з якіх мне ўдалося агледзець самы вялікі звон. На ім з аднаго боку адлітая выява Маці Божай са святым Дзіцяткам на руках; пад ёю — вялікіх памераў, падзелены на чатыры часткі, гербавы шчыт Бжастоўскіх і іх сваякоў; вакол — шаснаццаць першых літараў, якія азначаюць імя, прозвішча і тытулы фундатараў.

Надпіс, адліты на звоне, відавочна, сведчыць нам пра тое, што Павел Цыпрыян Бжастоўскі хацеў з'яднаць народную памяць з успамінам пра паход на Маскву. Расказваюць тут, што чацвёрты звон, непараўнальна большы за гэтыя, пры пераправе яго праз Вілію патануў і дагэтуль там знаходзіцца. Тутэйшы лекар п. Мінікоўскі, абазнаны ў разнастайных мясцовых паданнях, сам збірае іх і з прыемнасцю ўсе мне перадаў. Ён нават паказаў мне месца на Віліі, у якім мусіць знаходзіцца той вялікі затоплены звон.

Цяперашні міхалішскі пробашч кс. Стшалецкі, выдатна разумеючы, якую шкоду італьянскаму стылю нанёс пры рэстаўрацыі касцельнага інтэр'еру ў Міхалішках літоўскі арганіст, шчыра задумаўся пра новую рэстаўрацыю гэтага касцёла.

Міхалішскі касцёл мае пры сабе два брацтвы: св. Ганны і св. Ружанца, зацверджаныя буламі Апостальскай Сталіцы, а менавіта папамі Бэнэдыктамі XIII і XIV — гэтыя булы захоўваюцца ў касцельным архіве. Штогод касцёл святкуе некалькі фэстаў, і сярод іх фэст у гонар св. Антонія лічыцца адным з найбольш значных. У гэты дзень, як толькі настала раніца, навакольны люд ужо пачаў збірацца на вуліцах мястэчка і перад касцёлам. Тут, на чыстай Літве, бо ад ракі Ашмянкі, нібы ад яе натуральнай мяжы, ужо ўсе сляды гэтай народнасці відавочна праяўляюцца, пачынаючы ад мовы, ужыванне якой мы тут сустрэлі, і ажно да асаблівасцяў людзей, і менавіта жанчын, усё адрозніваецца ад суседняга крывічанскага племені. Тут жанчыны высокага росту, у большасці светлавалосыя; насы маюць малыя, акруглыя (а зусім не такія, як у тых — вялікія і правільнай формы); твары доўгія і выцягнутыя. Гэтая розніца, на першы погляд, нязначная, на самай справе даволі важная і характэрная для кожнага, хто звык развіваць свае пошукі з роздумам і ўвагаю, бо ў яе адценнях можна ўгледзець тую дробную разнавіднасць, якая адрознівае між сабою групы плямёнаў. Жаночы строй таксама значна адрозніваецца ад строю, ужыванага нашымі сялянкамі; на дзяўчатах гэта назіраецца ў меншай ступені, бо тут, як і ў нас, носяць хусткі на галаве, толькі большыя і па-іншаму завязаныя; носяць гарсэты, стракатыя фартушкі, любяць пацеркі і бліскаўкі і ўпрыгожваюць галаву шматлікімі кветкамі, якія робяць іх галовы больш вялікімі, чым правільнымі: гэта лепш выяўляе ва ўборах элегантнасць і стараннасць. Бачыў я ў касцёле некалькі стройных дзяўчат, якія мелі на галаве па дзве вялізныя півоні. Маладыя замужніцы адрозніваліся ад дзяўчат кісейнымі чапцамі і хустачкамі, што пакрывалі іх плечы. Сталыя жанчыны, гэтыя вясковыя матроны, апранаюцца зусім інача: не знойдзеш тут ні нашай палатнянай наміткі, ні шэрай сярмяжнай світкі — яны носяць на галаве каптуры; жакеткі ў іх багатыя, як належыць заможным. Каптуры гэтыя носяць у форме нібыта біскупавай мітры, зробленыя з багатага шоўку ці з блішчастай парчы, і невялікую хустку, абкручаную каля ілба вакол галавы, з-пад якой выходзяць два «вухі» з той самай багатай матэрыі, у многіх яны ўпрыгожаны кісейнаю каймою ці каронаю, што ўтварае найвышэйшую элегантнасць. На каляровай спадніцы і вельмі стракатым фартуху яны носяць сурдуцікі з цёмна-сіняга сукна, з аксамітным каўнерам, з бліскучымі гузікамі; зроблены яны да таліі і заканчваюцца вышэй каленяў, а ззаду часта збіраюцца ў складкі; у некаторых я бачыў пры гэтым сурдуціку пелярыну. Мужчыны апрануты не менш шляхетна: яны носяць нейкія сурдуты з шэрага сукна, крой якіх цяжка апісаць — нешта сярэдняе паміж старым капотам і сучасным сурдутам, усе ў доўгіх ботах, часта па верху падпяразаныя чырвоным пасам.

На працягу гэтага аповеду шматразова згадвалася пра род Бжастоўскіх. Мы яшчэ раз вер-



немся да гэтага імені і скажам, што праз пару вёрстаў ад мястэчка ёсць яшчэ і сядзіба Міхалішкі — некалі пышная, прыналежная гэтаму вядомаму ў краіне роду рэзідэнцыя, рэшткі якой сёння ледзьве захаваліся.

Палац у тых Міхалішках, што некалі славіўся гасціннасцю і гучным жыццём і без перапынку адчыняў свае шырокія дзверы перад гасцямі розных рангаў і вартасці, бо, як сцвярджаюць, прымаў ён і каралёў, — у 1812 годзе быў спалены французамі, і з прычыны разладжаных спраў у родзе Бжастоўскіх ужо не мог быць нанова адбудаваны і быў пакінуты ў руінах. У гэтых руінах без дзвярэй і вокнаў і ў давяршэнне з вывернутай пярэдняй сцяной яшчэ засталіся сляды панскай раскошы і гаспадаровай выгоды. Пра першае сведчаць разбураныя печы з ляпнінаю, рамы і іншыя аздобы, што засталіся на паверсе, у жылых пакоях; сляды ж другога можна бачыць у прасторных падземных скляпеннях, што цягнуцца не толькі пад домам, але і па-за домам, у шырокіх калідорах і сутарэннях, усюды сёння парослых густым пустазеллем і крапівою.

Вакол палаца яшчэ ледзьве відаць сляды — але ўжо толькі сляды — саду, што акружаў калісьці гэтую панскую рэзідэнцыю. Захавалася яшчэ некалькі старых дрэваў, якія засталіся тут ад зніклых прысадаў і сёння стаяць нібыта неўпарадкавана, не на належных ім месцах. Ёсць яшчэ каналы і сажалкі, зарослыя травою, і нейкія сляды тэрасаў і зямельных насыпаў. Непадалёку ад гэтых звалак яшчэ стаіць малы мураваны двухпавярховы лямус, зачынены жалезнымі, моцна акаванымі дзвярыма; дзве старыя ліпы, між якімі ён стаіць, абхапілі яго сваімі галінамі з усіх бакоў. Перажыўшы вякі і сваю пышнасць, ён з такой самай абыякавасцю захоўвае сёння старыя парваныя хамуты, з якой шмат гадоў назад замыкаў, напэўна, багатыя склады рыцарскай зброі і іншых нацыянальных каштоўнасцяў, як і не менш каштоўнага срэбранага начыння і хатніх рэліквій.

Усе руіны — гэта, несумненна, вартая пашаны нацыянальная спадчына; яны — нібы гістарычныя рэліквіі, але выгляд кожнай з іх напаўняе смуткам сэрца чалавека, калі нагадвае яму пра яго велічнае мінулае, якое дайшло да такога заняпаду і паўстае перад цяперашнім пакаленнем у выглядзе вострых шчарбатых чорных праломаў, аб якія бесперастанку разбіваецца слабая думка аддаленых у часе сённяшніх жывых, духоўна здрабнелых іх нашчадкаў, — думка, якая не прадказвае багатых вынікаў для чалавецтва.

Сапраўды, сумна тут, між старых руінаў, сярод якіх абсалютна чужы ім сённяшні чалавек, блукаючы па іх, адчувае, што ён не варты даўнейшай веліччы, і тады толькі ўздыхне з болем і не раз горка заплача над часам, які адышоў. І мы, сумныя, пад уплывам гэтага ўражання, вяртаемся як мага хутчэй да нашага гасціннага пробашча. Там, між сучасных па жыцці і па думцы людзей, мы лягчэй паразумеемся.



Наведаўся я ў гэты дзень да п.[ана] Мінкоўскага ў яго ўласным доме. П.[ан] Мінкоўскі — таксама калекцыянер: ён мае невялікі збор рэдкіх рэчаў — трохі з мастацтва этрускаў, трохі з саксонскага фарфору, сярод якога заслугоўвае ўвагі кубачак з накрыўкаю, на якім намаляваны ў медальёне бюст Стан. Аўгуста, вакол яго выведзены надпіс «*Stanislaus Augustus Rex*». На сподачку — разгорнутая кніга, пры ёй посах справядлівасці з адным паднятым угару пальцам, лаўровы вянок і ўсе атрыбуты, якія азначаюць памятны прававы закон, прыняты ў 1791 годзе. Гэты кубачак можна было б сёння залічыць да ўжо рэдкіх памятак, якія адзначалі ў тым годзе такую слаўную падзею ў краіне. Пабачылі карабелы, гузікі ад фракаў, якія насілі падчас гэтай падзеі; стужкі ад дамскіх убораў і нават цэлыя сукенкі з прынятым да гэтай акалічнасці дэвізам. Кубачак, пра які ідзе гаворка, відавочна пераконвае нас, што мусілі быць таксама сталовыя прылады і начынне, зробленыя з нагоды гэтай радаснай нацыянальнай урачыстасці. Да гэтага кубачка падабраў п. Мінкоўскі і адпаведную срэбраную лыжачку, таксама рэдкую, якую мне давялося ўпершыню тут пабачыць. На ёй быў рэльефны адбітак князя Юзафа Панятоўскага такі, якім яго заўсёды малююць, — у пакрытым буркаю мундзіры. Зверху — выпуклы надпіс: «Юзаф князь Панятоўскі»; унізе, пад бюстам — вядомы ўсім дэвіз гэтага героя. Пан Мінкоўскі ў гэтых двух прадметах аб'яднаў адносна вялікае імя пляменніка з найвышэйшым момантам панавання яго стрыя. Калі пан лекар пабачыў, што мне гэтая лыжачка спадабалася, ён дастаў з пісьмовага стала другую, падобную, і падараваў яе мне на памяць; яна і сёння знаходзіцца ў маім зборы нацыянальных памятных рэчаў.

Існуе ў гэтым наваколлі шырокавядомая і ўсімі гавораная прымаўка: «Падняўся, як жыд Міхалішскі». Пачуўшы яе, я на месцы

запытаў, адкуль яна ўзяла пачатак і што магла б значыць. Мне растлумачылі, што калі міхалішскія жыды займаліся крадзяжом коней, то адзін з іх, схоплены на гэтым злачынстве, быў адпраўлены на шыбеніцу, тым самым даўшы пачатак гэтай прымаўцы.

Набажэнства ў Міхалішках закончылася. Запрошаныя пробашчам шматлікія госці сышліся ў плябанію на абед, пасля якога, яшчэ раз падзякаваўшы за мілы прыём, са шкадаваннем адмовіўшы сардэчным просьбам і настойванням гасціннага пробашча пераначаваць у яго хоць бы яшчэ адну ноч, я выправіўся ў далейшы шлях. Судна толькі каля 5-й гадзіны адплыло ад берага. Непагадзь, холад і стрэчны вецер суправаджалі маё падарожжа. Як толькі мы выйшлі на раку, распачаўся такі нечаканы шторм, што над маім суднам, падкіданым хвалямі Віліі, навісла пагроза перавярнуцца. Мы не адплылі нават паўвярсты, як трэба было прыбіцца да берага і чакаць, аж пакуль неўтаймавальная вада супакоіцца. <...>

Пасля найбольшых з усіх перажытых намі няўдачаў падчас падарожжа, азяблыя і змучаныя, заначавалі мы ў першым гумне на беразе, да якога нам ледзьве ўдалося прыбіцца тады, калі ўжо амаль настала ноч.

Дзень, які толькі распачынаўся, рагарнуў перад намі надзвычай прыгожае наваколле. Гэта былі Вартачы — вёска, размешчаная на высокай гары, адкуль адкрываўся шырока раскінуты цудоўны краявід. Каля яе падножжа маляўніча заварочвала Вілія. З раніцы пачаўся моцны вецер, які ўсё ўзмацняўся, не абяцаючы нічога добрага майму плаванню. Змяніўшыся ў віхор, ён так раздражніў лагодную і спакойную плынь Віліі, што рака бесперастанку пенілася, шумела і бурліла і, вырываючыся на шырокае раздолле, пагражала небяспекаю кожнаму, хто б надумаўся падужацца з ёю. Наш стырнавы адштурхнуўся ад берага, і маё судна, якое пачало кідаць ва ўсе бакі, ужо не слухалася яго загадаў, але, трапіўшы ва ўладу неўтаймавальнай вады, увесь час знаходзілася пад пагрозаю перакуліцца альбо ўрэзацца ў камень. Тройчы мы адштурхоўваліся ад берага, спрабуючы, ці ўдасца нам паплыць — і тройчы мы вярталіся назад, паколькі не было ніякай магчымасці плысці далей. Цэлы дзень давялося нам прастаяць на месцы, бо шторм, які ўвесь час узмацняўся, трываў ажно да самага вечара. На гэтыя нашы водныя манеўры, на гэтае шматгадзіннае змаганне з дзвюма грознымі стыхіямі, якімі былі стрэчны вецер і раз'юшаная вада, глядзела зверху, сабраўшыся на беразе, усё вясковае насельніцтва. Калі ж мы, супраць нашага жадання, вярнуліся назад і зноў прычалілі да гэтай вёскі, праўда, з іншага яе канца, то, не маючы што рабіць, я адправіўся наводзіць знаёмства з яе жыхарамі, каб паразмаўляць з імі пра іх беды і іх клопаты. Сярод гэтага саслоўя людзей, як і сярод любога іншага, нямала можна пабачыць і бяды, і клопатаў, а жаданне паскардзіцца на іх, выгаварыцца пра іх перад чужынцам, які з цярплівасцю будзе мець ласку іх выслухаць (што ў іх рэдка здараецца, бо нараканняў сялянскіх ніхто звычайна слухаць не любіць), прыносіць ім палёгку ў іх пакутах. Аказалася, што ў вёсцы, акрамя жыхароў сталага веку, была вялікая грамада дзяцей рознага ўзросту, пачынаючы ад падлеткаў, якія яшчэ нічога сур'ёзнага не робяць, ад дзяўчынак, якія толькі бяруцца ў рост, да грудных дзяцей, якіх маткі носяць на руках. Усе яны з цікаўнасцю акружылі мяне, гледзячы як на нейкае з'явішча, як на пацярпелага крушэнне, якога немаведама які вецер выкінуў на іх бераг. Ад бацькоў паступова перайшла гаворка да дзяцей, і я пачаў аднаго за адным экзаменаваць па найбольш важнай навуцы, найбольш патрэбнай хрысціянскаму чалавеку — кожны па чарзе павінен быў мне паўтарыць пацеры. Тут я больш адчувальна пераканаўся, што ў гэтай дыяцэзіі духавенства старанней, чым у іншых, клапоціцца пра распаўсюджванне касцельнай навукі, бо кожны з дзяцей гэтай вёскі, як старэйшыя, так і меншыя, выдатна, без памылкі, гаварыў мне пацеры. Якая ж вялікая была радасць у бацькоў, якое нічым не апісанае шчасце ў дзяцей, калі я кожнаму з іх за тое, што добра ведалі пацеры, з маіх падарожных запасаў падараваў святы медалік ці крыжык. <...>

А 6-й гадзіне раніцы мы ўжо былі ў Быстрыцы. Быстрыца знаходзіцца ў Віленскім павеце, на левым беразе Віліі, пры ўпадзенні ў яе малой рэчкі Быстрычанкі — гэта адна са шматлікіх каралеўшчын, якая знаходзілася ва ўласнасці Бжастоўскіх. Пачынаючы ад Жодзішак і аж да Няменчына, уздоўж берага Віліі і далёка ўглыб гэтай часткі краю, здараецца напаткаць арэндныя землі менавіта Бжастоўскіх — ці спадчынныя, ці каралеўшчыны; і паўсюль можна пабачыць сляды іх велічнага жыцця — ці ў руінах палацаў, ці ў фундацыях і забеспячэнні касцёлаў. У Быстрыцы па-над Віліяй ёсць мураваны касцёл[2]. Касцёл гэты, як і міхалішскі, належаў некалі кс. аўгустынам *de paenitentia*, ці канонікам рэгулярным. Хто іх тут фундаваў, калі яны былі сюды прысланыя — даведацца пра гэта з мясцовых архіваў немагчыма. Але ў тым, што канонікі ў Быстрыцы жылі вельмі даўно, пераконвае нас і час іх ліквідацыі, бо ў адным з касцельных дакументаў ад 1822 г. я знайшоў тлумачэнне, што яшчэ 14 жніўня 1528 г., пасля скасавання ў Быстрыцы канонікаў *de paenitentia*, Жыгімонт І прызначыў сродкі для віленскага суфрагана, аддаючы яму касцёл і частку мястэчка Быстрыца разам з яго карчмою, і наступныя фальваркі: Дуды, Мілен, Дзіва і Альшэц, з тою ўмоваю, каб наступныя суфраганы ўтрымлівалі пры быстрыцкім касцёле трох ксяндзоў, дырэктара школы і касцельную прыслугу. Забяспечаны такімі сродкамі, быстрыцкі пробашч кс. Антоній Жулкоўскі, біскуп Моленскі, суфраган, прэлат, дэкан катэдральны, афіцыял генеральны віленскі, у 1760 годзе збудаваў гэты касцёл. Скончыў яго знутры і асвяціў у імя Узнясення Святога Крыжа кс. Тамаш Зянковіч, біскуп Арыяпалітанскі, суфраган, прэлат, дэкан катэдральны віленскі. З



цягам часу, калі быстрыцкае пробаства невядома па якой прычыне выпала з рук віленскіх суфраганаў і трапіла ў рукі простых пробашчаў, і яго сродкі аказаліся значна больш сціплымі, тады паволі, паступова касцёл пачаў занепадаць.

Мураваны касцёл у Быстрыцы не мае ніякага чыстага стылю; у яго архітэктурнай кампазіцыі дзе-нідзе выступаюць прапорцыі італьянскага стылю, змешаныя з формамі стылю касцёлаў, часта будаваных у Польшчы. Гэтае збудаванне мае даўжыню 18, а шырыню 9 сажняў; франтальна мы бачым дзве ладныя, даволі высокія вежы; між імі — значнай вышыні франтон, амаль акругла завершаны, з крыжам наверсе. Прэзбітэрый у гэтым касцёле з заходняга боку мае авальную форму, над ім знаходзяцца абабітыя бляхаю і пакрытыя дахоўкаю вежы, якія завяршаюцца пазалочанымі крыжамі з шарамі.

Гэты касцёл патрабуе сёння значнага рамонту, і менавіта званку: паламаныя кроквы пагражаюць хуткім абвалам даху; карнізы ад вільгаці паабрываліся, і нідзе вакол няма прыстойнага акружэння. Унутры касцёла я не знайшоў ніякіх памятак, якія б маглі сведчыць пра яго старажытнасць. Толькі на вежы знаходзяцца два прыгожа адлітыя званы. На большым з іх зноў пабачылі «Стрэмя» — герб Бжастоўскіх, над якім вакол ідзе надпіс:

P. P. L. C. B. L. V.



An. 1704 haec campana Ecclesiae ofer
M. J. B. S. AD. M. D. G. B. V. M. L. Loc.

На другім, меншым, пад арнаментам, які акружае яго зверху, размешчаны шэраг галовак анёлаў з крыльцамі. З фасада, па абодва бакі ўваходных дзвярэй, знаходзяцца дзве ўмураваныя куніцы — апошні помнік, які нагадвае нам пра самаўпраўную ўладу, якую мелі калісьці служкі касцёла над верным яму народам. Вось і ўсё, што можна паведаміць пра быстрыцкі касцёл.

Затым я прыступіў да далейшых даследаванняў — збору мясцовых песняў і паданняў. Што да песняў, то тут справа пайшла значна лягчэй, чым папярэдне. «Сельское управление», прысылаючы нам жанчын і дзяўчат — вядомых у гэтай воласці спявачак, аблегчыла нам гэтую складанасць. Дзяўчаты і жанчыны, асмялеўшы ад майго прыёму і ад майго абыходжання, адна перад другой наперамену пачалі дыктаваць свае сельскія песні. Запісалі мы нямала іх, прымеркаваных да розных акалічнасцяў. Тут існуе вялікая разнастайнасць мясцовых песняў, і ўжо не павет, не воласць, але амаль кожная ваколіца спявае нешта іншае пры сваіх асноўных абрадах, пры народных урачыстасцях ці за працаю. Пачынаючы ад межаў Свянцянскага павета, просты люд выглядае ўсё больш абыякавым да мясцовых паданняў; абыякавасць жа гэтая разам з бегам Віліі, набліжаючыся да вялікага горада, якім з'яўляецца Вільня, значна павялічваецца. Гэта я заўважыў у маім цяперашнім падарожжы. Тут, у Быстрыцы, напрыклад, ні пра што нельга даведацца — ці то з-за раўнадушнасці да мясцовых успамінаў, ці з-за нейкай недаравальнай ляноты? Бацька неахвотна расказвае пра сваё мінулае сыну, сын жа лянуецца распытаць бацьку пра мінулыя часы; і гэтак на кожным пакаленні перарываецца тая нітка, якая звязвае нас з мінуўшчынай, і такое стаўленне выпрацавала ў народа поўную абыякавасць да даўнейшых паданняў і поўнае іх занядбанне. Колькі ж спатрэбілася намаганняў, колькі давялося задаваць разнастайных пытанняў, перш чым нечага дабіцца, перш чым тутэйшым людзям удалося нешта згадаць пра іх мясцовасць, пазначаную нейкім успамінам. Апытаныя мною такім спосабам вяскоўцы ледзьве здолелі згадаць, што за некалькі вёрст ад Быстрыцы, у старой, парослай адвечнымі дубамі пушчы, знаходзіцца высокая і вельмі крутая гара — Замкаўшчына, і што там, як сцвярджаюць людзі, стаяў калісьці замак. Гэтага мне толькі не хапала! Хоць замак гэты, што знаходзіўся за некалькі вёрст ад берага, ляжаў за межамі маіх пошукаў, прывязаных толькі да берагоў Віліі, аднак на гэты раз я адступіўся ад сваіх ранейшых правілаў. Бяру людзей, наймаю коней, забіраем з сабою вымяральныя прыстасаванні і едзем на Замкаўшчыну. Едучы некалькі вёрст на сялянскіх вазах па найгоршай, якую толькі можна сабе ўявіць, дарозе, мы спыніліся ва ўрадавым засценку, які зваўся Лінамаргі. Адтуль, з мясцовым леснікам на чале, пехатою ідзем у лес. Напэўна, праз вярсту, у старой, адвечнай, перамяшанай дубамі яловай пушчы, зарослай галлём да такой ступені, што сярод дня ў ёй заўсёды цёмна і холадна, мы ўбачылі, як перад намі паўстала настолькі крутая гара, што ўзлезці на яе з гэтага боку было немагчыма. Леснікі правялі нас вакол яе і ў больш даступным месцы мы ледзьве ўскараскаліся на яе вяршыню. У такім вялікім гушчары немажліва было ні агледзець, ні адразу зразумець яе формы, аднак, абследаваная па частках, яна не пакідала сумнення ў тым, што на яе хрыбце над насыпам калісьці працавала чалавечая рука. Намі былі расстаўлены вымяральныя

прыстасаванні, і калі пасля праведзенага вымярэння ўся форма гары легла нам на столік, стала зразумела, што вакол нас знаходзіліся ўмацаванні, якія мелі роў у 800 квадр. сажняў паверхні, акружаны насыпным валам вышынёю 7 з паловаю сажняў над гэтым ровам, без адзінага выразнага ўваходу ў яго. Звонку ж на 8 з паловаю сажняў ад вяршыні насыпу на ўсход і поўдзень знаходзіцца глыбокі роў, у якім 14 ямаў дакладнай квадратнай формы, дзе кожны бок квадрата мае паўтара сажня. Гара гэтая мае занадта малую паверхню для абароннага замка, затое мае ўсе прыкметы ахвярнага гарадзішча. Значыць, у старажытнасці гэта было месца ўслаўлення багоў, у глыбокім ірве якога няспынна гарэў агонь. Што маглі б значыць у рве тыя ямы, якім магло быць іх прызначэнне ў старажытнасці — не магу з упэўненасцю разгадаць, а здагадак і меркаванняў маіх у гэтым пытанні выказваць не адважваюся. Замкаўшчына тая, тапаграфічна абмераная і перамаляваная, легла ў папку мясцовых памятных мясцін, сабраных мною ў гэтым падарожжы. На хрыбце тых умацаванняў, што акружалі ахвярны роў, я знайшоў некалькі струхлелых пнёў, што засталіся ад вялізных дубоў — гэта былі апошнія рэшткі тых святых гаёў, якія ў паганскай Літве павінны былі акружаць усе месцы, прызначаныя для службы багам. Адзін з іх, на самым хрыбце ўмацавання, сёння ўжо павалены, ад якога застаўся тырчаць толькі гнілы пень, лічыўся з усіх сваіх равеснікаў найбольш шануемым дубам, бо пень яго, памераны мною, меў у акружнасці 9 аршынаў і 8 вяршкоў; адсечаную рэштку таго пня я забраў з сабою ў калекцыю айчынных старажытнасцяў.

Калі мы вярталіся з гэтай археалагічнай экскурсіі, праліўны дождж з частымі грымотамі захапіў нас па дарозе — мы прамоклі да ніткі; на давяршэнне непрыемнасці, калі вяскоўцы, уцякаючы ад дажджу, гналі коней без памяці па гарыстай і поўнай ямінаў і каменя дарозе, кожны з нас, на шчасце, без сур'ёзных вынікаў, хоць раз, але перакуліўся з возам.

Я вярнуўся прама ў плябанію, бо там быў раскватараваны. Кс. пробашча мы не засталі дома, ён ад'ехаў у Вільню, але пасля завязанага з ім знаёмства ў Міхалішках, паколькі ён ведаў, што я не абміну Быстрыцу, пакінуў святару, які яго замяняў, наказ прыняць нас у плябаніі. Таму мы разгасцяваліся ў гэтага ксяндза, чалавека надзвычай гасціннага, які нас сардэчна прыняў, — ён не толькі адчыніў нам для адпачынку плябанію, не толькі напаіў і накарміў, але ў дадатак забяспечыў запасамі з каморы, якія ў нас ужо заканчваліся і якіх тут немагчыма было дастаць за грошы.

Вяскоўцы, даверыўшыся мне за некалькі гадзін нашых кантактаў, падахвочаныя падараванымі мною ўзнагародамі, пачалі здабываць з памяці іншыя мясцовыя паданні. Праз тры вярсты за Быстрыцай, над Віліяй, казалі яны, ёсць шведскія магілы, але яны былі не такія цікавыя, як другія, што мы бачылі за ракою ў Свянцянскім павеце, бо з іх швед, як расказвалі сяляне, страляючы праз раку па касцёлу, разбураў яго муры. Атрымаўшы такія звесткі, я адразу ж з маімі людзьмі, з рыдлёўкамі, узяўшы з вёскі праваднiка, накіраваўся на тыя шведскія ўмацаванні. Гэта аказалася паганскае захаванне, складзенае з некалькіх дзясяткаў курганоў, парослых старымі дубамі і соснамі. Калі адзін з іх быў раскапаны і нічога ў сабе не змяшчаў, то ў мяне прапала ахвота праводзіць далейшыя раскопкі, тым больш што дождж і шалёны вецер увесь час перашкаджаў нашай рабоце.

*Пераклад з польскай мовы Уладзіміра Васілевіча.*

---

[1] Кс. Пшыялгоўскі, які напісаў «*Żywoty Biskupów Wileńskich*» пра захоп міхалішскіх земляў, так гаворыць: «Ксёндз Касакоўскі, будучы біск.[упам] Інфлянцкім, пад выглядам таго, што мае бедныя даходы, дамогся з Рыма дазволу заняць два кляштары кс. аўгустынаў белых: „Відзінішкі“ і „Міхалішкі“ з прыналежнымі да іх 700 хатамі ў Віленскай дыяц[эзіі], але без ведама Масальскага. Калі законнікі ніякім чынам не захацелі саступіць, Касакоўскі, сабраўшы сялянаў з Паволя і Жэймаў, а таксама ахвотнікаў са шляхты, нанёс удар па кляштары ў Відзімішках, пусціўшы ў ход гармату і снарады, і выгнаў манахаў. Тады Масальскі, як паведамляецца ў акце, перад усёй капітулай сваімі вуснамі, поўнымі вытанчанага красамоўства, і з сэрцам, поўным пастырскіх пачуццяў, выказаў яму ўсё абурэнне, заяўляючы, што будзе бараніць гэты закон ад такой напасці, а лісты, атрыманыя з Рыма, будзе лічыць фальшывымі ці зробленымі падманным чынам» (гл. «*Żywoty Biskupów Wileńskich*». T. 3, s. 200–201).

[2] Касцёл у Быстрыцы належыць да адной з першых фундацый, ажыццёўленых у Літве Уладзіславам Ягайлам пасля прыняцця ім хрысціянскай веры («*Żywoty Biskupów Wileńskich* przez Xiędza Przyjałgowskiego». T. I, s. 18).

**Каментарыі**

Успамін *святога Антонія* Каталіцкі Касцёл адзначае 13 чэрвеня.

*Рэферэндарый* — у старой Польшчы служачы, які выслухоўваў розныя бакі, рэферыраваў справы ў каралеўскай канцыляры.

*Пісарэвіч* — сын пісара, каралеўскага служачага.

*Бабінец* — прыбудова да святыні з боку галоўнага фасада, над якой узводзілі званіцу.

*de paenitentia* — ад пакуты.

*Міхал Карыбут-Вішнявецкі* (1640–1673) — кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1669-1673). Апошні прадстаўнік малодшай лініі княжацкага роду Вішнявецкіх герба «Карыбут» (Гедзімінавічы). Абраны на пасад 19 чэрвеня 1669 г. пасля адрачэння Яна II Казіміра.

*Інфулацыя* — пробаства, парафія, davераная духоўнай асобе, якая не з'яўляецца біскупам, але мае права нашэння інфулы (мітры).

*Падскарбій ВКЛ* — захавальнік скарбу ў ВКЛ, які, апрача захавання казны, выплочваў заробак войску, кантраляваў збор падаткаў і мыты. Пасля Уніі 1569 г. — падскарбій вялікі літоўскі.

*Sub dolo* — падступнасць.

*Мастацтва этрускаў* — частка старажытнаіталійскай культуры Віллановы (IX–V ст. да н.э.), а таксама іншых рэгіёнаў Усходняга Міжземнамор'я (Старажытная Грэцыя, Малая Азія, Сірыя, Фінікія).

*Памятны прававы закон, прыняты ў 1791 годзе,* — маецца на ўвазе Канстытуцыя 3 мая.

*Карабелы* — шаблі з рукаяткаю ў выглядзе стылізаванай галавы арла, якія польская шляхта насіла ў якасці элемента параднага строю.

*Юзаф Антон Панятоўскі* (1763–1813) — ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, князь, генерал-лейтэнант польскай арміі, маршал Францыі.

*Каралеўшчына* — землі ў старажытнай Польшчы, якія належалі каралю, а з XVI ст. перайшлі ў склад дзяржаўных земляў Рэчы Паспалітай.

*Суфраган* — самастойны біскуп правінцыі, падпарадкаваны мітрапаліту або арцыбіскупу.

*Афіцыял* — духоўны служачы пры біскупе, які выконвае пэўныя касцельныя функцыі, як правіла, калегіяльна з іншымі духоўнымі асобамі.

*Куніцы* — сродак пакарання ў выглядзе жалезнага абруча, прымацаванага да слупа (тут — да дзвярэй касцёла), які выкарыстоўваўся для заціскання шыі ці рукі пакаранага.

# ВІНЦЭНТ ВАЛАДКОВІЧ — ПАПЛЕЧНІК ЭДВАРДА ВАЙНІЛОВІЧА

Валадковічы шчасліва жылі ў Цэнтральнай і Усходняй Беларусі. Яны казалі, што там — як у Бога за пазухай. Сапраўды так і было да таго часу, пакуль гэты ідэальны свет не ператварыўся для іх у мора тугі і роспачы.

На працягу доўгага часу маёнтак Валадковічаў знаходзіўся ў Дэкшнянах, каля Радашковічаў, і толькі ў другой палове XVIII ст. да сямейнага маёнтка быў далучаны Іваньск, які знаходзіўся за дзесяць кіламетраў ад Чашнікаў. Ён паволі ператвараўся ў галоўную сядзібу. У пачатку XIX ст. там з'явіўся вялікі аднапавярховы дом.

Менавіта туды 15 жніўня 1873 г. Вінцэнт Валадковіч, сын Ігнацыя і Аліны з князёў Друцкіх-Любецкіх, які быў адным з самых заможных землеўладальнікаў, прывёў сваю маладую жонку Зоф'ю з Гарцінгаў — дачку Густава і Эльфрыды з тых жа князёў Друцкіх-Любецкіх. Зоф'я не асабліва вабіла сваёй прыгажосцю, але была вельмі прыемнай, з элегантнымі манерамі, а перадусім мела добрае сэрца.

Маладую пару звязвала блізкая роднасць: іх маці былі сёстрамі, таму згоду на шлюб маладыя павінны былі атрымаць у Папы Рымскага. Дазвол прыйшоў, бо такія адносіны паміж сваякамі ў шляхецкіх і арыстакратычных родах былі нярэдкасцю ў тыя часы.

Вінцэнт лічыў Іваньск самым лепшым месцам у свеце: тут ён вырас, ведаў кожную сцяжынку, але яго маладая жонка, якая большасць сваіх маладых гадоў правяла ў Дрэздэне, не ведала тут нікога, акрамя сваёй старэйшай сястры Эльфрыды, жонкі Казіміра Сялявы, якая жыла ў Лепельскім павеце. Для Зоф'і Іваньск са сваёй адметнай культурай, мілагучнай мовай, з праваслаўнымі крыжамі на скрыжаваннях дарог быў светам, які штодзённа знаёміў яе з чымсьці новым, але, дзякуючы Вінцэнту і вялікай сардэчнасці сваякоў і суседзяў, ён стаў для яе ўласным светам. Вінцэнт намагаўся, каб яго жонка, якая прызвычаілася да заходняга камфорту, і тут ні ў чым не мела нястачы. Муж паклапаціўся, каб маёнтак быў камфортным, каб там было ўсё самае новае. Як толькі стала магчымым, там з'явілася электрычнасць, хутка быў падключаны нават тэлефон, што лічылася рэдкасцю. Толькі Валадковіч не рашаўся набыць аўтамабіль, бо лічыў, што ён ніколі не заменіць коней.

Іваньск стаў для Валадковічаў асяродкам трывалага сямейнага жыцця, бо тут нарадзіліся іх дзеці: Юзаф, Міхал, Густаў, Ігнацый, Геранім, Марыя, Казімір, Генрык і Канстанцін (Міхал і Канстанцін памерлі ў раннім узросце).

Валадковічы вельмі хацелі, каб іх дзеці атрымалі лепшую адукацыю. Нянькі, якія працавалі з дзецьмі, маглі быць і тутэйшымі, але гувернантак і настаўнікаў запрашалі з Францыі, Германіі ці Англіі, а таксама з Польскага Каралеўства. Пані Зоф'я, якая выхоўвалася ў Дрэздэне, найбольш цаніла нямецкі персанал.

Дзеці Валадковічаў вывучалі гісторыю, геаграфію, матэматыку, былі ў іх заняткі па польскай мове і музыцы, яны размаўлялі на французскай, нямецкай і англійскай мовах. Кантактуючы з мясцовымі жыхарамі, гаварылі і па-беларуску, аднак найважнейшай была польская мова, бо так хацелі бацькі. Яны таксама вырашылі, што ў іх доме рускую мову не могуць выкладаць расіяне, але гэта не было выдатнай ідэяй, у чым пераканаліся іх сыны падчас навучання ў гімназіі: «Рускую мову, нягледзячы на тое, што вывучаў у Іваньску, ведаў вельмі дрэнна. Гэта не дзіўна, калі ўзяць пад увагу, што выкладалі яе палякі, асяроддзе было пераважна польскім, сяляне і частка службы размаўляла па-беларуску. Большасць калег была здзіўлена маім акцэнтам, а не раз мне дакучала, калі замест расійскіх слоў ужываў беларускія выразы, што вельмі часта здаралася».

Вінцэнт клапаціўся аб адукацыі ўласных дзяцей, але не забываўся і аб сваіх супрацоўніках. Самыя здольныя былі адпраўлены на вучобу ў школы і ва ўніверсітэты, нават за мяжой.

Пасля заканчэння хатняй адукацыі сыны Валадковічаў паехалі вучыцца ў гімназіі Пецярбурга. Наступным крокам стала вучоба ва ўніверсітэце. Юзаф выбраў палітэхніку ў Рызе, Густаў — хімію ва ўніверсітэце ў Германіі, Ігнацый — права ў Пецярбургу. Бацькі часта да іх прыязджалі, знаёміліся з ўмовамі, у якіх яны жылі, цікавіліся поспехамі ў навуцы.

Дачка Валадковічаў, як і сыны, была акружаная колам настаўнікаў. Бацькі лічылі, што ёй хопіць і хатняй адукацыі, але дзяўчына вырашыла, што трэба вучыцца, як і яе браты. Толькі хацела вывучаць не права ці хімію, а медыцыну. Бацькі не маглі ўявіць сабе, што дачка будзе дзесьці вучыцца, — лічылі, што яна павінна найперш выйсці замуж, бо сям'я і дзеці — галоўнае прызначэнне дзяўчыны з добрага



Вінцэнт Валадковіч з дачкою Марыяй.



Зоф'я Валадковіч.

дома. Але Марыя расла амбітнай і ўпартай, не адчувала паклікання да сямейнага жыцця.

І дзяўчына настаяла на сваім. Большую частку года яна правяла ў Цюрыху. Неўзабаве магла прымяняць свае веды па медыцыне на практыцы, і яе бацькі адкрылі невялікі шпіталь у Чашніках. А калі ўжо атрымала дыплом, бацькі падаравалі ёй шпіталь для дзяцей у Вільні. І так моцна яна была з'яднаная з гэтай былой сталіцай ВКЛ, што па заканчэнні Другой сусветнай вайны не паехала ў Польшчу, дзе жылі яе браты, — яна хацела быць як мага бліжэй да свайго шпіталя і назаўсёды засталася ў Вільнюсе.

Калі Вінцэнт Валадковіч стварaў уласную сям'ю, ён меў каля 75 гектараў не толькі лясоў, палёў і вёсак, але таксама і некалькі мястэчак, такіх, як Чашнікі ў Лепельскім павеце, Смалявічы — у Мінскім. Ён быў адным з самых багатых землеўладальнікаў на Беларусі, але перадусім — дасканалым гаспадаром, здольным паклапаціцца як пра свае інтарэсы, так і пра тых, каго наймаў.

Гаспадар Іваньска сваім вопытам дзяліўся з іншымі землеўладальнікамі — быў дэпутатам ад шляхты Лепельскага павета, адным з кіраўнікоў Віцебскага сельскагаспадарчага таварыства. У яго маёмасці былі млыны, лесапільні, вінакурні, фабрыка кардону і паперы, а таксама шкляны завод.

У Валадковіча працавалі пераважна католікі, якія часта прыязджалі сюды з аддаленых мясцовасцяў. Гэта ўплывала на колькасць вернікаў бешанковіцкай парафіі, якая расцягвалася на 30 вёрстаў. Сярод парафіянаў пераважала шляхта, было крыху рабочых фабрыкі і зусім няшмат сялянаў. Значна павялічылася колькасць парафіянаў дзякуючы папяровай фабрыцы Валадковічаў, дзе працавала шмат католікаў. Шкляны завод і папяровая фабрыка дзейнічаюць і да гэтага часу. Папяровая фабрыка называецца «Чырвоная зорка».

«Гонарам Іваньска быў вядомы па ўсёй Расіі табун рысакоў, які займаў першыя месцы на пецярбургскіх і маскоўскіх трасах, спаборнічаў з такімі табунамі, як князя Давіда Сан Данато». Стайня была недалёка ад парку. Побач з ёй знаходзілася вялікая траса для трэніровак. Коньмі займаліся маладыя хлопцы, якія насілі белыя курткі ў сінія палоскі. Уладальнік меў да іх спецыяльныя патрабаванні: «Прымаю на службу толькі дасціпных і непітушчых хлопцаў сярод мясцовага насельніцтва». П'янства было строга забаронена, і за шклянку гарэлкі вінаваты адразу ж губляў працу, але такое здаралася.

Вінцэнта Валадковіча з дзяцінства цікавіла гісторыя. Калі ён ездзіў да бабулі Ядвігі, любіў праводзіць час на паддашку: «Усё гарышча было завалена рознымі старымі рэчамі, сярод якіх была старажытная зброя і яшчэ шмат чаго цікавага. Акрамя панцыраў, на паддашку ў Дэкшнянах стаяла некалькі камодаў з дакументамі, звязанымі ў пачкі. Але, на жаль, частка гэтых папераў была пагрызена пацукамі».

Вінцэнт цаніў сувеніры з мінулага і ахвотна збіраў іх у Іваньску. З часам аказалася, што яго старая сядзіба ўжо не магла змясціць усіх экспанатаў. Тады вырашылі ўзвесці новую. У другой палове XIX ст. як працяг старога маёнтка была прыбудавана новая частка, каб размяшчаць памятныя рэчы. Недалёка ад новага маёнтка была ўзведзена двухпавярховая прыбудова, у якой жыла прыслуга.

Стары маёнтак і новы палац былі акружаныя вялікім паркам у англійскім стылі — з газонамі, клумбамі, ліпавымі алеямі. Была там і аранжэрэя, у якой разводзіліся экзатычныя расліны. Тую частку дома ад гаспадарчых будынкаў, стайні і трасы аддзяляла цагляная агароджа. У цэнтральным пункце парку сярод соснаў размяшчалася альтанка, у якой любілі адпачываць Валадковічы і іх госці падчас шпацыраў. Сцяжынкі былі высыпаныя пакрышанай чырвонаю цаглянаю крошкаю. На краі парку стаяла капліца, а ў ёй — фігура Езуса ў цярнёвай кароне, з выцягнутымі рукамі, звязанымі срэбнымі шнурамі. Гэта фігура праз шмат дзесяцігоддзяў апынулася ў



Іваньск. Сядзібна-паркавы ансамбль Валадковічаў.

касцёле ў Чашніках. Калі пасля студзеньскага паўстання капліцу аддалі пад царкву, фігура была перанесеная ў сядзібу Валадковічаў, тады з Чашнікаў у Іваньск таксама трапілі і срэбныя воты.

Сёння ўжо марна шукаць у Іваньску прыгожы парк, акружаны цагляным мурам, няма следу ні дрэваў, ні чырвоных сцежак.

У новай сядзібе, у галоўнай зале, размяшчалася галерэя сямейных фотаздымкаў. У наступным памяшканні захоўвалася калекцыя фарфору, сярод якой былі посуд і вазы. Асобная зала была прызначаная для срэбра — падсвечнікі, скрынкі, талеркі. На сценах вісела старая зброя. Аднак сярод тых калекцый не знайшліся рэчы, якімі Вінцэнт захапляўся на паддашку ў Дэкшнянах: «Тую зброю, даспехі, сёдлы, старадаўнюю збрую і некаторыя іншыя рэчы з Дэкшнянаў падаравала мая бабуля каля 1856 г. музею ў Вільні, які быў заснаваны Яўстахіем Тышкевічам».

Усе калекцыі былі ўпарадкаваны спецыяльна запрошанымі ў Іваньск гісторыкамі. У архіве Валадковічаў захоўваліся у 237-мі скрынках 9613 дакументаў... Валадковіч планаваў падзяліцца сваімі музейнымі скарбамі — вынікам шматгадовых стаświęнняў і пошукаў, але не паспеў — перашкодзіла вайна. Сёння ад сядзібы засталіся толькі часткі сценаў, паміж якімі расце пустазелле і гуляе вецер.

Сярод землеўладальнікаў Віцебшчыны Валадковічы лічыліся не толькі вельмі заможнымі людзьмі, але і вялікімі дзівакамі. Гэта сцвярджаў кожны, хто прыязджаў да іх у госці. Гаспадары Іваньска звычайна прачыналіся а сёмай гадзіне вечара, адразу ж падавалася гарбата, а дзясятай накрывалі на стол. Усе адміністрацыйныя справы звычайна вырашаліся ноччу, а раніцай пан Валадковіч з жонкай сядалі ў карэту і ехалі на фабрыку, каб заплаціць працаўнікам, ці ў чарговы раз аб'язджалі фальваркі. Пасля снядання гаспадары ішлі адпачываць. Увесь двор быў прыстасаваны да такога распарадку дня. У выпадку прыезду асабліва важных гасцей распарадак дня змяняўся, але часова.

У Іваньск часта прыязджалі сёстры Зоф'і — Эльфрыда, якая жыла побач, Аліна прыязджала з Грушаўкі Ляхавіцкага павета. Жыццё, напоўненае дзіцячым гоманам у двары Валадковічаў, вельмі радавала яе. Аліна бязмежна любіла дзяцей, але сваіх так і не дачакалася. У Грушаўцы тую пустату запаўняла грамадскай дзейнасцю на карысць касцёла. Дзякуючы ахвярнасці пані Аліны і яе мужа, Юзафа Рэйтана, у 1907 г. у Ляхавічах, недалёка ад Грушаўкі, паўстаў касцёл св. Юзафа. Яна з вялікай радасцю прымала сям'ю сястры ў сябе ў Грушаўцы — з такой нагоды абавязкова ладзіліся прагулкі ў Мураванку, у тое месца, дзе трагічна загінуў Тадэвуш Рэйтан, адзіны пасол Польшчы, які супрацьстаяў рынку, пратэставаў супраць першага падзелу краіны. Маладыя Валадковічы дзякуючы бацьку захапіліся гісторыяй, уважліва слухалі аповеды пра чалавека, якога ўвекавечыў на палатне Ян Матэйка.

На пачатку сусветнай вайны Валадковічы, як і іншыя землеўладальнікі Віцебшчыны, былі перакананыя, што праз некалькі



Папяровая фабрыка «Чырвоная зорка».

месяцаў усё ўладкуецца, а яны нават не адчуюць, што была вайна. Праз два гадыВаладковічы змянілі свае думкі. Але і тады аб ад'ездзе з дому не было і мовы, ніхто сабе гэтага і не ўяўляў.

Валадковічы выехалі з Іваньска ў пачатку 1917 г., калі пачаліся пагромы маёнткаў і заставацца там ужо стала небяспечна. Падчас падрыхтоўкі да эвакуацыі кожны член сям'і меў сваё заданне: Вінцэнт займаўся коньмі, яго сын Юзаф клапаціўся аб архіве і карцінах.

У часе нямецкай акупацыі ў 1918 г. Юзаф вывез архіў у дзвюх вялізных скрынях у Мінск і пакінуў у кватэры на вул. Каломенскай, а адтуль яго забраў Тадэвуш Кожан. Тадэвуш ўратаваў вельмі каштоўны архіў Завішаў, прывезены з Кухчыцаў па просьбе Магдалены Радзівіл. Каталог архіва Юзаф забраў з сабой. Акрамя таго, у кабінеце Вінцэнта было некалькі пергаментаў, сярод якіх — сапраўдны прывілей на кірмашы ў Чашніках з подпісам Станіслава Аўгуста 1782 года. Гэты пергамент разам з іншымі быў знішчаны падчас эвакуацыі з Іваньска.

Напярэдадні выезду пан Валадковіч са сваім слугою закапалі ў парку скарбонку са срэбрам, каб забраць яе ў спакайнейшыя часы. Слуга прысягаў, што дагледзіць яе, але, калі спатрэбілася яе перавезці, скарбонка са срэбрам знікла.

У лютым 1918 г. вярнулася Зоф'я Валадковіч, каб яшчэ штосьці ўратаваць. З папяровай фабрыкі «Скін» удалося адправіць у Мінск машыны. У 1918 г. Валадковічы пераехалі з Мінска ў Варшаву, а калі была падпісана Рыжская дамова і іх землі аказаліся на бальшавіцкім баку, было вырашана шукаць новае месца жыхарства, але ўжо пад чужым небам. Так яны апынуліся ў Быдгашчы. Чаму менавіта ў Быдгашчы? Магчыма, Вінцэнт Валадковіч быў знаёмы з Эдвардам Вайніловічам, бо яны былі членамі Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі. Магчыма, яны сустракаліся, і таму Эдвард дапамог пераехаць у Быдгашч.



У жніўні 1923 г. Валадковічы святкавалі свой залаты юбілей. Гэта не была ўрачыстасць, вартая Іваньска. Госці не сядзелі ў вялікай сталовай з партрэтамі продкаў, не мелі магчымасці захапляцца ні прыгожым старым фарфорам, ні цэнным срэбрам. Не хапала адданай службы, няшмат сваякоў магло прыехаць, каб разам з юбілярамі адсвяткаваць гэты важны ў гісторыі сям'і момант.

Па фотаздымку відаць, што, згодна з традыцыяй, юбіляры сядзелі перад аб'ектывам: яна — у простай цёмнай сукенцы з карункавым каўнерыкам, а ён, як заўжды, элегантны і годны. Валадковічы трымаюць у руках юбілейныя жэзлы — сімвал залатога юбілею. Магчыма, думаюць аб тым, як бы гэты дзень выглядаў у Іваньску. Напэўна, ім было шкада, што не могуць атрымліваць асалоду ад сямейнага шчасця там, дзе пражылі столькі добрых гадоў...

Вінцэнт Валадковіч памёр 17 красавіка 1927 г., а яго жонка на год пазней — 11 кастрычніка 1928 года. Магчыма, што бацькі яшчэ перад смерцю папрасілі, каб на могілках у Быдгашчы была пахавальня для ўсёй сям'і, каб у будучыні ўсе зноў былі разам, як кальсьці ў Іваньску.

*Кацярына Качарго.*
*Паводле кнігі*
*Gizeli Chmielewskiej*
*«Kropla goryczy».*

*Фотаздымкі з*
*http://www.pomorska.pl*
*і http://www.radzima.org*

**Кацярына Качарго** — рэдактар выдавецтва «Тэхнічная літаратура». Нарадзілася 27 студзеня 1994 года ў Мядзелі. У 2016 годзе скончыла факультэт Выдавецкай справы і паліграфіі БДТУ.

Тамаш Гай ОР

# РАМАН НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

*Паліцы ў кнігарнях ломяцца пад цяжарам кніг з парадамі псіхолагаў: «Як палюбіць сябе?», «Як заставацца ў згодзе са сваім жыццём?», «Як прыняць сваё мінулае?» (ёсць нават прапановы накшталт «Як за 30 дзён умацаваць пачуццё асабістай годнасці?» або «Палюбі сябе за месяц»). Прычына гэтай з'явы — у сучаснай папулярызацыі псіхалагічных ведаў. Аднак варта задаць сабе пытанне: калі нам прапануюць такія выданні, значыць, на іх існуе попыт? Адкуль ён бярэцца? Віктар Франкл, псіхіятр, псіхатэрапеўт, заснавальнік логатэрапіі, чыя кніга «Чалавек у пошуках сэнсу» разышлася мільёнамі экзэмпляраў, узгадваў, што большасць журналістаў, якія рабілі з ім інтэрв'ю, першым задавалі такое пытанне: «Доктар Франкл, Вашая кніга — абсалютны бестселер. Што Вы думаеце пра свой незвычайны поспех?». Аўтар звычайна адказваў, што лічыць поспех сваёй кнігі не сваім асабістым поспехам і дасягненнем, а хутчэй доказам духоўнай нястачы ў наш час. Калі мільёны людзей звяртаюцца да кнігі з назвай, якая ставіць пытанне пра сэнс жыцця, значыць для іх гэта надзвычай актуальная, надзённая праблема. Магчыма, сённяшняя зацікаўленасць літаратурай, прысвечанай пачуццю асабістай годнасці і любові да сябе, таксама выяўляе значнасць праблемы, якая нас трывожыць.*

**Як сябе самога…**

Дарагі чытач, цяпер я хачу прапанаваць табе невялікі тэст. Засяродзься, звярні ўвагу на ўласную асобу і скажы сабе самому ў думках або ўголас: «Я прымаю сябе, цаню сябе, люблю сябе, прабачаю сабе»... Якія адчуванні і ўражанні гэта ў цябе выклікала? Ці не ўзнікала цяжкасці і ўнутранага супраціву, калі ты прамаўляў гэтыя словы, ці адчуваў ты ў душы гонар і радасць, ці табе здалося ўсё гэта глупствам, ненатуральным і недарэчным? А можа, гаворачы, ты адчуў, як смутак сціскае горла, бо ўжо вельмі даўно такія словы не гучалі з тваіх вуснаў? «Любі бліжняга, як самога сябе». Немагчыма любіць іншых, калі не любіш сябе. Развіваючы думку: немагчыма жыць у еднасці з іншымі, калі жывеш у бясконцай вайне з самім сабою. Мы ўсе ведаем значэнне гэтага біблійнага выразу, ён здаецца нам ужо зацяганым, але нам вельмі складана са шчырасцю сказаць сабе і іншым: «Я люблю сябе, прымаю сябе, прабачаю сабе...» У мяне такое ўражанне, магчыма, і памылковае, што гэтая праблема найчасцей узнікае ў веруючых людзей, перакананых, што чалавек павінен любіць Пана Бога і бліжняга, ненавідзячы сябе, забываючы пра сябе. З дзяцінства нам кажуць, што любоў да сябе — гэта эгаізм. Як доказ гэтага памылковага сцвярджэння цытуюць словы Езуса: «Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе і возьме крыж свой, і ідзе за Мною» (Мц 16, 24). У некаторых перакладах «адрачэцца ад сябе» тлумачаць як «пакіне "я" за сабою». Атрымліваецца, што гаворка ідзе не пра тое, каб ненавідзець сябе, а пра тое, што нашае (фальшывае) «я», якое нас зняволіла, закрыла нам свет, трэба пакінуць за сабою. Эгаізм — гэта не любоў да сябе, гэта імя фальшывай любові да сябе. Такім чынам, евангельская нянавісць да сябе азначае не пагарду да ўласнай асобы, а іншае імя правільна акрэсленай любові да сябе.

**«А хто мой бліжні?»**

Нам добра вядомая прыпавесць пра добрага самараніна: на вандроўніка нападаюць злачынцы, рабуюць яго і, зраніўшы, пакідаюць на волю лёсу. Няшчаснага, які ляжыць пры дарозе, мінаюць святар і левіт. Абодва заўважаюць яго, але не дапамагаюць. Нарэшце нейкі самаранін, «праязджаючы, знайшоў яго і, убачыўшы,

**Тамаш Гай ОР** — дамініканін, тэолаг, псіхолаг і псіхатэрапеўт. Нарадзіўся ў 1974 годзе, жыве ў Варшаве.

зліцаваўся. Падышоў, перавязаў яму раны, паліваючы алеем і віном. Пасадзіў яго на сваю жывёлу, прывёз у заезд і паклапаціўся пра яго. А на другі дзень, ад'язджаючы, дастаў два дынары, даў карчмару і сказаў яму: Паклапаціся пра яго. І як патраціш больш, я аддам табе, калі вярнуся» (пар. Лк 10, 30–37).




Генрых Альдэгрэвер. «Прыпавесць пра добрага самараніна». Гравюра. 1554 г.

Езус адказаў гэтай прыпавесцю на пытанне кніжніка: «А хто мой бліжні?». Найчасцей мы разумеем яе, і гэта правільна, як заклік любіць сваіх бліжніх (асабліва няшчасных, пакрыўджаных лёсам). Мне хацелася б прапанаваць вам іншы погляд. На яго мяне натхнілі словы Карла Густава Юнга: «Тое, што я частую жабрака, прабачаю таму, хто мяне пакрыўдзіў, нават люблю ворага ў імя Хрыста, несумненна, можна высока ацаніць. Тое, што я чыню для найменшага з маіх братоў, я чыню для Хрыста. А што, калі б я цяпер зразумеў, што той найменшы, найбяднейшы з усіх жабракоў, той самы бессаромны крыўдзіцель з усіх, нават сам той вораг жыве ўва мне, што мне самому патрэбная міласціна маёй дабрыні, што я сам — той вораг, якога трэба любіць, што тады? Тады, як правіла, пераварочваецца ўся хрысціянская праўда, тады зусім знікаюць любоў і цярплівасць, тады мы кажам брату унутры нас: «рака́»*, тады асуджаем сябе, злуемся на сябе. Знешне мы хаваем, адмаўляем тое, што калі б сустрэлі такога найменшага з нас, хоць бы гэта быў сам Бог, які прыходзіць да нас у такой нікчэмнай постаці, мы б тысячу разоў адракліся ад Яго яшчэ да таго, як певень заспяваў бы першы раз».

Паглядзім на герояў прыпавесці ў кантэксце словаў Юнга. Абрабаваны і зранены чалавек, які ляжыць каля дарогі, — гэта тое, што ў нас зранена, пацярпела паразу, баліць, вартае сораму, зламанае, схаванае і самотнае, а дакладна тое, што трэба перавязаць, лячыць, што патрабуе ўвагі. Міласэрны самаранін і святар з левітам сімвалізуюць два спосабы стаўлення да самога сябе (і асабліва да зраненай і абрабаванай нашай часткі). Тут патрэбныя дужкі і невялікае тлумачэнне. Нашае стаўленне да саміх сябе будуецца на працягу ўсяго жыцця, і найбольшае значэнне ў гэтым маюць першыя гады. Кажучы простымі словамі, тое, як мы ставімся да саміх сябе, — гэта адлюстраванне таго, як іншыя (і найперш самыя значныя для нас асобы — найчасцей бацькі) калісьці ставіліся да нас. Гэта яны кажуць нам (наўпрост або іншымі словамі), кім мы з'яўляемся і чаго мы вартыя. Калі тыя значныя асобы ўважліва ставіліся да нашых патрэбаў, яны такім чынам вучылі нас, што мы вартыя любові і прымання. Людзі, якія маюць такі досвед, у дарослым жыцці могуць цешыцца належным пачуццём уласнай годнасці, а любоў да сябе прыходзіць сама сабою. Яны здольныя прызнаваць свае памылкі, але не пакутуюць ад іх бясконца. Яны здольныя прабачаць і прымаць прабачэнне. Калі ж наадварот — у дзяцінстве апекуны былі да нас няўважлівыя, займаліся толькі сабою, а пра нас забываліся, былі суровыя (незалежна ад таго, былі нашыя правіны свядомыя або несвядомыя, значныя або нязначныя), тады любоў і пашана да саміх сябе, здольнасць прабачаць сабе становіцца для такіх людзей вялікай цяжкасцю. Замест гэтага яны аўтаматычна бясконца абражаюць сябе, крытыкуюць, застаюцца няўважлівымі да ўласных пачуццяў і выбару, заўжды адчуваюць віну.

Святар і левіт — гэта сімвал тых апекуноў, якія занядбалі

боўваюць і крытыкуюць сваіх выхаванцаў. Такія паводзіны значных для нас людзей вядуць да таго, што ў будучыні мы пачынаем ставіцца да сябе аналагічна: не ўмеем клапаціцца пра сябе, любіць сябе, жывём у бойцы з самімі сабою. Тое, што павінна было стаць падмуркам любові, стала асноваю аўтадэструкцыі, самаруйнавання. Святар і левіт бачаць зраненага чалавека, але не звяртаюць на яго ўвагі. Як часта людзі, якія пакутуюць ад пачуцця крыўды, кажуць пра сваіх бацькоў, сваякоў, настаўнікаў і катэхетаў: «Усе праблемы хавалі за шафу. Бачылі іх, але не звярталі ўвагі. Ніхто не заўважаў, як мне дрэнна. Я заставаўся сам-насам са сваімі няўдачамі».

Стаўленне міласэрнага самараніна да зраненага вандроўніка — гэта сімвал таго, як трэба ставіцца да сябе з любоўю і клопатам. Калі ў мінулым мы сутыкаліся з такім стаўленнем да сябе з боку іншых людзей, мы несвядома чынім гэтак жа. Тады праблемы няма. Мы ведаем, што павінны рабіць. Калі ж бліжнія ставіліся да нас сурова і крытычна, больш нагадваючы сваімі паводзінамі святара і левіта, міласэрнае стаўленне да сябе даецца нялёгка. Мы павінны навучыцца яму, і ў гэтым нам можа дапамагчы міласэрны самаранін. Вось шлях, якім мы павінны ісці: убачыў, злітаваўся, падышоў да зраненага і перавязаў яму раны, паліваючы алеем і віном, пасля пасадзіў на сваю жывёлу, прывёз у заезд і паклапаціўся пра яго. На наступны дзень аддаў яго ў апеку гаспадара. Гэты шлях можна разбіць на тры часткі: пазнай сябе, прымі сябе, пераступі праз сябе. Яго найперш трэба прайсці ў саміх сабе, каб быць здольнымі вырушыць насустрач іншым людзям.

**Пазнаць…**

Ісаак з Нінэвіі казаў: «Той, хто ўбачыў сябе самога, большы за таго, хто бачыў анёлаў». Параненага чалавека бачылі і святар, і левіт, але адзін толькі самаранін падышоў бліжэй. Пазнаць сябе можна толькі зблізу. Калі мы далёка ад сябе саміх, то няма чаго здзіўляцца, што мы не заўважаем пабітага чалавека. Вельмі часта мы не даем сабе рады ў працы, цяжкіх перажываннях і болю (асабліва псіхічным), замятаючы іх пад дыванок. Мы ўяўляем, што іх няма. Мы заплюшчваем на іх вочы або адварочваемся і паводзім сябе так, нібы нам нішто не перашкаджае ў дарозе. Але побач з нашаю дарогаю ляжыць пабіты чалавек. Калі хочаш пайсці далей, яго трэба заўважыць і падысці бліжэй. На практыцы гэта азначае, што не трэба ігнараваць свой боль, не трэба няўважліва ставіцца да яго і зменшваць яго. Нашая натуральная рэакцыя — аддаліцца ад балючых успамінаў і досведу (асабліва калі раней нас у гэтым ігнаравалі іншыя). Нават калі мы заўважаем гэтыя ўспаміны, то найчасцей хацелі б хутчэй пра іх забыцца. Мы ж тысячу разоў чулі ад блізкіх, знаёмых, святароў і духоўных кіраўнікоў, што трэба пакінуць мінулае ў мінулым, не засяроджвацца на тым дрэнным, што здарылася, а памятаць толькі добрае. Падысці да сябе — азначае агледзець увесь свой досвед: і добры, і прыкры. І яшчэ дадам: справа не ў тым, каб засяроджвацца на фактах — ці нешта сапраўды здарылася, ці гэта толькі маё перажыванне. Гэта не мае значэння, бо мы спрабуем падысці да сябе, а не да фактаў. Эмоцыі і пачуцці абвязкова прывядуць нас туды: беспамылкова пакажуць чалавеку шлях да сябе самога. Гэта не азначае, што яны — адзінае вымярэнне рэчаіснасці. Яны з'яўляюцца тэрмометрам для тваёй асобы, ключом да твайго ўнутранага свету. Толькі наблізіўшыся да сваіх пачуццяў і эмоцый (у тым ліку і да балючых) і пачаўшы перажываць іх без страху, мы зможам пазнаць іх і зразумець. Пазнанне і разуменне ўласных пачуццяў зберажэ нас ад занадта суровага самаасуджэння.

**Прыняць…**

Пазнаць і зразумець недастаткова. Гэтага замала. Што з таго, хто нехта ведае мяне, але не мае са мною аніякіх стасункаў? Мы хочам, каб нехта прыняў нас і палюбіў. Гэтага прагнуць нашыя сэрцы. Што зрабіў самаранін? Заўважыўшы параненага чалавека, ён глыбока ўзрушыўся і падышоў да яго. Натуральнай рэакцыяй на чалавечы боль і пакуты з'яўляецца эмпатыя. Падыходзячы да сябе, ты пазнаеш і пачынаеш разумець паранены бок уласнай асобы, і гэта натуральным чынам абуджае ў табе ўзрушэнне і спачуванне да сябе самога (асабліва калі ў мінулым гэтага было вельмі мала). Не будзем баяцца спачуваць самім сабе. Гэта нешта іншае, чым расчульвацца з прычыны ўласных патрэбаў або шкадаваць сябе з прычыны розных бедаў. Нікому не патрэбная літасць або сентыментальнасць, але ўсім патрэбнае спачуванне. Калі мы не здольныя спачуваць самім сабе, немагчыма праявіць эмпатыю да іншых або стаць на іх бок. Толькі тады, калі мы

навучымся спачуваць сабе, мы зможам прымаць спачуванне іншых і дазволіць, каб нехта апрацаваў нашыя раны і пачаў намі апекавацца. У такім лячэнні нам патрэбнае віно праўды (не праўды фактаў, а праўды ўласных перажыванняў, якім мы можам давяраць) і алей спачування.

Здольнасць прыняць пабітага і пашкамутанага чалавека вынікае з таямніцы ўцелаўлення. Хрыстус прыняў усё чалавечае, апроч граху (але з яго наступствамі і ранамі). Айцы Касцёла, каментуючы гэтую таямніцу, пісалі, што толькі прынятае можа быць пераменены. Духоўнасць, якая ігнаруе нашую чалавечую (параненую) натуру, закрывае нам шлях да зменаў і аздараўлення. Томас Мертан так казаў пра гэта: «Хрыстус, якога мы знаходзім у сабе, зусім не тое, чым мы беспаспяхова імкнемся захапляцца ў сабе, і не тое, што мы імкнемся абагаўляць. Ён атаясаміўся менавіта з тым, што найбольш перашкаджае нам у саміх сабе, узяўшы на сябе нашую пасрэднасць, нашае ўбоства і нашыя грахі. Немагчыма жыць у супакоі з самімі сабою, пакуль мы не зразумеем, што, адкідаючы і не прызнаючы свае слабасці, мы тым самым адкідаем Хрыста, які любіць нас не ў нашай чалавечай славе, а ў нашым найбольшым прыніжэнні».

**Пераступіць…**

Шлях распачынаецца з пазнання і разумення сябе, але не завяршаецца прыманнем і любоўю да сябе. Прыняць сябе і паяднацца з сабою — гэта сродак, а не мэта. Псіхалагічныя спосабы дапамагаюць нам пазнаць, прыняць і ўзмацніць уласнае «я». Рэлігія і духоўнасць дазваляюць нам пакінуць яго і пераступіць праз яго. У прыпавесці, якую мы разглядаем, гэта сімвалізавана даручэннем параненага падарожніка апецы гаспадара пастаялага двара. Міласэрны самаранін смела пакідае параненага чалавека, якому ўжо аказаная дапамога. Зразумела, што прысутнасць іншых людзей узнікае не толькі напрыканцы шляху. На кожным этапе нам патрэбны іншыя людзі, якія з любоўю клапоцяцца пра нас, вучаць нас таму, чаго нам бракуе. Натура не дазваляе нам замкнуцца ў сабе. Чалавек — сацыяльная істота, якой патрэбныя адносіны з іншымі. Гэта адбываецца, калі мы аддаем сябе камусьці ў свабодзе і любові. Часта гэта каханы чалавек, але абавязкова — Бог, якому належыць чалавечае жыццё. Як у XV стагоддзі напісаў швейцарскі містык і святы Мікалай з Флюэ: «Пане мой і Божа, забяры ў мяне ўсё, што мяне ад Цябе аддаляе, дай мне ўсё, што мяне да Цябе набліжае. Пане мой і Божа, забяры мяне ад мяне самога і аддай мяне ўсяго Табе».

**Дылема Нарцыса**

Сучасная заходняя культура часта называецца нарцысічнай. Напэўна, ніколі раней у гісторыі мы так моцна не засяроджваліся на ўласных патрэбах, прагненнях, свабодзе, выгодах, спажывецтве. Але ці не забыліся мы ва ўсім гэтым, што значыць сапраўдная любоў да сябе? Можа таму мы гадзінамі ўсляпую шукаем для сябе ўзоры. Можа з гэтай прычыны мы часта трапляем у пастку Нарцыса, які з бесперапынным самазахапленнем узіраецца ва ўласны адбітак. Аднак не забудзьмася, што пад усмешліваю і падцягнутаю ліфтынгам маскаю Нарцыса хаваецца трагедыя недахопу любові і пачуцця ўласнай годнасці. Нарцыс умее засяроджвацца на сабе, але не ўмее сябе любіць. Ён умее засяродзіць на сабе ўвагу іншых людзей, але не ўмее з любоўю прыняць іх. Ён пераблытаў любоў з захапленнем. Прагнучы любові, ён заўжды гоніцца за захапленнем. Але гэта сляпы завулак, тупік, бо захапленне і слава не могуць наталіць унутранага прагнення.

Оскар Уайльд сказаў: «Любіць самога сябе — гэта пачатак раману на ўсё жыццё». Давайце не затрымлівацца на самым пачатку — але дазволім сабе выплыць на глыбіню водаў любові. Тады мы ажыццявім той цудоўны парадокс, які так проста акрэсліў М. Бубер: «Пачынаць з сябе, але не спыняцца на сабе, лічыць сябе пунктам выхаду, але не мэтаю, пазнаваць сябе, але не займацца сабою».

Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.
Паводле: *“W drodze”*, № 12, 2011 год.

---

* Рака́ — дурань, пусты чалавек (арам.).

